+тэлепраграма

№ 13 (275) 5 красавіка 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Аднойленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА





# Пераемнік экзарха

**У Беларусі аднаўленыя ўсе гістарычныя праваслаўныя япархіі і пачынаюць утварацца новыя: у сан япіскапа Барысаўскага і вікарыя Менскай япархіі высьвечаны сакратар Менскага епархіяльнага ўпраўленьня архімандрыт Іван (у сьвеце Леў Хама). Гэта сведчыць пра ўмацаваньне Беларускай праваслаўнай царквы.**

*Ельцын беларускага праваслаўя прызначыў сабе Пуціна?*

Хіратонія адбылася 31 сакавіка падчас літургіі ў Менскім Сьвята-Духавым катэдральным саборы. Блаславеньне на гэта даў 13 сакавіка Сьвяты сынод РПЦ. Вікарны япіскап мусіць дапамагаць Філарэту кіраваць Менскай япархіяй, колькасьць прыходаў у якой з 1989 г. павялічылася ў шэсьць разоў і перавысіла трыста.

Япіскап Іван — правая рука Філарэта. Ён, фактычна асабісты сакратар экзарха, быў памочнікам мітрапаліта па япархіі і да высьвячэньня ў ярархі. Казаць пра тое, што менавіта Івана Філарэт хацеў бы бачыць сваім наступнікам, зарана. Па-першае, уладыка Іван пакуль не самастойны япіскап. Па-другое, **найбольш верагодным пераемнікам дагэтуль лічыўся архіяпіскап Віцебскі й Аршанскі Дзімітры. Акрамя таго, высокі аўтарытэт у царкве мае япіскап Гарадзенскі Арцемі.** Тым ня менш, "чалавек з манерамі Хамы і хваткаю Льва", як назваў яго карэспандэнту "НН" адзін з супрацоўнікаў епархіяльнага ўпраўленьня, які не пажадаў, каб ягонае імя прагучала ў газэце, ужо цяпер, у свае 39 гадоў, зьяўляецца адным з самых уплывовых у БПЦ.

Непрыяцелі ў япіскапа Івана ёсьць. На думку адных, ён занадта любіць матэрыяльны дабрабыт. Іншыя папікаюць яго "залішняй блізкасьцю" да Філарэта. Хадзілі таксама чуткі, што і вучоба ў Тройца-Сергіевай лаўры не далася б Ляву Хаму гладка, каб не дапамога менскага мітрапаліта. У Івана ёсьць і цалкам афіцыйная "хіба" біяграфіі: ён родам з Заходняй Украіны (ягонага бацьку завуць Даніла, а маці — Магдаліна), значыць, патэнцыйна ніздобранадзейны для праваслаўных фундамэнталістаў. Між тым, беларускамоўныя пасланьні Філарэта на вялікія сьвяты традыцыйна зачытвае Іван. Філарэт нарадзіўся ў Маскве і беларускай мовай валодае кепска. Аднак відавочна, што Іван мае досыць здольнасьцяў, каб павесьці за сабой царкву. Ёсьць і своя сымболіка ў тым, што гэты чалавек нарадзіўся 25 сакавіка, на Дзень Волі.

**Адразу пасьля высьвячэньня Івана адбылася сустрэча мітрапаліта з Лукашэнкам, на якой, калі верыць афіцыйнаму камунікату, гаварылася пра травеньскі візіт Аляксія і стан спраў у Магілёўскай япархіі. Размова магла ісьці і пра хіратонію, што прайшла напярэдадні.** Выбар наступніка Філарэта будзе залежаць ня толькі ад волі епіскапату БПЦ, але і ад пазыцыі Маскоўскага патрыярхату і настойлівасьці ўладаў Беларусі.

Наступнік Філарэта ў ідэале мусіць быць здольны на вырашэньне нялёгкай задачы: дасягнуць поўнае самастойнасьці Беларускае праваслаўнае царквы ад Расейскае такім чынам, каб пры гэтым абысьціся без расколу і падрыву аўтарытэту праваслаўя, як было на Ўкраіне.

Праваслаўныя цэрквы ў Сэрбіі і Баўгарыі маюць свае патрыярхаты, хоць насельніцтва гэтых краінаў і іх тэрыторыя меншыя, чым у Беларусі, а колькасьць беларускіх праваслаўных парафіяў імкліва здаганяе іхную. Беларускую праваслаўную царкву не назавеш і менш годнай перад Богам. У беларускай зямлі зазьзялі многія сьвятыя — ад Кірылы і Эўфрасіньні да пакутнікаў за веру ў 30-я гады XX ст.

Працяг на старонцы 3.



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

Зьлева направа: мітрапаліт Філарэт, япіскап пінскі і лунінецкі Стафан, япіскап тураўскі і мазырскі Пятро, настаяцель царквы Марыі Магдалены пратаярэй Іван Харашэвіч, пратаярэй Георгі Латушка: нававысьвечаны япіскап барысаўскі Іван у адпаведнасьці з абрадам цалуе пярсьцёнак япіскапа берасьцейскага і кобрынскага Сафронія.

## навіны

### Пагроза ратавірусу

**"НН" паведамляла пра ўспышку вірусное інфэкцыі невядомага паходжаньня ў Магілёве, дзе ад яе пацярпелі 250 дзяцей.** І вось выпадак аналягічнага захворваньня зафіксаваны ў Заслаўі, паведамляе наш карэспандэнт. У дзіцяці трымаецца высокая тэмпэратура, яго ванітавала. Дактары мяркуюць, што дзіця магло заразіцца ад бацькоў, у арганізме якіх меўся гэты невядомы вірус, але ніяк не праяўляўся. Заслаўскія дактары раяць гэтымі днямі пільней сачыць за асабістай гігіенай.

### "Полымя" ледзь курэе

**№3—4 часопісу "Полымя" выйдзе здвоеным, як і №5—6.** Аўтарам часопісу ганарараў не плацілі ад верасьня мінулага году.

Б.Т.

# БАБУЛЯ брытанскае нацыі

**На Вялікдзень у Вялікай Брытаніі памерла каралева-маці Лізавета I, маці цяперашняй каралевы Лізаветы II, праўдзівы сымбаль Злучанага Каралеўства. Упершыню пасьля сьмерці Чэрчыля загулі ўсе 12 званоў сабору Сьвятога Паўла.**



Яна памерла ў суботу ва Ўіндзарскім замку падчас сну. Пахаваньне адбудзецца 9 красавіка, каб усе ахвотныя пасьпелі разьвітацца з каралевай. Лізавеце I было 101 год, і пры яе жыцьці на брытанскім пасадзе зьмянілася 6 манархаў, на Даўнінг-стрыт — 16 прэм'ер-міністраў. Брытанія выйграла дзьве сусьветныя вайны і страціла імпэрыю, каб вярнуцца ў Эўропу роўнай сярод роўных. Яна амаль на паўстагодзьдзя перажыла свайго мужа караля Георга VI. Яе жыцьцё — адбітак гісторыі Брытаніі.

Лізавета паходзіла з шатляндзкага графскага дому Стрэтмараў. Яна нарадзілася 4 жніўня 1900 г. і таму добра памятала нават першую сусьветную вайну, у часы якой працавала мэдсястрой ва ўласным замку, пераробленым у шпіталь. Па вайне за ёй хацелі ажаніцца сэрбскі прынц Павал і брытанскі прынц Альбэрт. Двойчы Лізавета адхіляла прапанову Альбэрта, бо бацька дзяўчыны лічыў, што жаніх займае занадта высокае становішча. Урэшце, на трэці раз Лізавета згадзілася, і ў 1923 г. яны павянчаліся. Праз тры гады зьявілася першае дзіця — прынцэса Элізабэт, сёньняшняя каралева.

Альбэрт быў малодшым сынам Георга V і аб кароне ня марыў. Але 11 сьнежня 1936 г. ягоны старэйшы брат Эдуард VIII, які правіў імпэрыяй менш за год, адрокся ад трону са словамі: "Я ня бачу магчымасьці несьці ўскладзеныя на мяне абавязкі без кабеты, якую кахаю". Тагачасныя законы забаранялі каралю шлюб зь некаранаванай асобай. Каханкай караля была не шляхцянка, а разьведзеная амэрыканка Ўоліс Сымпсан, а таму шлюб быў немагчымым. Эдуард зрабіў выбар на карысьць каханьня і адмовіўся быць каралём.

12 траўня 1937 г. адбылася каранацыя Альбэрта, які стаў Георгам VI. Кажуць, што Лізавета так і не даравала Эдуарду, які разбурыў іх з Альбэртам спакойнае шчасьце, і таму колішні кароль усё жыцьцё мусіў правесьці на чужыне.

Многія сумняваліся, ці здолее нясьмелы і хваравіты Альбэрт быць каралём. Але яму дапамагла жонка, якая, трапіўшы на пасад, разгарнула актыўную дзейнасьць. Праблемаў было шмат — ёй нават удалося самой адвучыць мужа ад заіканьня.

Працяг на старонцы 5.

# Будзінас заняўся мэдыцынай

**Пісьменьнік і журналіст Яўген Будзінас адкрыў у Вільні клініку ананімнага лячэньня мужчынскіх праблем.**



Будзінас, які жыў у Менску, а працаваў карэспандэнтам часопісу *"Дружба народов"* ды друкаваўся найбольш у Маскве, цяпер пераехаў у Літву, патлумачыўшы свой ад'езд "беспэрспэктыўнасьцю змаганьня зь беларускім чалавекам за сваю фірму й музэй". Нагадаем, што сп.Яўген узначальваў выдавецкую фірму "Палітфакт", якая ў першай палове 90-х атрымала шмат выгадных падрадаў ад ураду і менскага муніцыпалітэту. У 1990 г. Будзінас не пабаяўся кінуць пальчатку мітрапаліту Філарэту на выбарах у Вярхоўны Савет у адной са сталічных акруг, але прайграў. Будзінас таксама стварыў Музэй беларускай культуры ў Дудутках — частае месца збору менскага сьвецкага таварыства ды замежных дыпляматаў. Там дзейнічалі майстэрні традыцыйных рамёстваў, лазьня і адзіны ў краіне афіцыйна зарэгістраваны самагонны апарат. Летась Будзінас выдаў кнігу, у якой у алегарычнай форме высьмеяў існуючы ў Беларусі палітычны лад.

У інтэрвію *"Белорусской газете"* Будзінас заявіў, што за 7 тыдняў у Літве пасьпеў зрабіць больш, чым за 12 гадоў у Беларусі.

Паводле нашай інфармацыі, ён заснаваў у Вільні клініку для мужчынаў, якія маюць праблемы з патэнцыяй і хацелі б лячыцца ананімна паводле стандартаў міжнароднае сыстэмы *"on clinic"*. Для гэтага ён выкупіў збанкрутаваную краму на віленскім Заречы і разбудаваў яе. Лякарня ўжо працуе. Яна разьлічаная на кліента са звышдаходамі. Новы бізнэс Будзінаса стварае ўражаньне, што ён пераехаў зь Менску ў горад свайго маленства не з пустымі рукамі. Паводле прыкладнай ацэнкі, агульны кошт інвэстыцый у новую клініку можа дасягаць мільёна даляраў.

Гэта ня першы выпадак перамяшчэньня беларускім бізнэсмэнам сваёй справы ў Літву, Чэхію ці Польшчу.

Мікола Бугай

"Наша Ніва" друкуецца толькі за Вашы грошы. Таму гэта Ваша газэта, незалежная газэта. Калі вы не падпішацеся, у газэты ня будзе грошай на выхад. Дык падпісвайцеся!

# Да 10 красавіка таньней

Нагадваем нашым сталым чытачам, што цяпер падпіскаю газэта абыходзіцца таньней. Падпісная цана застаецца нязьменная (**1348** рублёў на месяц), а вось у шапіках "Белсаюздруку" наша газэта каштуе **400** рублёў. І па меры інфляцыі гэтая сума будзе расьці далей.

Падпіску прымаюць да 10 красавіка ва ўсіх аддзяленьнях пошты, а таксама на шапікі "Белсаюздруку".

## навіны гаспадарскія

**БУДАВАЦЬ ПРЫВАТНЫЯ ДАМЫ** ў межах Менску цяпер нельга. Але рэканструкцыю прыватнага сэктару ніхто забараняць ня будзе, бо няма грошай на знос.

**ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ СУХАГРУЗ** клясу "рака-мора" дабудуюць у красавіку. З пачаткам навігацыі ён будзе хадзіць па Дняпры ў парты Чорнага мора. Перавозіць ім мяркуюць прадукцыю "Беларуськалію".

**МАРОЗАЎСТОЙЛІВУЮ ЦЭГЛУ** пачалі вырабляць на Менскім заводзе будматэрыялаў. Яна не раскрышыцца за 60 гадоў і каштуе ў 4 разы таньней за замежныя аналягі.

**ЦЭНЫ НА КВІТКІ** ў міжгародных аўтобусах падвысіліся на 25%. У прыгарадных — скокнулі адразу ў паўтара разу.

**НА 10% ПАДАРАЖЭЕ ТЭЛЕФОН** у красавіку. Тлумачыцца гэта малым прыбыткам "Белтэлекаму" — з пачатку году ён склаў усяго 1,7 млн. даляраў.

**КАНТРАБАНДА ЦЫГАРЭТАЎ** з Украіны і Расеі за студзень-сакавік зьменшыла даход бюджэту ад акцызаў на імпартныя цыгарэты на 60% (700 тыс. даляраў).

**КАЛЯ 1000 КРАМАЎ** зьліквідавана з пачатку году ў невялікіх вёсках — цяпер іх абслугоўваюць аўтакрамы. Летась страты ад гандлю ў вёсках склалі за 7 млн. даляраў.

**40 ДРОБНЫХ МАЛАКАЗАВОДАЎ** будуць зачыненыя. Сёньня яны ёсьць амаль у кожным раёне, аднак працуюць толькі напаўсілы, бо прадукцыя занадта дарагая і ня мае попыту. За мінулы год непрададзеныя запасы масла павялічыліся на 22%, сыру — удвая, а малочных кансэрваў — у 4 разы.

**РАДОВІШЧЫ НАФТЫ** на 400 тыс. тонаў знайшлі беларускія геолягі летась. Гэта прыкладна 1/27 частка ад гадавой патрэбы краіны.

**КРЭДЫТЫ НА 40 МЛН. ДАЛЯРАЎ** павінны выдаткаваць банкі сельскай гаспадарцы на сяўбу. Ці не палова калгасаў і саўгасаў дагэтуль не сплаціла леташніх пазыкаў, а таму ня можа атрымаць новых. У "Белнафтахіме" кажуць, што сёлета паліва на запраўках колькі хочаш, але прадаваць яго будуць толькі тым, хто ў стане заплаціць грашыма.

**ПРЫВАТЫЗУЕЦЦА** Магілёўскі завод штучнага валакна. Самі магілёўцы хочуць, каб яго купілі швайцарцы — кампанія "*United Technology Corporation*". Кантрольны пакет акцыяў застанецца ў дзяржавы. Лукашэнка падчас наведаньня прадпрыемства рэзка раскрытыкаваў яго мэнэджэраў, бо, абходзячы памяшканьні, пабачыў пацукоў. "Паловіце шчуроў — тады прыходзьце", — злосна заявіў ён дырэктару.

**НОВЫ** "Міжнародны рэзэрвовы банк" створаны ў вольнай эканамічнай зоне "Менск". Яго заснавалі некалькі швайцарскіх і расейскіх фірмаў. Напачатку ён будзе працаваць толькі з прадпрыемствамі.

**Сяржук Іваноўскі**




**На гэтым тыдні пачалася рэканструкцыя менскай плошчы Незалежнасьці. Рух транспарту паступова пераносіцца на вул.Савецкую, а з 8 красавіка пачнецца рэканструкцыя падземнага пераходу ля паштамту і разгорнецца будаўніцтва двух новых пераходаў: ад мэтро да Дому ўраду і каля пэдагагічнага ўнівэрсытэту. У выніку аўтамабільны рух на плошчы з кальцавога стане лінейным, уздоўж касьцёлу пасадзяць сквэр, паставяць помнікі "Народу-стваральніку" і Францыску Скарыну, якія, па задуме архітэктараў, маюць утварыць трыпціх з помнікам Леніну. Пад зямлёю мяркуюць пабудаваць чатырох'ярусны грамадзка-гандлёвы цэнтар з паркінгамі, крамамі, рэстарацыямі ды ўнівэрсальнай заляй на тры тысячы наведнікаў. Яе столя вышынёю 10 мэтраў будзе выходзіць на паверхню ў выглядзе купалу.**

# З садка ў войска

Сямігадоваму менчуку Алесю Стафейчуку прыйшла позва з ваенкамату. Здарылася гэта ў канцы лютага, а нагода расказаць пра нечаканую позву зьявілася ў Алесевых бацькоў напярэдадні 1 красавіка: у санаторных ясьлях-садку, куды ходзіць хлопчык, папрасілі прынесьці якія-небудзь забаўныя экспанаты для сьвяточнай насьценгазэты.

Афіцыйную паперу, што ўпрыгожыла саматужнае выданьне, падпісаў райваенкам Маскоўскага раёну Менску палкоўнік Яфрэмаў. У гадаванца ясьляў-саду запрасілі пашпарт, чатыры фатаграфіі, даведку зь месца работы або вучобы, характарыстыку, даведку з ЖЭСу і мэдыцынскую кніжку з прышчэпкамі. Усе гэтыя дакумэнты прадставіць было немагчыма, таму, нягледзячы на шчырае жаданьне Алеся адправіцца паслужыць у войска, паход у ваенкамат давялося адкласьці да лепшых часоў.



ІГАР МАКАЛОВІЧ "СБ"

Неўзабаве пасьля таго, як справа набыла розгалас, прычыну памылкі высьветлілі. Несапраўдныя зьвесткі ў ваенкамат дала адна зь лячэбных установаў, паслугамі якой карыстаўся Алесь. Зрэшты, памылка галоўдоктара была не такая ўжо і грубая: ён схібіў усяго з адной лічбай, указаўшы ў якасьці году Алесевага нараджэньня 1985-ы замест 1995-га. А прачуханку праз гэта атрымалі работнікі ваенкамату, якія паленаваліся праверыць атрыманую інфармацыю ў ЖЭСе.

**Паводле "Советской Белоруссии"**

## навіны за тыдзень

### Праблемы ў "Белавія"



**Толькі чатыры самалёты Ту-154М нацыянальнага авіяпарку адпавядаюць патрабаваньням Міжнароднай арганізацыі цывільнай авіяцыі (*ICAO*) паводле ўзроўню шумоў і экалягічнай бясьпекі, якія набылі сілу з 1 красавіка.** Цяпер "Белавіі" давядзецца шчыльней супрацоўнічаць з замежнымі авіякампаніямі (найперш расейскімі ды польскімі), якія маюць "Боінгі", "Аэробусы" ды іншыя сучасныя самалёты. Гэта пацягне за сабой павышэньне цэнаў на білеты. І хоць Вадзім Мельнік, першы намесьнік кіраўніка Дзяржкамавіяцыі, выказаўся за набыцьцё амэрыканскіх самалётаў, невядома, ці падтрымае яго ўрад, які аддае перавагу расейскім авіявытворцам.

### Пэрспэктывы "Ждановіч"

**На ўнівэрсальным рынку "Ждановічы" ў Менску вядзецца будаўніцтва шасьціпавярховага гіпэрмаркету гандлёвай плошчай каля 25 тыс. м².** У яго склад увойдуць аўтастаянка, вялікі прадуктовы аддзел, некалькі аддзелаў па продажы прамысловых тавараў, адзеньня, побытавай тэхнікі, а таксама павільён мэблі. Мяркуецца, што ўладальнікі гандлёвых месцаў на адкрытым рэчавым і закрытым прадуктовым рынках будуць пераяжджаць у гіпэрмаркет толькі па жаданьні. Збудаваць яго маюць за два гады. А ўжо ў траўні ў "Ждановічах" будзе ўведзеная ў эксплюатацыю другая крама адзеньня "Сьвет моды-2". Улетку пачнецца будаўніцтва "Сьвету моды-3". У пэрспэктыве ўсе будынкі мусяць утварыць адзіны комплекс.

**Б.Т.**

## лісты ў рэдакцыю

# Руплівец эспэранта

**"НН" у №11 закранула тэму беларускіх эспэрантыстаў. Мне здаецца, што карціна беларускага эспэрантызму будзе няпоўнай бяз постаці Адама Паўлюкаўца.**

Адам Паўлюкавец быў шчырым нацыяналістам. Пазнаёміўся я зь ім, калі вучыўся на трэцім курсе ў Інстытуце замежных моў. Тады мы жылі зь ім у адным пакоі на трэцім паверсе ў інтэрнаце на Омскім (цяпер Румянцава) завулку. (Цяпер з гэтага будынку зрабілі навучальны корпус "Д" Лінгвістычнага ўнівэрсытэту, а студэнты называюць яго "ды-білдынгам".) Адам вучыўся на факультэце францускай мовы, і пра яго хадзіла легенда, што ад студэнцкай стыпэндыі ён яшчэ нешта ўмудраўся адсылаць маці ў вёску, ёй на пражыцьцё. Пабачыўшы худую постаць Адама, няцяжка было даць веры.

З сабою ў наш пакой Адам прынёс ладную скрыначку, дзе акуратна стаялі капэрты зь лістамі ад ягоных карэспандэнтаў. А іх у яго было шмат, бадай з усяго вядомага тады нам сьвету, нават зь нерэальна далёкай Бразыліі. Менавіта ў яго я ўпершыню пабачыў заходнія школьныя падручнікі, якія ўразілі мяне высокай якасьцю паліграфіі, кніжкі кішэннага фармату і недасяжныя па ідэалягічных меркаваньнях творы малакамуністычнага зьместу. Ад яго я даведаўся, што ён — адзін з сакратароў Міжнароднага саюзу эспэрантыстаў, што колькі часу таму ён атрымаў запрашэньне на чарговы міжнародны зьезд эспэрантыстаў, але кагэбісты параілі яму паведаміць арганізатарам, быццам ён хворы і ня можа прыехаць, што ён катэгарычна адпрэчыў.

Я ня ведаю, якія стасункі пасьля гэтага былі паміж КГБ і Адамам, пэўна, як у тым Гашкавым рамане, *"streng behüten, beobachten"*. Мой падсьвядомы антыкамунізм стаў яшчэ больш акрэсьленым, калі я пачуў Адамава палітычнае крэда — "Расейскія калянізатары, марш у сваю Расею!" Гэтая квінтэсэнцыя палітычнай праграмы і па сёньня наймілейшая майму сэрцу нацыяналіста.

Пасьля 1969 г. я згубіў сьлед Адама. Але праз тузін гадоў у беластоцкай "Ніве" натрапіў на ягоны допіс, напісаў яму, і мы з задавальненьнем аднавілі кантакты ды час ад часу ліставаліся.

Адам жыў у Менску, працаваў на заводзе шасьцерняў на мэталарэзным станку. Ягонае жытло было недалёка ад Усходняга аўтавакзалу; у мае рэдкія наведваньні Менску я заўсёды тэлефанаваў яму, і мы сустракаліся то ў ягонай невялікай кватэрцы, поўнай кніжак, то на лавачцы ля станцыі. Пазьней Адам кінуў працу на заводзе і зарабляў на жыцьцё перакладам рэлігійнай літаратуры для грамады пяцідзясятнікаў, да якой ён далучыўся. Тая ж грамада і апранала яго з гуманітарных пасылак.

25 студзеня 1993 г. Адам падараваў мне сваю кніжку "Мова эспэранта" з дарчым надпісам. Гэтая кніжка (А.Паўлюкавец. Мова эспэранта. Практычны дапаможнік. — Менск: Навука і тэхніка. 1992) стаіць на маёй кніжнай паліцы як напамін пра сябра.

Колькі словаў пра 158-старонкавую кнігу Яна мае нарыс гісторыі эспэрантысцкага руху ў Беларусі, ладную практычную граматыку, практыкаваньні і навучальныя тэксты, узоры беларускай паэзіі на мове эспэранта — ад Скарыны да Новіка-Пеюна, зь якім меў знаемства Адам. Бальшыня перакладаў зроблена самім Адамам Аляксандравічам. Напрыканцы, як і мае быць, — 26-старонкавы эспэранта-беларускі слоўнік ды бібліяграфія. Наклад кнігі быў 4000 асобнікаў.

У канцы 1994 г. мяне адправілі на курсы кваліфікацыі ў Менск. Пачыналася расейская агрэсія ў Чачэніі, і мы зь цікавасьцю сачылі за падзеямі, якія спраўна асьвятляла "Свабода", праз маленькі кішэнны прыймач. Антончык даймаў Лукашэнку дакладам пра карупцыю, я набыў для сваёй калекцыі газэт "Звязду" зь белай старонкаю...

Калі я ўрэшце патэлефанаваў Адаму, ягоная ўдава паведаміла мне, што Адама болей няма. Я быў такі ўражаны, што ні аб чым не распытваў. Што пытаць — няма сябра...

Засталася кніжка, ёсьць людзі, якія могуць сказаць болей пра энтузіяста-эспэрантыста. Я ж распавёў, што ведаю.

**Мікола Бусел, Дуброва**

**Праз тыдзень на пасяджэньні "вышэйшае дзяржрады саюзнай дзяржавы" беларускі і расейскі бакі зьбіраюцца падпісаць дамоўленасьці аб выраўноўваньні ўмоваў гаспадараньня для прадпрыемстваў Расеі й Беларусі.**

# Гульня па расейскіх правілах

*Эканамічныя пагадненьні 12 красавіка могуць мець для Беларусі больш фатальныя наступствы, чым усе красавіцкія палітычныя цырымоніі папярэдніх гадоў*

Мэта расейцаў — дабіцца, каб Беларусь мела ня большую эканамічную самастойнасьць, чым іхныя рэгіёны. Калі эканамічныя пагадненьні, падпісаньне якіх запляванае на 12 красавіка, набудуць моц, расейскі ўрад зможа лічыць сваю стратэгічную задачу напалову выкананай. За згоду Беларусі Расея гатовая нават плаціць: мы атрымаем газ і нафту па тых самых цэнах, што й Смаленская вобласьць, а ў дачыненьні да беларускіх экспарцёраў будуць дзейнічаць унутрырасейскія тарыфы на чыгуначныя перавозкі.

Расея ж патрабуе, каб Беларусь адмяніла льготы сваім прадпрыемствам, што павялічвае шанцы расейскіх вытворцаў на эканамічную экспансію ў Беларусь. Урад гэта разумее, але разумее й неабходнасьць такога рашэньня: няма сродкаў, каб ільгатаваць прадпрыемствы. Таму ў прынцыпе непазьбежнае рашэньне аб скасаваньні льготаў хоча правесьці пад соўсам "расейскага дыктату". Цяпер дзяржава падтрымлівае толькі 5—6 зь іх, а адмена льготаў азначае фактычнае спыненьне вытворчасьці. Гэтым прадпрыемствам захаваюць ільготы, як мяркуецца, толькі да пачатку 2003 г. Ёсьць спадзяваньне, што за гэты час зьніжэньне цэнаў на энерганосьбіты дазволіць палепшыць фінансавы стан прадпрыемстваў.

Найбольш прынцыповае для Расеі і раздражняльнае для Беларусі пытаньне — урэгуляваньне збору падаткаў на дабаўленую вартасьць. Расея настойвае на прынцыпе "краіны паходжаньня" (г.зн., экспартуючы сваю прадукцыю ў Беларусь, яна будзе сама зьбіраць падатак на яе). Сёньня расейскі экспарт у Беларусь значна перавышае беларускі ў Расею: адмоўнае замежнагандлёвае сальда складае 180 млн. даляраў. Таму Беларусь ад такога спосабу збору мае значныя страты. У якасьці кампэнсацыі нашыя ўлады патрабуюць тыя 180 млн. даляраў. Расея нібыта гатовая даць гэтыя грошы, але спрабуе адцягнуць выплаты на наступны ці нават на 2005 г. Падобна, што, атрымаўшы згоду Беларусі, Расея з часам спыніць выплату кампэнсацыі, абумоўшы гэта нейкімі палітычнымі ці эканамічнымі прычынамі.



**Генадзь Навіцкі Міхаілу Касьянаву: ці ёсьць сэнс?**

Шанцы на тое, што эканамічныя дакумэнты, якія можна лічыць першым дзейсным крокам інтэграцыі, будуць падпісаныя 12 красавіка, даволі высокія. Прэм'ер-міністры Генадзь Навіцкі й Міхаіл Касьянаў ухвалілі праекты чатырох пагадненьняў, што тычацца стварэньня роўных умоваў гаспадараньня для беларускіх і расейскіх прадпрыемстваў. Няма згоды пакуль толькі па пытаньнях, што тычацца ўскосных падаткаў і мэханізму іхнага спаганяньня. Верагодна, да 12 красавіка будзе падрыхтавана некалькі варыянтаў пагадненьня, таму дакладна, які зь іх пройдзе, можна будзе толькі пасьля размовы прэзыдэнтаў Беларусі і Расеі.

Гэтыя дакумэнты могуць даць кароткатэрміновую карысьць беларускай эканоміцы. Але далейшае яе завязваньне на расейскую ставіць шматлікія палітычныя і культурныя пытаньні, бо дае Расеі магчымасьць дыктаваць свае ўмовы яшчэ больш пасьпяхова і бескампраміснa. І сёлетняе падпісаньне эканамічных пагадненьняў можа мець для Беларусі больш фатальныя наступствы, чым усе красавіцкія палітычныя цырымоніі папярэдніх гадоў.

Лагоднае стаўленьне беларускай апазыцыі да хуткага падпісаньня дакумэнтаў паказальнае. Па-першае, моцна ўкараніўся стэрэатып, што праз эканоміку Расея нібыта можа (асабліва наіўныя вераць, што і хоча) дапамагчы Беларусі стаць на шлях лібэралізацыі грамадзкага жыцьця. Па-другое, апазыцыі цяжка ўпэўніць насельніцтва ў згубных баках эканамічнай інтэграцыі, бо яны стануць бачныя толькі праз дастаткова працяглы час. А палітыка ўлады пабудаваная на адваротным: яна пэрыядычна паказвае свае посьпехі "ўжо сёньня", ня маючы акрэсьленай стратэгіі на заўтра.

Раўнапраўных саюзаў паміж дзяржавамі з рознымі патэнцыяламі ня можа быць. Гэта добра ўсьведамляюць і Беларусь, і Расея. Калі для першай гульня ў інтэграцыю можа стацца лёсавызначальнай, дык для апошняй яна параўнальная з праблемай аднаго з рэгіёнаў: пытаньне ёсьць, але яно можа і пачакаць. Менавіта таму Расея цярпліва навязвае Беларусі інтэграцыю па сваіх правілах.

**Валянцін Паўлоўскі**

## Большасьць беларусаў супраць аб'яднаньня

**41% беларусаў і 67% расейцаў лічаць, што прэзыдэнт павінен быць адзіным для дзьвюх дзяржаваў, 52% беларусаў і 26% расейцаў мяркуюць, што ў кожнай краіны мае быць свой прэзыдэнт.** Такі вынік апытаньня грамадзкай думкі, праведзенага ў лютым мэдыягрупай "Саюз" і групай кампаній "*Monitoring.ru*" на тэму "Грамадзкая думка пра Саюзную дзяржаву Расеі й Беларусі" сярод 2026 грамадзянаў Расеі і 605 грамадзянаў Беларусі ва ўсіх рэгіёнах абедзьвюх дзяржаваў. Паколькі апытаньне было праведзенае лабістамі аб'яднаньня, рэальныя лічбы, трэба думаць, на сёньня яшчэ больш несуцяшальныя для інтэгратараў.

Наконт адзінага парлямэнту станоўча выказваецца 41% беларусаў і 63% расейцаў, пра адзінае войска — адпаведна 35 і 72 працэнты, стварэньне адзіных спэцслужбаў ухваляюць 49% і 64%. За незалежныя парлямэнты выступаюць 51% беларусаў і 29% расейцаў, за незалежныя войскі — адпаведна 57% і 22%, за незалежныя спэцслужбы — 40 і 28 працэнтаў. І толькі за адзіную эканамічную прастору ("як у Эўразьвязе") выказваюцца 83% беларусаў і 84% расейцаў (супраць — 6% і 8%), за адзіную валюту — адпаведна 73% і 81% (супраць — 18% і 11%).

**Паводле БелаПАН**

## тыдзень нашага жыцьця

## Гледзячы з Магілёва



Палітычная сытуацыя ў Магілёве й вобласьці неадназначная: структуры палітычных партыяў непаўнавартасныя, не адчуваецца іхнае прысутнасьці ў рэгіянальным палітычным жыцьці. Дзейнасьць палітычных партыяў скіраваная на падтрыманьне жыцьцядзейнасьці саміх гэтых структураў. Але ж крызыс у палітычных структурах уплывае на грамадзкае жыцьцё: крызыс БНФ прывёў да таго, што беларушчына выцясьняецца з ужытку (менш стала, напрыклад, беларускамоўных шыльдаў і г.д.).

Да дня "яднаньня народаў Беларусі й Расеі", што адзначалі на гэтым тыдні, сталюся скептычна — гэта шоў. Паказальна, як самі людзі ставяцца да тых сымбаляў, якія яны абіралі: у Магілёве вісяць цяперашнія сьцягі зялёнай палаcой дагары. Калі давядзецца пераглядаць дакумэнты наконт гэтай інтэграцыі, падпісаныя Беларусяй, дык трэба будзе зыходзіць з беларускіх інтарэсаў, але вырашаць усё ўзважана, юрыдычна правільна — мы ж цывілізаваныя людзі!

Мне самай галоўнай падзеяй мінулага тыдня здаецца тое, што пасьля паўгадовай пярэрвы нарэшце абралі мэра Магілёва — Уладзімера Шорыкава. Цяпер за нас будзе каму "адказваць"!

**Алесь Асіпцоў, Магілёў**

# Як скасаваць беларуска-расейскі саюз?

**Саюз з Расеяй ня вечны. Ці прадугледжваюць заключаныя ўрадамі Лукашэнкі дамоўленасьці юрыдычныя працэдуры яго-нага скасаваньня?**

Першы інтэграцыйны дакумэнт — **дамова аб утварэньні супольнасьці Беларусі і Расеі** — быў падпісаны 6 год таму, меў чыста прапагандысцкі характар і не ўсталёўваў ніякіх узаемных абавязацельстваў. Таму, хоць ён і быў ратыфікаваны законным Вярхоўным Саветам, яго спыненьне наўрад ці спатрэбіцца.

Падпісаная праз год **дамова аб саюзе Беларусі і Расеі** ўжо больш грунтоўна вызначала структуру новаўтварэньня. Каб яе скасаваць, трэ было, паводле дакумэнту, у пісьмовым выглядзе паведаміць аб гэтым другую дзяржаву-ўдзельніцу. У дакумэнце ўпершыню ўзьнікаюць часавыя тэрміны: паведамляць аб выхадзе неабходна за 12 месяцаў. Значна больш ускладняе скасаваньне дамоўленасьцяў **акт аб утварэньні саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі**, падпісаны ў снежні 1999 г. Каб выйсьці з саюзу, неабходны ўжо рэфэрэндум, прычым дамова перастае дзейнічаць толькі праз 18 месяцаў пасьля яго. Між тым, саюзныя законы і дэкрэты абавязковыя да выкананьня і ў гэты час. Нават калі ўзьнікнуць супярэчнасьці паміж саюзным і нацыянальным заканадаўствамі, перавага будзе на баку першага.

У выпадку перамогі апазыцыі на прэзыдэнцкіх выбарах скасаваць саюзную дамову было б вельмі проста: Лукашэнка падпісваў яе ўжо пасьля сканчэньня, у адпаведнасьці з канстытуцыяй 1994 г., свайго тэрміну.

Цяпер жа актыўна рыхтуецца **канстытуцыйны акт, прыняцьце якога пасьля рэфэрэндуму выкліча зьмены ў канстытуцыі**. Адпаведна, апошнія саюзныя дамоўленасьці можна будзе скасаваць таксама толькі праз працэдуру ўнясеньня зьменаў у канстытуцыю, г.зн. праз Канстытуцыйны суд. **Пра неабходнасьць гэтага кажа і былы судзьдзя канстытуцыйнага суду Міхаіл Пастухоў:** "Цяперашнія саюзныя дамоўленасьці прадугледжваюць выхад з саюзу толькі праз паўтара году пасьля рэфэрэндуму, калі за гэта прагаласуе большая частка насельніцтва. Пытаньне аб скасаваньні саюзьніцкіх адносінаў уваходзіць у кампэтэнцыю Канстытуцыйнага суду. Яно вырашыцца станоўча, калі будзе прызнана, што саюзныя дамовы ня цягнуць ніякіх абавязацельстваў у адносінах да беларускага народу. Аднак для пачатку такой працэдуры неабходна вярнуць Канстытуцыю 1994 г. ці прыняць новую. Павінны адбыцца новыя прэзыдэнцкія, парлямэнцкія выбары. Бяз гэтага разьлічваць на выхад з саюзнай дзяржавы не даводзіцца. Правесьці рэфэрэндум папросту нерэальна".

**В.П.**

# Пераемнік экзарха

**Працяг са старонкі 1.**

У адрозьненьне, напрыклад, ад Румынскае царквы, якая доўгі час ня мела ўласных сьвятых. Несамастойнасьць беларускае царквы цяжка вытлумачыць на ўмовах, калі нават нешматлікія Польская і Эстонская праваслаўныя цэрквы болей ня скутыя залежнасьцю ад Масквы.

Патрэбу ў самастойнасьці праваслаўнае царквы для трывалае стабільнасьці незалежнай Беларусі ўсё ясьней разумеюць беларускія эліты. У прыватнасьці, непакой у іх выклікаюць пэрыядычныя антыкаталіцкія паходы артадоксаў, што падрываюць нацыянальнае адзінства краіны. Супраціў маскоўскага кліру заміне арганізацыі візыту папы ў Беларусь, г.зн., жывейшаму міжканфэсійнаму дыялёгу і традыцыйнай адкрытасьці нашага праваслаўя да сьвету.

У настаўленьні новапастаўленаму япіскапу мітрапаліт Філарэт, сярод іншага, наказаў "захоўваць еднасьць Царквы Хрыстовай у сэрцы сваім і аберагаць яе ад падкопаў духу лукавага". А вось новы япіскап, зьвяртаючыся 30 сакавіка падчас усяночнае, у часе якой адбываецца чын "нарачэньня", з належным, паводле рытуалу, Словам да ўсіх прысутных, гэтай тэмы не закранаў. "І калі недастоінствы і слабасьці чалавечае натуры стрымліваюць мяне ад прыняцьця архіярэйскага подзьвігу, дык у гэтым рашэньні... я знаходжу сабе падтрымку і апору ў словах Госпада, сказаных прароку Ісаю: "Я абраў цябе і не адкіну цябе: ня бойся, бо Я з табою", — сказаў ён.

Зрэшты, мітрапаліт Філарэт, якому 67 гадоў, мае выдатнае здароўе і зусім не зьбіраецца адыходзіць ад справаў. Прыклад яму падае кардынал Сьвёнтак, якому ў кастрычніку споўніцца 88. Так што пытаньне выбару новага кіраўніка БПЦ і, разам з ім, будучага курсу царквы застаецца пакуль чыста тэарэтычным.

**Мікола Бугай**



**Япіскап Іван**

**Япіскап Іван (у сьвеце Леў Хама) нарадзіўся 25 сакавіка 1963 г. на захадзе Ўкраіны. Пасьля школы і службы ў войску вучыўся ў Маскве — у духоўнай сэмінарыі і ў акадэміі. 15 сьнежня 1992 г. пастрыжаны ў манахі з імем Іван у гонар прападобнага Івана Дамаскіна. 3 студзеня 1993 г. узьведзены ў сан ерадыякана, а 20 чэрвеня — у сан ераманаха з назначэньнем на пасаду сьвятара Дамавой царквы пры Менскім епархіяльным упраўленьні. Зь ліпеня 1994 г. ён сакратар МЕУ і настаяцель Дамавой царквы. У саны ігумена і архімандрыта ўзьведзены ў 1995 г. З жніўня 1992 г. выкладае ў Менскай духоўнай сэмінарыі на катэдрах сэктазнаўства і літургікі. Вучоная ступень "кандыдат багаслоўя" прысуджаная яму радай Маскоўскіх духоўных школ 9 чэрвеня 1995 г. за дысэртацыю "Сьвяты праведны Іван Кранштацкі і ягонае духоўная спадчына". Зь верасьня 2001 г. зьяўляецца дацэнтам Менскай духоўнай акадэміі па катэдры царкоўнай гісторыі.**

## Новыя сябры АГП

**Міхаіл Чыгір і Павал Казлоўскі ўступілі ў рады Аб'яднанай грамадзянскай партыі.** У АГП пачынаецца "працэс гуртаваньня прафэсіяналаў", канстатаваў лідэр партыі Анатоль Лябедзька. Трэба адзначыць, што Казлоўскі ўступае ў АГП ужо ня першы раз.

## Справа спынена

**Суд Цэнтральнага раёну Менску спыніў крымінальную справу ў дачыненьні да намесьніка начальніка менскай міліцыі грамадзкай бясьпекі Віктара Русака** і былога начальніка аддзелу масавых мерапрыемстваў Міхаіла Кандрацiна (цяпер працуе ў Акадэміі міліцыі) па справе трагедыі на "Нямізе" ў траўні 1999-га. Справу закрылі ў сувязі са сканчэньнем тэрміну даўнасьці. Сваякі ахвяраў абураныя гэтым рашэньнем.

## Зьмены ў Інстытуце сацыялёгіі

**Інстытут сацыялёгіі ператкораны ў Інстытут сацыялёгіі і сацыяльных тэхналёгій.** Яго дырэктарам прызначаны расейскі доктар сацыяльна-эканамічных навук Георгій Явелькін, які два гады выконваў абавязкі дырэктара. Замест ранейшых сямі навуковых аддзелаў у інстытуце будуць два аддзелы і два цэнтры.

**Б.Т.**

# Дзе Корбан?

**Юрась Корбан зьнік 19 студзеня. Пасьля гэтага ён колькі разоў тэлефанаваў з свайго сотавага маці й сябрам, абяцаючы хутка зьявіцца. Размовы зазвычай доўжыліся менш за хвіліну. Маці Юры патлумачыў прычыну свайго нечаканага зьнікненьня тым, што сустрэў "аднаго чалавека" і мусіў паехаць зь ім. Голас Корбана ў часе тэлефонных размоваў быў не зусім натуральны. Маці кажа, што ён гучаў так, нібы ў Юрася ці то быў перабіты нос, ці то яму нехта сьціскаў горла. У часе апошняй гаворкі ён папрасіў маці падрыхтаваць вялікую суму грошай (20 тыс. даляраў) — і тэлефанаваньні на гэтым перапыніліся. Зьнікненьне адказнага сакратара віцебскага моладзевага цэнтру "Контур" Юрася Корбана па-ранейшаму застаецца вялікай загадкай. Некаторыя з раней абнародаваных прэсай фактаў выявіліся няпраўдзівымі. Сьледзтва дакладна вызначыла, што ён не тэлефанаваў маці й сябрам ані зь Берасьця, ані з Варшавы — толькі з Полацку, Наваполацку і Менску (з раёнаў Серабранкі й Чыжоўкі). Сябры й бацькі таксама адмаўляюць наяўнасьць у Корбана асабістай аховы: падчас выбарчае кампаніі яго ахоўвалі маладафронтаўцы. Сьледчы Аляксандар Харытановіч, які займаецца справай Корбана, ніякіх камэнтароў ня даў: уся інфармацыя зьяўляецца таямніцай сьледзтва. У пракуратуры ж кажуць, што 13 красавіка, калі дагэтуль ня выявяцца новыя факты, справа будзе спыненая — да іх зьяўленьня. Мы паспрабавалі правесьці сваё расьсьледаваньне: сустрэліся з бацькамі Юрася Корбана, ягонымі сябрамі й паплечнікамі, зь ягонымі віцебскімі знаёмцамі. Зь іхных расповедаў выразна вымалёўваюцца тры вэрсіі.**



*Юрась Корбан – супярэчлівая асоба. Паплечнікі найперш адзначаюць ягоныя выдатныя арганізатарскія якасьці, а рэдактар газэты "Выбар" Барыс Хамайда, наадварот, зазначае, што арганізатарам Корбан быў сярэднім: "Каб у мяне было столькі грошай, колькі ў Корбана, увесь Віцебск стаяў бы дагары нагамі". Корбан быў харызматыкам. Магчыма, гэта спрычынілася да асабістай непрыязнасьці ананіма, які некалькі разоў пісаў у разьдзеле прыватных абвестак "НН": "Корбану трэба лічыць грошы, а не займацца палітыкай". Юрась Корбан любіў пафарсіць, а гэткая рыса ня ўсім падабаецца.*

## Вэрсія 1: крымінальны "наезд"

Чуткам пра крымінальнае зьнікненьне Юрася спрыяў... ён сам. Корбан неаднаразова расказваў, як удала адбіўся быў ад рэкету, што "наяжджаў", патрабуючы грошай. Аднак Віктар Шляхцін, кіраўнік віцебскага "Маладога фронту", кажа, што Юрась любіў пахваліцца, таму веры гэтым словам даваць ня варта. Сябры Корбана нічога ня чулі пра такія выпадкі, а маці рашуча адмаўляе гэты факт...

*"Ён назваўся Віктарам, сказаў, што баксёр, адседзеў за ненаўмыснае нанясеньне цяжкіх цялесных пашкоджаньняў. А цяпер, маўляў, хоча займацца з маладымі, трэнэраваць іх. Я яму сказаў: ідзі да Корбана, у яго ёсьць людзі й грошы".*

У папярэдняй публікацыі ў "НН" (№7 ад 15 лютага) гаварылася пра бізнэс, які нібыта меў Корбан. Ніна Корбан, маці Юрася, такі факт таксама адмаўляе. Старшыня аршанскага цэнтру падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў "Крывіч" Алесь Шутаў, сябар Корбана, зазначае: "Бізнэсу сапраўднага ў Юрася не было — была толькі ідэя". Віктар Шляхцін удакладніў, што Корбан меў намер адчыніць музычную краму. Але ці быў у фронтаўца нейкі пачатковы капітал? Барыс Хамайда кажа, што быў: "Калі актывізаваліся гаворкі пра прыватызацыю, Корбан прыйшоў да мяне і кажа: хутчэй бы ўжо тая прыватызацыя пайшла. Я яму ў адказ: хлопча, тая прыватызацыя адбудзецца безь цябе, беларускія грошы туды ня пусьцяць... Ну згадзіцеся, калі б не было грошай, навошта было б так прагна чакаць пачатку прыватызацыі?" Уладзімер Плешчанка, старшыня Віцебскай гарадзкой рады КХП БНФ, таксама кажа, што грошы ў Юрася вяліся: "Корбан сядзеў на грашах, але грошы яго і сапсавалі. Ягоныя ж хлопцы часта наракалі, што Корбан, маўляў, купіў сабе машыну". Блізкі да "Контуру" сябар БСДП (НГ) Васіль Ігнаценка адкрыта кажа, што Корбан рана "зажыраваў", заеўся...

Ці ня з грантаў, атрыманых на выкананьне разнастайных праектаў, былі ў Корбана тыя сродкі? Алесь Шутаў пэўны, што "ўцечкі" грантавых грошай у "Контуры" не адбывалася. Але Віктар Шляхцін зазначае, што пасьля зьнікненьня кіраўніка цэнтар займеў значныя праблемы — у тым ліку й фінансавыя: "Корбан быў вельмі амбітнай асобай. І ён шмат інфармацыі трымаў пры сабе, не пускаючы да яе іншых. Пасьля ягонага зьнікненьня мы мелі праблемы з справаздачнасьцю, бо нават ня ведалі, перад кім і за што мы павінны адказваць". А выканаўчы дырэктар "Контуру" Кастусь Смолікаў кажа, што найбольшая праблема — нават не блытаніна з дакумэнтамі, а немагчымасьць доступу да кампутара арганізацыі: абсталяваньне захоўваецца на кватэры Корбана, а ягоная маці адмаўляецца аддаваць тэхніку да зьяўленьня сына.

Зрэшты, словы Корбана пра ўласны бізнэс маглі быць чарговай "бурбалкай", якая так і не знайшла б рэальнага ўвасабленьня. Але агучаныя пляны ды яшчэ ў спалучэньні з чуткамі пра вялікія грошы, якія круцяцца ў трэцім сэктары, маглі выклікаць увагу крымінальных колаў да віцебскага фронтаўца. Уладзімер Плешчанка згадвае, што да яго падчас выбарчае кампаніі 2001 г. падыходзіў нейкі падазроны чалавек: "Ён назваўся Віктарам, сказаў, што баксёр, што адседзеў за ненаўмыснае нанясеньне цяжкіх цялесных пашкоджаньняў. А цяпер, маўляў, хоча займацца з маладымі, трэнэраваць іх. Я яму сказаў: ідзі да Корбана, у яго ёсьць людзі й грошы. Потым я прааналізаваў размову з тым чалавекам, і нейкім ён мне падаўся падазроным: дужа добра ведае зброю, разьбіраецца ў тэхніцы. Пасьля я бачыў яго ў канцы Маскоўскага праспэкту, дзе ў Віцебску жывуць крымінальнікі. Але тамтэйшыя крымінальнікі гэтага чалавека ня ведаюць. Значыць, ён спэцыяльна паказаўся мне там. Хто ён — я так і ня ведаю".

## Вэрсія 2: акцыя запалохваньня

Корбанам мог актыўна цікавіцца ня толькі крымінальны сьвет, але і спэцслужбы. "Гэта вельмі падобна да працы спэцслужбаў, — зазначае Ўладзімер Плешчанка. — Для крымінальнікаў такая праца выглядае занадта вытанчана: даць чалавеку некалькі разоў затэлефанаваць! Яны б далі затэлефанаваць толькі раз і запатрабавалі б грошы." Тое, што выпадак Корбана не выглядае на клясычнае выкраданьне дзеля выкупу, адзначае й Алесь Шутаў, і бацькі Юрася Корбана. "Крымінальнікам было б нявыгадна трымаць у сябе Юру, — кажа Ніна Корбан. — Яны б даўно выпусьцілі яго і наклалі б нейкую даніну". Бацькоў вельмі насьцярожвае той факт, што кватэру Юрася Корбана, у якой была сыгналізацыя, самавольна ўскрыла служба "Ахова". Паводле кантракту, пасьля сыгналу трывогі прадстаўнікі службы мусяць паведаміць гаспадарам і чакаць іхнага прыезду. Насуперак гэтаму, служба "Ахова" адчыніла кватэру самачынна: "Я ня ведаю, якія ў Юры маглі быць дакумэнты".

Ці быў віцебскі фронтавец асобай такога ўзроўню, каб ім сур'ёзна заняліся якія-небудзь "эскадроны сьмерці"? Алесю Шутаву гэтая вэрсія падаецца беспадстаўнай: "Гэта асоба не таго маштабу". Пагаджаецца зь ім і Васіль Ігнаценка: "Цяжка паверыць, што яго зьнішчылі ўлады. І цяжка паверыць, што яго забілі". Сябры Корбана Віктар Шляхцін і Кастусь Смолікаў таксама пэўныя, што аналёгіі са зьнікненьнямі вядомых апанэнтаў рэжыму тут недарэчныя: віцебская апазыцыя — ня той узровень, на які ўзьдзейнічаюць такімі мэтадамі.

Апроч бацькоў, "палітычную" вэрсію зьнікненьня падтрымлівае Ўладзімер Плешчанка: "Маглі выбраць спэцыяльна асобу, ня дужа вядомую ў краіне, асобу сярэдняга пляну. Да таго ж асобу, запэцканую фінансавымі махінацыямі. Выбраць, каб паказаць, што і сярэдніх дзеячоў чакае тое самае, што і вядомых. Гэта можа быць акцыя запалохваньня".

Вагі "палітычнаму" сьледу надае й тое, што за Корбанам сачылі падчас перадвыбарнае кампаніі. Сяброўка Корбана Вольга Старасьціна кажа, што часам хадзілі нават людзі ў форме. Віктар Шляхцін такіх зьвестак не пацьвярджае, але кажа, што Корбан пасьля выкліку ў Камітэт фінансавых расьсьледаваньняў быў зьдзіўлены наяўнасьцю ў КФР мноства ягоных фатаздымкаў, зробленых на вуліцы, калі сам Юрась пра гэта нават не падазраваў. Алесь Шутаў згадвае, што падчас выбарчае кампаніі ў будынку насупраць офісу "Контуру" была ўсталяваная нейкая апаратура: "Не скажу, што для сачэньня ці падслухоўваньня, — ня ведаю. Але апаратура надта падазроная"...

*Корбан пасьля выкліку ў Камітэт фінансавых расьсьледаваньняў быў зьдзіўлены наяўнасьцю ў КФР мноства ягоных фатаздымкаў, зробленых на вуліцы, калі сам Юрась пра гэта нават не падазраваў.*

Зьнікненьне Юрася Корбана нанесла магутны ўдар па віцебскіх моладзевых арганізацыях: спыніўся выхад газэты "Віцебская трыбуна" (ейны наклад сягаў да 3000 асобнікаў), фактычна адсутнічае каардынацыйны цэнтар моладзевых суполак, ролю якога выконваў "Контур" на чале з Корбанам.

Маці занепакоеная тым, што ўлады валаводзяць з пошукамі Юрася. Магчыма, прычына ня толькі ў палітычным падтэксьце справы, але і ў тым, што яе саму ледзь не падазравалі ў суўдзеле: казалі, што яна недзе хавае сына.

## Вэрсія 3: уцёкі

Трэцюю вэрсію адпрэчваюць і бацькі Корбана, і ягоныя сябры. "Навошта яму гэта было патрэбна?" — пытаюцца яны. Ці былі ў Юрася Корбана прычыны для ўцёкаў?

Камітэт фінансавых расьсьледаваньняў сапраўды вёў справу супраць Корбана, але па максымуме яму пагражаў штраф у 20 базавых адзінак (200 тыс.) Сума не настолькі значная, каб з-за гэтага недзе хавацца. Алесь Шутаў, адмаўляючы варыянт уцёкаў па фінансавых матывах, зазначыў, што "Контур" якраз меў шанцы атрымаць вялікі грант, выканаўцам якога быў афармлены Корбан. А цяпер атрыманьне гранту — пад вялікім пытаньнем.

Вэрсію ўцёкаў абвяргае і той факт, што ў Корбана былі бліскучыя палітычныя пэрспэктывы. У Віцебску, дзе актывістаў дэмакратычных арганізацый, па словах Кастуся Смолікава, усіх разам недзе 800—1000 чалавек, фігура Корбана была вельмі заўважнай. Ён ужо сёлета зьбіраўся прэтэндаваць на пасаду кіраўніка абласной арганізацыі БНФ "Адраджэньне".

Аднак ёсьць факты, якія сьведчаць на карысьць такой вэрсіі. Віктар Шляхцін кажа, што яшчэ пры канцы 2001 г. Юрась Корбан прапаноўваў яму пераяжджаць у Бэльгію (адну з 12 краінаў, што даюць уцекачам зь Беларусі статус палітычных): маўляў, перабярэшся сам, падрыхтуеш месца, а там і я прыеду.

*Пры канцы 2001 г. Юрась Корбан прапаноўваў Шляхціну пераяжджаць у Бэльгію: падрыхтуеш месца, а там і я прыеду.*

Пэўны час была ў сяброў думка пра ад'езд Корбана за мяжу. Якраз 19—20 студзеня за мяжу выехала вялікая група віцебскіх палітэмігрантаў (дарэчы, дакумэнты, якія сьведчылі, што гэтых людзей улады перасьледуюць па палітычных матывах, падпісваў сам Корбан). Маці, як сьведчыць Віктар Шляхцін, спрабавала шукаць Юрася паміж іх...

Сама Ніна Корбан цяпер пэўная, што ейны сын за мяжу не зьяжджаў. Яна зазначае, што ягонае зьнікненьне было вельмі раптоўным: ён ня ўзяў з сабой нават зубной шчоткі. "Дый грошай у яго не было, максымум тысяч 20—30 беларускімі рублямі й даляраў 10—20. Хіба так за мяжу зьбіраюцца? Тым болей, ён не зрабіў бы з намі, з бацькамі, вось так, а абавязкова папярэдзіў бы загадзя: калі што пачуеце незвычайнае, не хвалюйцеся..."

Дзе цяпер Юрась Корбан — невядома. Але сама "справа Корбана" сьведчыць, што ў беларускай палітыцы застаецца актуальнай праблема зьнікненьня людзей. Выпадкі зьнікненьня перасталі быць унікальнымі. У Віцебску яшчэ ня пішуць на сьценах "Дзе Корбан?" Мабыць, дарма: мы мусім ведаць, куды падзеўся ўдзельнік нацыянальнага руху і палітычнай апазыцыі. Мы мусім ведаць праўду. Бо гэта праўда ня толькі пра Корбана, але і пра тое, у якой краіне мы жывём, якую Беларусь мы ствараем і чыімі рукамі.

**Аркадзь Шанскі**

# Бабуля брытанскае нацыі

Працяг са старонкі 1.

Праўда, калі жонкі побач не было, ён зноў бянтэжыўся і пыкаў-мыкаў.

Неўзабаве пачалася другая сусьветная вайна. Калі ўзьнікла пагроза нямецкага ўварваньня на Брытанскія астравы, паўстала прапанова вывезьці дзяцей у Канаду, дзе ўжо знайшлі прытулак нашчадкі дацкай і нарвэскай кароны. Каралева не дазволіла: "Дзеці не паедуць безь мяне! Я не магу пакінуць караля, а яго Каралеўская Вялікасьць ніколі нікуды не паедзе". Яна навучылася страляць зь вінтоўкі і рэвальвэру ды асабіста выступіла з заклікам да французаў супраціўляцца. Гітлер называў яе "самай небясьпечнай жанчынай Эўропы", а суайчыньнікі — "лэдзі Сьмеласьць".

У верасьні 1940 г. на Букінгемскі палац, калі там знаходзіліся кароль з каралевай, упалі шэсьць нямецкіх бомбаў. Каралева не напалохалася: "Я радая, што нас бамбілі. Цяпер я магу сьмела глядзець у вочы жыхарам Іст-энду". Яна насамрэч часта зьяўлялася ў руінах бедных кварталаў, якія нярэдка пападалі пад бамбёжкі, бо асы люфтвафэ цэлілі ў размешчаныя там заводы, вайсковыя часьці, шпіталі. Разам з жонкай Чэрчыля Лізавета зьбірала дапамогу для Сталінграду. У валгаградзкай абласной больніцы №2 дагэтуль карыстаюцца інструмэнтамі, дасланымі каралевай.

Скончылася вайна, а неўзабаве скончылася і шчасьце каралеўскай пары, бо 6 лютага 1952 г. кароль памёр ад раку лёгкіх. Правіць Брытаніяй пачала старэйшая дачка Георга Лізавета II. Удава Георга захавала ўсе вонкавыя атрыбуты, але стала ўжо "каралевай-маці".

Нейкі час яна шукала новы сэнс існаваньня. Нехта прапанаваў паслаць яе генэрал-губэрнатарам у Аўстралію. Яна гатовая была падпарадкавацца дзяржаўнай патрэбе, але запярэчыла каралевадачка, якая абвесьціла, што бяз маці правіць ня зможа.

Дзякуючы разьмеранаму ладу жыцьця каралева-маці да ста гадоў захавала цудоўнае здароўе, жалезны характар і выдатнае пачуцьцё гумару. Яна не цярпела пытаньняў накшталт "як Вы?", заўжды адмаўлялася ад мыліцаў ды кійкоў (хаця ў яе двойчы быў пералом шыйкі сьцягна) і ад акуляраў (хаця чытала толькі з лупай). Зламаўшы тры гады таму другое сьцягно, яна моўчкі сядзела ў фатэлі, чакаючы дактароў.

Лізавета I не сумавала. Калі адна састарэлая фройліна прыйшла да каралевы-маці прасіць аб адстаўцы, тая сказала: "Віншую! Правільна! Пасьля 80-ці жыцьцё ператвараецца ў сапраўдную асалоду!" Яна сама цешылася жыцьцём як магла. Аб выдатках каралевы-маці хадзілі легенды, бо да сваіх фінансаў тая нікога не падпускала. Перарасходы складалі мільёны фунтаў. Але ў доме пастаянна было шмат гасьцей, безьліч лёкаяў і кухараў. Казалі, што ў


REUTERS


AP

1920 год.

Кларэнс-хаўс (лонданскай рэзыдэнцыі нябожчыцы) "файв-о-клок" (піцьцё чаю а пятай вечара) такі багаты, што падобны да абеду, а тамтэйшы пікнік нагадвае банкет. Старая каралева любіла паесьці па-каралеўску.

Яе дзень пачынаўся з кубка гарбаты "Эрл Грэй", пасьля чаго Лізавета зьядала свой сьнеданак — тост, варанае яйка і садавіну — і займалася ранішнім туалетам. Гардэроб каралевы-маці займаў сама меней цэлы паверх Кларэнс-хаўсу. Шмат увагі каралева надавала твару, карыстаючыся толькі касмэтыкай "Элізабэт Ардэн". Нават у адзіноце каралева ніколі ня сьнедала, не апрануўшыся і не надзеўшы адпаведных сану ўпрыгожаньняў. Яна была сама веліч і кансэрватызм брытанскае манархіі!

Лізавета I была ахвотніцай і выпіць. Адзін з прыдворных каралевы назваў яе найлепшай хадзячай рэклямай джыну, які тая патроху ўжывала штодня. Аднойчы нехта падараваў ёй 20 бутэлек шампанскага, дадаўшы, што, мабыць, будзе чым пачаставаць гасьцей. Старая не разгубілася і адказала, што такой малой колькасьці і такому добраму гатунку яна й сама дасьць рады.

Увесь калядар старой каралевы арыентаваўся на дні скачак. Коні зь ейнай стайні выйгралі 440 забегаў. Каралева-маці ніколі не прадавала сваіх скакуноў — яны заўжды дажывалі свой век на стайні. Яе жарсьць да скачак была проста неверагоднай. Нават хворая, з тэмпературай пад 40, яна не прапускала ніводнага забегу. Маладых жарэбчыкаў і кабылак для сваёй стайні яна да сьмерці адбірала сама. Любоў да коней яна перадала і сваёй дачцэ Лізавеце II. Аднак, у адрозьненьне ад прынцэсы Маргарэт, яна ніколі не апускалася да раманаў з жакеямі. Ня тое пакаленьне, ня тое выхаваньне, ня тыя прынцыпы.

Кансэрватарка да мозгу касьцей, яна працівілася любым новаўвядзеньням: каб Букінгемскі палац быў адкрыты для наведваньня публікі, каб у каралеўскую гвардыю прымалі нашчадкаў чорных эмігрантаў, каб каралева сустракалася з рок-музыкамі.

Калі б яна не была каралевай, якія мэмуары яна магла б пакінуць! Аднак яна не дазваляла сабе літаратурных або газэтных вольнасьцяў. Апошняе радыёінтэрвію яна дала ў 1922 годзе! Яна, дарэчы, так да сьмерці і не пагадзілася сустрэцца з Камілай Паркер — каханкай свайго любімага ўнука, прынца Чарльза. Дзіва што і выбрыкі прынцэсы Дыяны выклікалі ў яе сумнеў. Тым ня менш, гэта менавіта яна навязала Чарльзу Дыяну. Кажуць, проста каб насаліць лорду Маўнтбатэну, які спадзяваўся ажаніць нашчадка трону з сваёй пляменьніцай. Маўнтбатэну яна не магла дараваць "бяздарную страту Індыі".

Афіцыйна яна ніколі не выходзіла за рамкі сваіх прадстаўнічых функцый. Аднак у глыбіні свайго палацу яна заўсёды заставалася жанчынай з уласьцівымі жанчыне сымпатыямі і антыпатыямі. У 1975 г. яна асабіста выступіла супраць далучэньня Брытаніі да эўрапейскага "супольнага рынку" і да скону выступала супраць любой інтэграцыі. Пры гэтым, у адрозьненьне ад большасьці брытанцаў, яна не адчувала ніякай непрыязнасьці да французаў, і перамогу французаў над бразыльцамі на апошнім футбольным чэмпіянаце сустрэла "Марсэльезай". Затое сярод яе непрыяцеляў быў, напрыклад, Уінстан Чэрчыль. Хто ведае, як павярнулася б вайна, калі б прэм'ерам стаў тагачасны фаварыт каралевы лорд Галіфакс, якому прыпісвалі прыхільнасьць да нямецкага аднаўленьня... пранямецкія настроі.

Нягледзячы на свае дзівацтвы і дзякуючы ім, каралева-маці Лізавета I была сымбалем трывалай манархіі, бабуляй усіх брытанцаў, чалавекам старой рамантычнай віктарыянскай Брытаніі. *"Queen Mum"* любілі болей за ўсіх астатніх членаў каралеўскай сям'і. Англія асацыюецца з падобнымі да яе бабулькамі, што вечна сядзяць з кубкам гарбаты над чарговай крыжаванкай з *"The Times"* з коцікам на руках, а пасьля абмяркоўваюць надвор'е. Цяпер брытанцы апошні раз могуць жалобай засьведчыць сваю адданасьць. Зь Лізаветай адышло цэлае стагодзьдзе.

**Сяргей Рак**

---

Сымона Папэску

# Чаму мы тужым па часах сацыялізму

**Па камуністах румыны сумуюць па-рознаму. Большасьць з тых румынаў, якія тужаць па прамінулай эпосе, аплакваюць яе дробныя выгоды, інакш кажучы, пакутуюць на "настальгію страўніка" — сьцьвярджаючы, што за Чаўшэску елі болей і смачней. Схільны, схільны чалавек да частковых стратаў памяці! Кажучы, што калісьці ім жылося лепей, яны быццам забываюць пра галечу апошніх гадоў сацыялізму — амаль такую, як цяпер у Паўночнай Карэі. Многія зь іх выкрасьлілі з памяці 80-я, атасамліўшы кіраваньне камуністаў з "адлігай" 60—70-х. Гэтыя людзі тужаць па адным дзесяцігодзьдзі, а не па сацыялізьме наагул!**

**Сапраўдную тугу адчуваюць былыя партыйна-намэнклятурныя бонзы, што лёгка зразумець, хоць іхныя прывілеі датычылі банальных рэчаў, якія сёньня мае кожны. Пачуцьцё абранасьці, доступу да раскошы — нават мінімальнай — прыносіла незвычайную асалоду, а цяпер прымушае смуткаваць па часах, калі адно валоданьне рэчамі "адтуль" (з забароненага, таямнічага Захаду) давала прызнаньне і незвычайны прэстыж.**

**Адну з прывілеяваных кастаў складалі літаратары. Многія з тых, хто "выбіўся" перад рэвалюцыяй, пры дапамозе палітычнай сыстэмы, што разглядала пісьменьнікаў як свае візытоўку, здабылі статус мэтраў і мелі прывілеі, якія немагчыма ўявіць сёньня, — вялікія тыражы, вельмі прыстойныя ганарары, вілы ў курортных мясцінах, дамы творчасьці, высокія пасады, замежныя паездкі за кошт дзяржавы (зрэшты, выезды за мяжу дазваляліся ў выключных выпадках) і г. д. Некаторыя творцы былі абвешчаныя зоркамі першай велічыні, і пазбаўленыя вялікага выбару чытачы па інэрцыі цешылі іхнае самалюбства. Пісьменьнікі павінны былі стаяць на варце маралі, нават калі стваралі двухсэнсоўную з этычнага пункту гледжаньня літаратуру, праносячы паміж радкоў малыя ісьціны, якія маглі сысьці за падрыўныя ідэі, — але толькі з дазволу ўлад! Таму не зьдзіўляе прызнаньне колішняга дысыдэнта Андрэя Плешу, выдатнага пісьменьніка і міністра замежных спраў у часы прэзыдэнцтва Эміля Канстанцінэску: "Ведаеш што? Раней я быў шчасьлівейшы, — сказаў мне нядаўна мой добры прыяцель, адважны і прызнаны паэт, які ў 1989 г. апынуўся ў радах нашых незьлічоных радыкальных дысыдэнтаў". Усё гэта спалучаецца з агульнай настальгіяй па малым гераізьме камуністычных часоў.**

## Тады мы былі лепшыя

Пра тугу па сацыялізьме Андрэй Плешу яшчэ ў 1991 г. напісаў нарыс "Раней было лепш", які ўжо ўвайшоў у румынскія школьныя падручнікі. Разважаючы над прычынамі навязьлівай настальгіі па "стане рэчаў, які мог скончыцца толькі морам крыві", — такімі, як дурнота, крывадушша ці дэман настальгіі ("агульначалавечы інстынкт стаўленьня да мінуўшчыны, якая б яна ні была, як да каштоўнай спадчыны"), — аўтар прыйшоў да цудоўнай высновы: "Што раней не было лепш, гэта дакладна. Аднак часам я задумваюся, ці не былі мы — усе разам і кожны паасобку — лепшыя, чым цяпер". Няўжо румыны былі лепшыя ў часы кіраваньня камуністаў? У гэтым сутнасьць кананічнай настальгіі — настальгіі па ідэальным Я. Калі ўсё было дрэнна, мы былі лепшыя!

Адным з паняцьцяў, якія пасьля 1990 г. расчаравалі, быў паняцак дэмакратыі. Дэмакратыя азначае не аўтаматычную роўнасьць, а толькі роўнасьць шанцаў. Выглядае на тое, што з роўнасьцю ў галечы (тыповай для часоў камунізму) жыць лацьвей, чым зь непазьбежнай няроўнасьцю, якую нясе з сабою дэмакратыя. Роўнасьць давала адчуваньне нейкага братэрства, салідарнасьці, надавала адмысловую псыхалягічную і рытарычную афарбоўку займеньніку "мы". Ужываючы множны лік, гаворачы ад імя "нас" ("нас, румынаў камуністычнае пары"), мы менш адчувалі сваю асабістую трагедыю. Пад ціскам супольнай нядолі нараджалася таксама пачуцьцё міжвольнай еднасьці, малога гераізму, уласьцівага кожнаму з "нас". Некаторыя тужаць па гэтым "мы", якое не вымагала адказнасьці, у якім можна было драмаць са зручнай думкай, што нічога зрабіць нельга, і якое давала ілюзію таго гераізму, што называлі "супраціўам" (а ў выпадку інтэлігентаў — "супраціўам праз культуру").

Цікава, ці не залежыць інтэнсіўнасьць румынскай настальгіі яшчэ і ад мясцовасьці, бо лічыліся ж шчасьліўчыкамі жыхары некаторых раёнаў — гарадоў ля югаслаўскай і румынскай граніцы. У 80-я гады яны маглі час ад часу выбірацца "за мяжу", каб пахадзіць па магазынах (а вугорцы гэтак жа "атаварваліся" ў Румыніі ў 70-я). Жыхары прыгранічча таксама маглі глядзець больш "лібэральнае" тэлебачаньне нашых шчасьлівых суседзяў, замежныя забаўляльныя перадачы.




Я належу да апошняга пакаленьня, пэрыяд сталеньня якога цалкам прыпаў на камунізм — той самы змрочны, самы "радыкальны" і ніштымны румынскі камунізм 80-х. Юнацтва, гэтак жа як і дзяцінства, для кожнага нармальнага чалавека павінна быць прадметам найбольшай настальгіі. Гэта, аднак, не адносіцца да майго пакаленьня (тых, што нарадзіліся недзе ў 1965-м). Ад "пакаленьня-80" (так называецца апошняя генэрацыя пісьменьнікаў, мастакоў, музыкантаў і г. д., што сталі больш-менш вядомыя ў васьмідзясятыя гады) мяне аддзяляе менш чым дзесяць год, а здаецца, нібы мы належым да дзьвюх розных эпох! Паміж людзьмі, народжанымі ў 50-я гады, і маім пакаленьнем ляжыць — пры ўсёй аднолькавасьці і ўмоўнасьці, вядома, — такая самая бездань, як паміж амэрыканскімі "бэбі-бумэрз" і "пакаленьнем ікс", якое прыйшло сьледам за імі.

Працяг на старонцы 12.

---

## міжнародныя навіны

### Купляй беларускае

**У Варонежы выкрытая група махляроў, якія -спэкулявалі на аўтарытэце беларускіх вытворцаў мэблі.** Злачынцы паказвалі грамадзянам каталёгі мэблевых прадпрыемстваў Берасьця, Бабруйску і Віцебску, рэклямавалі зручнасьць і нізкую цану прадукцыі, а потым, сабраўшы грошы і паабяцаўшы прывезьці ўпадабаныя шафы ды канапы цягам тыдня, зьнікалі. Сярод ашуканых пакупнікоў былі нават супрацоўнікі праваахоўных органаў. Такі вялікі ў Варонежы попыт на беларускую мэблю.

### Палітказэктнае Эвангельле

**Амэрыканскае выдавецтва "Зондэрван" выдала новы "палітычна карэктны" пераклад Новага Запавету.** Словы "ён", "сын", "бацька", "мужчына" там паўсюль замененыя на нэўтральныя ў палавых адносінах тэрміны. Дырэктар выдавецтва кажа, што Біблія ў новым перакладзе захавала біблійныя прынцыпы, але зрабілася кнігай "ня толькі для хлопчыкаў". Крытыкі сьцьвярджаюць, што выкараненьне граматычнага роду, задуманага аўтарамі Сьвятога Пісьма, парушае тэкст Эвангельля, зацямняючы бацькоўства Бога і сапраўдную сутнасьць Ісуса Хрыста.

### Чачэнская "Свабода"

**З 3 красавіка радыё "Свабода" пачынае вяшчаць на Чачэнію — па гадзіне зранку і ўвечары.** Праграма выходзіць на чачэнскай, аварскай, чаркескай і расейскай мовах. У далейшым працягласьць перадачаў павялічыцца.

**Паводле Інтэрнэту**

Сяргей Дубавец

# Красавіцкія тэзы

**Беларускі палітычны клімат усё яшчэ мала адрозьніваецца ад стыхіі. Самахоць настае вясна, і маразы зьмяняюцца адлігамі без заўважнага ўплыву на тое кіраўнікоў ці іхных апанэнтаў. Нашы палітыкі ні за што ня хочуць разьвітвацца зь цяжкімі футрамі ды шапкамі — быццам галоўнымі сваімі пазнавальнымі прыкметамі. Прасьцей у гэтым сэнсе газэтам, якія першымі заўважаюць перамены клімату.**

**Пасьля публікацыі ў "Нашай Ніве" нататкі "Нехаця насустрач" ("НН" №7 за 2002 г.) размова выйшла за межы выданьня, зьявіліся публікацыі на гэтую тэму ў іншых газэтах і на радыё. Паспрабую падкарэктаваць пэўныя свае выказваньні, якія ў тэзісным выглядзе маглі быць або былі зразуметыя няслушна.**

**1.** Пачну з гісторыі, з таго, каб мінулыя сем гадоў разглядаць як гісторыю. Калегі зьвярнулі ўвагу, што некалі я пісаў пра "пятую калёну" як апірышча ўладаў, а сёньня заклікаю падтрымаць *гэтыя самыя* ўлады ў іх незалежніцкай пазыцыі.

У 96-м я сапраўды казаў пра пятую калёну, і яна сапраўды фармавалася дзеля паходу ППРБ на Крэмль. Але той паход не дасягнуў мэты, месца ў Крамлі заняў іншы, і афіцыйны Менск паступова перастаў саромецца незалежнасьці Беларусі. Гэта калі не эвалюцыя, дык відавочная перамена вэктару. Цяжка сёньня ўявіць сабе выказваньне Лукашэнкі ў духу таго, што ён "перарос Беларусь", або пра "дзьве вялікія мовы". Акурат і рэсурс шклоўскіх мігрантаў з братняе Русі, кшталту спадарыні Ярмошынай, вычарпаны. На месцы пакліканых было з Расеі службістаў зноў прыходзяць тутэйшыя людзі, а "інтэрфронтаўскія" настроі сярод электарату, бадай, пераможаныя самім жыцьцём. Сем гадоў найноўшае гісторыі былі для ППРБ, апазыцыі і краіны зусім не аднастайнымі. Шмат чаго зьмянілася з часоў "Менскае вясны", калі міліцыі даводзілася стрымліваць трыццаці- і пяцідзесяцітысячныя маршы. Цяпер разганяюць у дзесяць разоў меншыя дэманстрацыі.

**2.** Разгоны, пасадкі, штрафы... Навошта гэта робіцца — асобная тэма. Тут ППРБ застаецца верным абранай зь першых дзён прэзыдэнцтва тактыцы "паўрэпрэсіяў". За 5—10 сутак, якія апазыцыянэр праводзіць за кратамі, сур'ёзнай кампаніі пратэсту не разгорнеш. Толькі ўзьляся падымаць грамадзкасьць, а ён ужо і выйшаў. Штрафы і змушаная эміграцыя ў змаганьні з рэжымам — яшчэ менш эфэктыўныя аргумэнты. Народ іх папросту не заўважае, а ўжо нават і раздражняецца на іх. Затое вельмі крытычна на іх рэагуе Захад. Такім чынам "паўрэпрэсіі" аўтаматычна зьбліжаюць апазыцыю з Захадам і аддаляюць яе ад электарату. У выніку ўплыў апазыцыі на народ робіцца ўсё менш значным. Вось што мае на ўвазе ППРБ, калі кажа, што такая апазыцыя яму трэба: ён трымае яе на кароткім ланцугу, і яна яму ў гэтым падыгрывае. Што пяцідзесяці-, што пяцітысячныя акцыі з разгонамі і пасадкамі — сыходзяць у пясок.



Затое, да прыкладу, непараўнальна менш людная вахта ў Курапатах стала бясспрэчным набыткам нацыянальнага станаўленьня.

**3.** Пра "супрацоўніцтва з уладамі". Такая "мая прапанова" настолькі зьдзівіла, што журналісты нават зьвярнуліся былі да Рыгора Барадуліна з пытаньнем: ці трэба супрацоўнічаць? Ясна, што народны паэт адказаў — не. Нельга супрацоўнічаць з аўтарытарным рэжымам. А вось спытаўся б у яго — ці трэба спаборнічаць? Думаю, адказ быў бы — так. Гэта значыць, што мы ня мусім падмяняць два нібыта блізкія, але насамрэч процілеглыя паняцьці: спаборніцтва і супрацоўніцтва. Няма размовы пра ляяльнасьць, партыю ўлады і г.д. Гаворка ідзе пра спаборніцтва з ППРБ на тым самым палітычным полі. Не з Брусэлю рукамі АБСЭ і не з Масквы рукамі СПС, а тут, у Беларусі.

**4.** Намэнклятура. Ужо колькі часу ў нас дыскутуецца ўдзел у палітыцы нейкага маналіту пад назваю "намэнклятура". Што гэта — кляса ці клан? Ці "праслойка"? Слушна заўважана — гэта вэртыкаль, у якой кожны сам па сабе. Калі там і ёсьць прыкметы сям'і, дык амаль незаўважныя. Непераканаўча гучыць і ўжываньне да іх сталінскага "памры ты сёньня, а я заўтра". І зусім не відаць у іх вызначальных рысаў намэнклятуры расейскай або ўкраінскай.

Для нашай намэнклятуры (як і для дырэктарату, прадпрымальнікаў) "кароткі ланцуг" зроблены ў выглядзе заканадаўства. У цяперашняй Беларусі не красьці немагчыма. Як у калгасе. І таму кожны, хто мае дачыненьне да ўлады, вытворчасьці і грошай, проста мусіць парушаць закон, а нават калі не парушае, на яго ўсё адно знойдзецца артыкул. Пасадзілі цэлую гронку буйных кіраўнікоў вытворчасьці, і на кожнага знайшоўся артыкул. Хто паверыць, што гэткія аўтарытэтныя людзі — кралі? Павераць, бо, як у калгасе, красьці вымушаныя ўсе. Гэта — закон, норма.

Як перааадолець такое становішча? Людзі ў нас, як правіла, шукаюць любую магчымасьць, каб ня быць злачынцамі. Найлепей гэта ўдаецца на нізавым узроўні. У прынцыпе няма і ня можа быць ніякага "памры ты, памру я". У масе ёсьць нармальнае жаданьне працаваць, зарабляць ды жыць, а не паміраць. Ніякага "экстрыму" ў настроях. Ёсьць таксама ўжо постсавецкае жаданьне неяк уплываць на сытуацыю, таму зьмяняецца погляд людзей і на ўдзел у палітыцы. Магчыма, вынікі мы пабачым на гэтых мясцовых выбарах. Ясны мэханізм "выключэньня" апазыцыі з гэтага спаборніцтва. Ці ня вартая задача — адказаць на яго мэханізмам "уключэньня"? Трэба толькі сысьці з кароткага ланцуга, якім насамрэч ёсьць тая дэкляраваная непрымірымасьць.

Слушна, ППРБ найбольш асьцерагаецца самаарганізацыі самых блізкіх да яго людзей — у вэртыкалі. Чым ты ад яго (а значыць, і ад ягонага палітычнага поля) далейшы, тым ты менш небясьпечны супернік. Менавіта набліжэньне да яго зьмяншае сілу ягонага ўплыву на электарат. Старшыня калгасу ніколі не палемізуе з шараговым калгасьнікам. Інакш які гэта будзе калгас і які старшыня? Усё адразу ж разваліцца, або старшыню заменяць. Прыблізна такія парадкі і ў РБ. Вось толькі РБ — гэта зусім не калгаснага маштабу і кшталту "гаспадарка". Гэта — Краіна. І магчымасьцяў для спаборніцтва тут шмат.

Пад набліжэньнем у спаборніцтве я ня маю на ўвазе "гульні былых" кшталту Васіля Лявонава. Ягоная "гульня" адразу пачалася не на жыцьцё, а на сьмерць, што спрасьціла інтрыгу і пазбавіла яе посьпеху. Лявонаў завіс паміж кволым заходнім фінансаваньнем і недаверам былых ды новых паплечнікаў. Каму ж тады "гуляць"? Менавіта апазыцыі — аслабленай і маргіналізаванай. Бо й сёньня толькі ў ейным асяродку можа нарадзіцца новая практыка — спаборніцтва.

Намэнклятуршчыкі ня будуць ствараць палітычную арганізацыю, але ім сапраўды патрэбнае заплечча. Бо яны — не ваўкі, а хутчэй "шаблязубыя зайцы". Яны хочуць жыць — камфортна, сытна, а часам і працаваць дзеля Беларусі. Ня тыя часы на двары, ня тая краіна і ня той народ, каб адзін чалавек ператварыў тысячы сваіх падначаленых у ваўкоў.

**5.** Што да Кангрэсу ў падтрымку лініі ўраду на незалежнасьць з крытыкай іншых, непрымальных бакоў дзейнасьці, а таксама наконт таго, што такія публічныя акцыі ні да чога не прыводзяць, дык прэцэдэнтаў няма. Я не зьбіраўся разьвіваць гэтую тэзу, але, калі зайшла гаворка, паспрабую "фантазіяваць" далей.

Верагодна, такі Кангрэс магло б зладзіць ТБМ разам з роднаснымі арганізацыямі. Ясна, што ў гэтым выпадку не было б разбуральных для вобразу палітыкі і палітыкаў у масавай сьведамасьці расейскамоўных улётак, і гаворка, апроч ухвалы незалежнасьці, ішла б пра стан мовы, найперш у заканадаўстве і адукацыі, пра выхаваньне гістарычнае сьвядомасьці ды пра дзяржаўную ідэалёгію, якую мусяць праводзіць, у прыватнасьці, дзяржаўныя тэлеканалы. Гэтага ж сёньня патрабуе ППРБ, прычым пад словам "ідэалёгія" ягоныя падначаленыя па-ранейшаму разумеюць найперш ляяльнасьць да кіраўніка. Уласна ідэалёгіі няма.

Паказальная нядаўняя гісторыя з гімнам. У нас свая Беларусь — у вас свая. Гэткі прыблізна быў унутраны матыў сходу, які ў хадоднай залі Палацу мастацтваў пастанавіў, што "пасьля Лукашэнкі" гімнам будзе "Магутны Божа". І тое "пасьля Лукашэнкі" абсалютна прэвалявала над "для Беларусі". Для Беларусі сёньняшняй (а можа, і заўтрашняй) зь яе палітычнай разрозьненасьцю, шматканфэсійнасьцю ды іншай шматстайнасьцю найлепш было б увесьці некалькі гімнаў адначасова — тры ці пяць, функцыі кожнага зь якіх былі б выразна прапісаныя ў законе — калі й які выконваць. Рэлігійны, нацыянальны, гістарычны... Толькі такая сукупнасьць стала б аб'яднаўчым матывам для ўсіх. Ну, што рабіць, калі няма ў нас у гэтай справе аб'ектыўнага адзінства? Трэба ісьці на кампраміс. І міжсобку, і зь дзяржаўнай камісіяй. Цяпер скажыце, дзе яшчэ можна сабраць разам тых людзей з Палацу мастацтваў і тых зь дзяржаўнае камісіі, як не на падобным Кангрэсе? Па інстанцыях кампрамісу ня выхадзіш і ў прэсе ня выпатрабуеш.

Скажаце, што за нагода — гімн! На маю думку, гэта менавіта нагода — каб пачаць адзін аднаго слухаць. Хто скажа, што ў гэтым не зацікаўленыя міністры, дэпутаты і спадар Фінбэрг?

**6.** Цяпер пра апазыцыю. Уявіце сабе круглы стол цяперашняй апазыцыі на тэму стратэгіі будаваньня Беларусі. Вось далася ім улада — адна на ўсіх, — і заселі яны абмяркоўваць, як той уладай распарадзіцца. Кожны будзе казаць сваё. Сыдуцца, можа быць, у адносінах з Захадам (сваім слабым пункце ў вачох электарату) і разыдуцца ў дачыненьнях з Расеяй (моцным пункце ППРБ). Але ніякага супольнага бачаньня беларускай стратэгіі не прадэманструюць. Хоць бы ўжо таму, што ў нас, да прыкладу, ёсьць апазыцыя расейскамоўная. Гадоў пятнаццаць назіраю за яе ўпартасьцю і не разумею, што ёй тая расейская мова дае і што ў яе беларуская адымае. Як тыя "марыністы" ў Саюзе пісьменьнікаў: усё, што могуць, — гэта развальіць СП — так і гэтыя адно развальваюць і апазыцыю, і Беларусь. Але апазыцыя ў нас церпіць сярод сябе тых "марыністаў" і ня робіць з мовы прынцыпу, свае галоўнае пазнавальнае адзнакі. Адныя толькі расейскамоўныя ўлёткі эсдэкаў і графіці "зуброў" прыносяць беларускаму палітычнаму клімату нашмат болей шкоды і блытаніны, чым, скажам, публічнае братаньне Статкевіча з Лукашэнкам.

Апазыцыя ў нас запанела зусім як арыстакратыя другой паловы XVIII ст. Маю на ўвазе нават не ганарары, а стаўленьне да нацыянальнае культуры і прэсы — як да прыслугі.

**7.** Пішучы пра тое, што апазыцыя мусіла б забыць пра зьніклых паплечнікаў ППРБ, я меў на ўвазе вось што. Апазыцыя ня можа адказаць, куды дзеліся зьніклыя, а таму ня мусіць і рытарычна пытацца *"где Гончар?"* Бо гэта амаральна. Гэта чыстае вады спэкуляцыя на пачуцьцях блізкіх і здольнае да спачуваньня публікі. Такая спэкуляцыя нібыта пакрываецца тым, што Лукашэнка — дыктатар і супастат. Дык жа не пакрываецца! Уявіце сабе, што не Лукашэнка скраў Ганчара і Завадзкага. Паспрабуйце сабе такое ўявіць. А тады перавядзіце погляд на тых, хто казырае імёнамі зьніклых як сваімі галоўнымі сьцягамі ў барацьбе з Лукашэнкам (які — мы дапусьцілі — іх ня краў)? Ці хоць крыху наблізілі нас да ісьціны гэтыя графіці — *"Где Захаренко?"* Ці хоць трохі паспрыяла гэта справе раскрыцьця? Вось жа ніколі апазыцыя сваімі "ланцугамі неабыякавых людзей" — у сілу прыроды сваёй — не паспрыяе раскрыцьцю. Наадварот, яна працягвае страчваць сваю вагу ў грамадзтве, пры тым замыльваючы раскрыцьцё ісьціны ды зноў і зноў выпрабоўваючы пачуцьці блізкіх.

Выстаўляючы ў якасьці аднаго з пунктаў для перамоваў з уладамі раскрыцьцё справаў зьніклых, апазыцыя падштурхоўвае ўлады да правядзеньня працэсаў кшталту суду над групай Ігнатовіча, вынікі якога жонка Завадзкага аспрэчвае. Вось што выходзіць, калі палітычныя рацыі апазыцыі і ўладаў зблытваюцца з рацыямі крыміналістыкі. Цяпер ППРБ скажа электарату, што абяцаў знайсьці забойцаў Завадзкага і знайшоў іх. Заўтра ён такім самым чынам знойдзе выкрадальнікаў Захаранкі і Ганчара. Электарат будзе спаць спакойна, а надакучлівае *"где Гончар?"* канчаткова адверне яго ад апанэнтаў рэжыму.

Любы опэр зь любога аддзелу па ўсёй Беларусі скажа вам — не замінайце працаваць. А калі хочаце дапамагчы — нармалізуйце палітычную сытуацыю ў краіне, калі гэта ў вашых сілах. Бо толькі гэта і можа быць рэальна ў вашых сілах.

Аднак не ператварайце трагедыі ў фарс. Адзін калега прапанаваў выйсьці "ланцугом неабыякавых людзей" з плякатамі *"Где Шарецкий, где Пазьняк?"* Другі заўважыў — а чаму б ім не пачаць зь Мікалуцкага?.. Вось гэта і ёсьць ператварэньне трагедыі ў фарс.

Ясна, што "гучнасьць" справаў тут нічога не вырашае. Нават калі сп.Ганчарык дастаў свае козыры — Лапаціка і Алкаева, — гэта было зроблена выключна дзеля "цынізму палітыкі" і не атрымала працягу ані ў выглядзе незалежнага сьледзтва, ані ў выглядзе журналісцкага расьсьледаваньня. А самае галоўнае — так і засталося цынічным жэстам палітычнае барацьбы.

Допускаю, што і гэтыя словы пападуцца некаму непераканаўчымі. Але давайце арыентавацца на аб'ектыўны стан рэчаў. Ці ўся крытыка ППРБ за гэтыя сем гадоў з боку апазыцыі хоць неяк пахіснула пазыцыі Лукашэнкі сярод беларусаў? Не пахіснула. Што заўгодна іх пахіснула, толькі не апазыцыйная крытыка. А чаму? Бо яна не назапашваецца, не вырастае да крытычнае масы, каб скалануць народ, як у польскім прыкладзе з ксяндзом Папялушкам. Крытыка набягае хвалямі — усё драбнейшымі — і адкатваецца ў пясок. Скажыце, а ці ставіла апазыцыя за мэту сфармаваць тую масу крытыкі? Ня ставіла. Спрадычныя зьнішчальныя выпады забясьпечвалі апазыцыі існаваньне. Падазраю, што і сёньня шмат каму тое фармаваньне крытычнае масы ўяўляецца немэтазгодным. І слушна. Бо зьмяніліся часы, і гэтыя новыя часы патрабуюць зусім іншых мэтадаў і іншага ўзроўню палітычнага спаборніцтва. Ня сьценка на сьценку ды глотка на глотку, а дзеля ўплыву ў народзе і будучыні краіны.



RADIO FREE EUROPE
RADIO LIBERTY

БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА
РАДЫЁ СВАБОДА

*Новыя хвалі й частоты ад 31 сакавіка 2002:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 18:00 - 20:00 | 9565 кГц (31 м)<br>11725 кГц (25 м)<br>15215 кГц (19 м) | 22:00- 24:00 | 9530 кГц (31 м)<br>9750 кГц (31 м)<br>11865 кГц (25 м) |
| На сярэдніх хвалях частата — 612 кГц | | На с/хвалях частоты — 612 і 1188 кГц | |
| 20:00 - 22:00 | 7190 кГц (41 м)<br>11730 кГц (25 м)<br>15480 кГц (19 м) | 06:00 - 08:00 | 6170 кГц (49 м)<br>7295 кГц (41 м)<br>9635 кГц (31 м) |
| На сярэдніх хвалях частата — 612 кГц | | На с/хвалях частоты — 612 і 1188 кГц | |

*Інтэрнэт: www.svaboda.org Адрас: 220005, Менск-5, п/с 111;*
*Vinohradska 1, Praha 1, 110 00, Czech Republic*

НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"

## ПЯТНІЦА, 12 КРАСАВІКА

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00. 0;30 Навіны.
6.10, 7.10, 8.10 Добрай раніцы, Беларусь!
9.15, 17.00 "Тайны сьледзтва".
10.05 Сад мары.
10.35, 15.45 "Прыгоды Шэрлі Холмз".
11.00, 21.50 "Сямейныя повязі".
12.20 Добры дзень, Беларусь!
13.10 "Утаймаваньне агню". Маст. фільм. 2-я сэрыя.
14.25 "Камандзір зь вёскі Белае". Дак. фільм.
15.20 "Маленькія хітруны".
16.10 "Пяць цудаў".
16.20 "5х5".
18.25 Зона ікс.
18.40 Энцыкляпэдыя беларускага спорту". Футбол
18.55 Футбол. Адкрыцьце сэзону Чэмпіянат Беларусі "Дынама" (Менск)– "Гомель" У перапынку – Трэці тайм.
21.00 Панарама.
22.45 Спорт-кур'ер.
22.55 Дэтэктыўны сэрыял "Камісар Шыманскі"
0.45 Беларуская дваццатка.

### СТВ

6.00, 16 30 "Паўэр рэйнджэрз, ці Магутныя рэйнджэры".
6.30 "Сьвет Бобі".
7.00, 15.45 "Фэрма страшыдлы"
7.30, 23.35 "Аўтапанарама".
7.45, 23.50 "Віртуальны сьвет".
7.55, 18.45 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
8.00 "Сьнеданне зь Лікай".
8.05, 18.50 "Тэма дня".
8.15 Камэдыя "Самалёт ляціць у Расею".
10.30, 18.00 Спартыўныя навіны.
10.45, 2.00 Навіны СНД.
11.00 "Канал гісторыі": "Канібалы". Дак. фільм.
12.00, 15.00, 19.00, 23.10 "24 гадзіны".
12.15 "Агенцтва". Камэдыйны сэрыял.
12.50 "Зона цемры".
13.50 "Азазэль".
15.15 "Сакрэтныя матэрыялы сабакшпіёнаў".
16.15 "Менск на скрыжаваньні стагодзьдзяў".
16.55 "Чарцяня".
18.15 "Партрэт у інтэр'еры"
18.30 Фільм, фільм, фільм ..
18.45 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
19.15 "Добры вечар, маленькі..."
19.30 Кіно: баявік "Лютасьць".
22.05 "Лэдзі Бомж".
23.25 "Прафэсія, якую ты выбіраеш".
0.00 Камэдыя "Рэйк'явік-101".
2.10 "М 1".

### 8 канал

17.30 Мультфільм "Пра медзьведзяня".
17.45 "Вялікі перапынак"
18.45 Маст. фільм "Аварыя".
20.20 Тэлекрама.
20.35 "Вечарніца".
20.40, 23.20 Навіны.
21.00 Дак. фільм "Пашча прорвы".
21.20 Крымінальная драма "Недатыкальныя".

### ОРТ

8.00, 11.00 Навіны.
8.15, 18.00 "Сямейныя повязі".
9.15 Космас. 9 хвілін да нябесаў. "Жыцьцё ў бязважкасьці".
9.45 "Слабае зьвяно".
10.35 Смак.
10.50 Бібліяманія.
15.00 "Забойная сіла-3. Мяжа трываласьці".
16.00 Вялікае мыцьцё.
17.00 Вячэрнія навіны.
17.25 Дак. дэтэктыў. "Чорная сотня. Справа 2001 году".
19.00 Поле цудаў
20.00 Час.
20.35 Баявік "Сын за бацьку".
22.05 Самыя першыя ў фільме "Зоркавы атрад".
22.50 "Іншы час".
23.35 Шэдэўр Андрэя Таркоўскага "Салярыс".

### РТР

8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Весткі.
8.10 Да Дня касманаўтыкі "Засакрэчаны космас".
9.10 Новая "Старая кватэра".
10.20 "Санта-Барбара".
16.20 Прэс-клюб.
17.30 Уся Расея
17.50 "Камісар Рэкс"
18.50 Дабранач, дзеці!
19.35 Весткі – Масква.
19.55 Маст. фільм "Утаймаваньне агню".
23.05 Маст. фільм "Шалёны Макс За межамі купалу грому".
01.10 Да Дня касманаўтыкі. "Ці паляцяць расейцы да зорак?"

### Культура

9.15 Рамантыка рамансу.
9.40, 16.35 "Ах, у псыхаў жыцьцё" Дак. фільм.
10.45 "Эпізоды". Анатоль Адоскін.
10.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.50 Разам з Фафалем.
12.05 Чым жыве Расея.
12.20 "Культурная рэвалюцыя". "Расейская літаратура памерла".
13.15 "Урокі расейскай". А.П.Чэхаў "Маё жыцьцё". Чытаюць Алег і Міхаіл Яфрэмавы.
13.30 "Страсьці па-італьянску".
14.30 Архітэктурная галерэя.
14.45 Улада факту.
15.10 Кіно – дзецям "Нечаканыя канікулы".
15.30 "Казка пра цара Салтана". Мультфільм.
16.05 Сэнсацыя! Сэнсацыя? Сэнсацыя...
17.45 "Юрый Гагарын. Легенда і чалавек". Дак. фільм.
18.15 "Літаратурнае Перадзелкіна". "Я ненавіджу, кахаючы". Фільм 7-ы.
18.45 Да 90-годзьдзя з дня нараджэньня Яфіма Капляна. "Са сталі".
19.30 "Інтэрвэнцыя". Маст. фільм.
21.15 Блеф-клюб.
21.55 "Марш Радзецкага". Тэлесэрыял.
23.25 "Джазафрэнія".

### НТВ

7 00, 7 30, 9.00, 11 00, 13.00, 15.00, 18 00, 21.00 Сеньня
7.10, 7 35 Раніца на НТВ
7 50 Сэрыял "Тайны сьледзтва".
9 25 Свая гульня.
10.10 Увага. Вышук!
11 20 Маст. фільм "Яшчэ кахаю, яшчэ спадзяюся ."
13 25 "Працяг будзе...".
14.15 Пэпсы-чарт.
15.30 Сэрыял "Бандыцкі Пецярбург".
16.40 Сквапнасьць.
17.40 Крымінал.
18.35 "Свабода слова" з С.Шустэрам.
20.10 "Крымінальная Расея". "Забіць па-амэрыканску".
21.45 Вострасюжэтны фільм "Кантакт" (ЗША)
0.45 "Кома". "Ачмурэлыя папрашайкі".

### CNN

7.00 Навіны.
10.00 Бізнэс-цэнтар.
11.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20 00, 22.00, 23.00, 2.00, 3.00, 5.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
12.30, 14.30, 17.30, 0.30 Навіны спорту.
13.00, 16.00 Бізнэс Інтэрнэшнл.
18.30, 22.30, 3.30 Пытаньне - адказ.
19 30 6.30 Амэрыканскія навіны.
21.30 Бізнэс-навіны.
23.30 Вечаровыя бізнэс-навіны.
0.00, 5.30 Погляд зь сярэдзіны.
1.00 "Грошы" з Лу Добзам.
2.30 Рэпартажы замежных карэспандэнтаў.
4.00 Лары Кінг.

### Эўраспорт

9.30. 17.00 Вэлягонка. Тур баскаў.
10.30, 19.30 Футбольны часопіс KIA.
11 00, 13.45, 2.00 Гісторыі чэмпіянату сьвету па футболе.
11.30, 16.00 Футбол. Кубак УЭФА.
12.30, 18.00 Вэлягонка
14.30 Керлінг. Чэмпіянат сьвету.
20.00 Тэніс. Жывая трансьляцыя.
21.30 Тэніс.
22.30 Забавы ў пятніцу.
0.15 Керлінг Чэмпіянат сьвету. Жывая трансьляцыя.

## СУБОТА, 13 КРАСАВІКА

### БТ

7.00, 9.00, 15.00, 19.00 Навіны.
7.10 Сэрыял "Ключ да палёў".
8.00 Пазнавальны сэрыял "Пятае вымярэньне".
8.30 Існасьць.
9.10 Экран індыйскага кіно. "Страх". 1-я і 2-я сэрыі.
12.10 Сад мары.
12.35 Каралеўскае паляваньне.
13.00 Здароўе.
13.30 Сэрыял "Ідэальная пара".
14.20 "Мая васьмідзясятая восень". Дак.фільм пра народнага артыста Беларусі прафэсара В.Роўду ("Белвідэацэнтар").
15.20 Дэтэктыўны сэрыял "Камісар Шыманскі".
16 50 Беларуская дваццатка.
17 15 "Пяць цудаў".
17 4 5 Чароўны куфэрак "Саюзмультфільму". "Пунсовая кветачка", "Поні бегае па коле".
18.35 З дакладных крыніц.
19.25 КВК. 1/8 фіналу Эўраліґі.
21.00 Панарама тыдня.
21 50 Спорт-кур'ер
22.00 Прэмія "Оскар". Мэлядрама "Індакітай"
00.35 Сэрыял "Каралева мячоў".
1 20 Дак сэрыял "Пары і дуэты".

### СТВ

6.15 "Канал гісторыі": "Праграма абароны сьведкаў. зьдзелкі з д'яблам" Дак. фільм
7.15 "У гасьцях у Тофіка"
7 30 Мультсэрыялы "Русалачка", "Цік – герой", "Джын-Джын з краіны Пандаленд", "Сымпсаны".
10.00 "Бафі". Тэлесэрыял.
11.00 "Экзотыка".
11.15 "Рамонт".
11.30 "Аўтапанарама".
11.50 "Сьнеданьне зь Лікай".
12.15 "Сьвет спорту".
12.40 Кіно: "Пра вяртаньне забыцьць".
14.30 "Відавочца".
15.00 Дакумэнтальны фільм.
16.00 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
16.50 "Марш Турэцкага-2". Тэлесэрыял.
18.00 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
18.20 "Прафэсія, якую ты выбіраеш".
18.30 "Гадзіна пік".
19.30 Кіно: камэдыя "Канваіры".
21.55 Кіно: баевік "Касьмічны прышэлец".
00.15 "Навіны сусьветнай шоў-індустрыі".
00 45 "М 1". Музычная праграма.

### 8 канал

15.00 Фільм-казка "Тры таўстуны".
16.30 "Простае пытаньне".
16 40 Мультфільм "Царэўна-жабка".
17.20, 20.40, 21.25 Тэлекрама.
17 30 Дак. фільм "Да вяршынь каханьня".
18 00 Гурман-клюб.
18.20 "Незвычайныя здольнасьці жывёл".
18.45 Містычная драма "Омэн".
20.35 К-відэа "Топ-8".
20 45 "Вечарніца".
21.00 "Вячэрні прыём".
21.30 Фантастычны баявік "Зоркавая брама".

### ОРТ

7.00, 9.00, 14.00 Навіны.
7.10 КОАПП.
7.35 Сьледзтва вядзе Калабкоў.
7.55 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
8.10 Грай, гармонік любы!
8.50 Бібліяманія.
9.10 Сьмехапанарама.
9.45 Смак.
10.05 Дак.дэтэктыў. "Чорная сотня. Справа 2001 году".
10.35 У сьвеце жывёл.
11.15 Здароўе.
11.55 Дэтэктыў "Тайны айца Даўлінга".
12.50 "Тайны забытых перамог". "Байканур. Прычал Сусьвету".
13.35 Дыснэй-клюб. "Мікі Маўс і ягоныя сябры".
14.10 Валерый Мэладзэ. Найлепшыя песьні.
15 25 Маст. фільм "Забойства сьведкі".
17.00 Вячэрнія навіны.
17.20 "Жарт за жартам".
18.05 "Форс-мажор". Праект Мікалая Фаменкі.
18.50 "Хто хоча стаць мільянэрам?".
20 00 Час.
20 30 Камэдыя "Кадрыля".
22.10 Баявік "Рыжая Соня".
23.55 Камэдыя "Дасьціпнікі".

### РТР

7.15 Тата, мама, я – спартыўная сям'я.
8.00 "Дзюймовачка". Мультфільм.
8.30 Залаты ключ.
8.50 Здароўе і жыцьцё.
9.30 Добрай раніцы, краіна.
10.05 "Сто да аднаго". Тэлегульня.
11.00 "Навука і тэхніка". Навуковапазнавальная праграма.
12.05 Прэм'ера. Сэрыял "Дружная сямейка".
12.40 "Ха". Маленькія камэдыі.
13.00, 19.00 Весткі.
13.20 Дэтэктыў "Сьледзтвам устаноўлена".
15.00 Футбол. Чэмпіянат Расеі. "Лякаматыў" (Масква) - "Дынама" (Масква). Жывая трансьляцыя са стадыёну "Дынама".
17.00 Мая сям'я.
17.55 Аншляг.
19.25 Люстра.
20.00 Баявік "Шанхайскі поўдзень" (ЗША).
22.10 Вострасюжэтны фільм "Шызафрэнія".
1.05–2.15 Чэмпіянат сьвету па аўтагонках у клясе "Формула-1". Гран-пры Сан-Марына, кваліфікацыя. Трансьляцыя з Імалы.

### Культура

9.00 Праграма перадач.
9.10 "Дзікія жывёлы". "Дзень нараджэньня".
9.35 Мой цырк.
10.05 Дзіцячы сэанс. "Вецер у вербах". Мультфільм.
11.05 Бабуліны рэцэпты.
11.20 ГЭГ.
11.35 "Начальнік Чукоткі". Маст. фільм.
13.30, 21.30 Навіны культуры.
13.45 Графаман.
14.10 "XX стагодзьдзе Выбранае". "Ільф безь Пятрова".
14.50 А.М.Астроўскі. "Апекуны". Тэлеспэктакль па п'есе "Апошняя ахвяра".
17.10 Прагулкі па Брадвэі
17.35 "Сфэры"
18 15 "Рамантыка рамансу".
19 00 "Жаніцьба Бальзамінава" Маст. фільм.
20 30 Асабістыя ўспаміны пра вялікае жыцьцё.
20.35 "Новая тэатральная гасцёўня". Тэатар "Сатырыкон".
21.50 "Культ кіно". Упершыню на экране. "Палюбоўнікі". Маст. фільм.

### НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 15.00, 18.00 Сёньня.
7.15 "Вуліца Сэзам".
7.35 Сэрыял "Люстра, люстра".
8.25 Доктар Бранд. Без рэцэпту.
9.15 Крымінал. "Шчырае прызнаньне".
9.45 "Жаночы погляд".
10.20 Кватэрнае пытаньне.
11.25 Вострасюжэтны фільм "Код "Амэга" (ЗША).
13.25 Падарожжы натураліста.
14.05 Свая гульня.
15.25 "Сысьці, каб вярнуцца". Прафэсія – рэпарцёр.
15.55 "Працяг будзе...".
16.55 Прэм'ера НТВ. Сэрыял "Невядомая плянэта". "Вяртаньне да папуасаў".
18.45 Сэрыял "Агент нацыянальнай бясьпекі". "Сьмяротнік".
19.55 Баявік "Разборка ў Бронксе" (ЗША).
21.55 Сэрыял "Зоркавая брама" (ЗША).
22.50 "Усё адразу!" "Начныя забавы".
23.30–2.05 Камэдыя "Горад жанчын".

### CNN

7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00, 23.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
7.30, 3.30 Міжнародны рэпартаж.
8.30 Навіны бізнэсу за тыдзень.
9.30, 13.30, 23.30 Рэпартажы замежных карэспандэнтаў.
10.30, 20.30 Эўропа буйным плянам.
11.00, 4.00 Лары Кінг.
12.30, 14.30, 17.30, 0.30 Навіны спорту.
15.30, 6.30 Дыпляматыя.
16.30 Героі выпускаў навін.
18.30 Прафэсійны гольф.
19.30 Афрыка буйным плянам.
21.30 Незвычайны бізнэс.
22.30 Пытаньне - адказ.
1 30 Навіны бізнэсу за тыдзень.
2.30 CCN.dot.com.
5.00 Азія буйным плянам.

### Эўраспорт

9.30 Матагонкі. Ле Ман. 24 гадзіны.
10.45 Лёнданскі марафон.
14.00 Матакрос. Чэмпіянат сьвету.
15.00, 16.00 Вэлягонка. Парыж – Рубэ. Жывая трансьляцыя.
15.45 Матагонка. Жывая трансьляцыя.
19.00 Скачкі ў ваду з трампліна. Чэмпіянат Эўропы.
20.00 Тэніс. Жывая трансьляцыя.
21.30 Наскар.
22.30 Амэрыканскія навіны.
22.45 Керлінг. Чэмпіянат сьвету. Прамая трансьляцыя.
1.15 Скачкі з трампліну. Паўтор.

## НЯДЗЕЛЯ, 14 КРАСАВІКА

### БТ

7.00, 9.00, 15.00 Навіны.
7.10 Сэрыял "Ключ да палёў".
8.05 "Аграсьвет". Інфармацыйнааналітычная праграма.
8.30 Арсэнал. Праграма пра войска.
9.15 Мультыклюб.
9.40 Фільм-казка "Жар-птушка".
11.15 "Усё нармальна, мама!".
12.00 Тэлевітамін.
12.25 Сэрыял "Каралева мячоў".
13.15 "Лёс чалавека". Браніслава і Марыя.
13.45 Дак. фільм "Мой Шаўчэнка".
14.45 "І іншыя афіцыйныя асобы".
15.20 Сьвет і мы.
15.35 Крымінальнае дасье.
16.00 "Сустрэча ў Траецкім" з Аляксандрам Дамарацкім.
16.25 "Час мясцовы".
16.55 Хакей. Чэмпіянат сьвету. Паўднёвая Карэя – Беларусь. Трансьляцыя з Галяндыі. У перапынках – Тэлебаромэтар. Прагноз надвор'я; Энцыкляпэдыя беларускага спорту. Футбол.
19.30 Плянэта "АРТ".
20.00 Панарама аналітычная.
20.40 Спорт-кур'ер.
20.50 Камэдыя "Нябесны ціхаход".
22.10 Зоркі Бэрлінскага кінафэстывалю ў праграме "Новая калекцыя".
22.35 "Жулі Леско".
00.25 Дак.сэрыял "Пары і дуэты".

### СТВ

6.00 "Канал гісторыі": "Канібалы". Дак. фільм.
7.00 "1/52". Спартыўны агляд.
7.15 "У гасьцях у Тофіка".
7.30 Мультсэрыялы "Русалачка", "Цік – герой", "Джын-Джын з краіны Пандаленд".
9.00 "Гадзіна пік".
10.00 "Бафі". Тэлесэрыял.
11.00 "Яе звалі Нікіта". Тэлесэрыял.
12.00 "Сьнеданьне зь Лікай".
12.25 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
12.45 Кіно: дэтэктыў "Карчма на Пятніцкай".
14.50 "Відавочца".
15.25 "Агенцтва".
16.00 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
16.50 "Марш Турэцкага-2". Тэлесэрыял.
18.00 "Добры дзень, доктар!".
18.10 "Рамонт".
18.25 "Арт-экспрэс". Культурнае жыцьцё сталіцы.
18.45 "Пакуль гарыць сьвечка...".
19.15 "Аўтапанарама".
19.35 "Прафэсія, якую ты выбіраеш".
19.45 "Запрашаем паскардзіцца".
19.50 "Партрэт у інтэр'еры".
20.05 "168 гадзін Менску".
21.05 Кіно: драма "Франкенштайн".
23.55 "Сакрэтныя матэрыялы". Тэлесэрыял.
00.55 "Альфрэд Хічкок прадстаўляе". Тэлесэрыял.
1.30 Начны музычны канал.
2.40 "М 1". Музычная праграма.

### 8 канал

15.00 Маст. фільм для дзяцей "Каспэр".
16.30 "Эўропа сёньня".
17.00 Мультфільм "Папялушка".
18.30 Камэдыя "Па сямейных абставінах".
20.40 Тэлекрама.
20.45 "Вечарніца".
21.00 Праграма "Ў бары "Ў Алега".
21.45 Маст. фільм "Джэймс Бонд. Доктар Но".

### ОРТ

7.00, 9.00, 14.00 Навіны.
7.10 Служу Расеі!
7.40 Дыснэй-клюб. "Дзіцяняты джунгляў".
8.05 Ранішняя зорка.
8.50 Бібліяманія.
9.10 "Падарожныя нататкі".
9.30 Пакуль усе дома.
10.05 Выратавальнікі. Экстранны выклік.
10.40 Клюб падарожнікаў.
11.20 Дэтэктыў "Тайны айца Даўлінга".
12.15 "Самі з вусамі".
12.50 Разумніцы і разумнікі.
13.15 Скарбы Крамля.
13.35 Дыснэй-клюб. "Мікі Маўс і ягоныя сябры".
14.10 Камэдыя "Дама з папугаем".
16.05 Жывая прырода "Царства рускага мядзьведзя".
17.00 Вячэрнія навіны.
17.15 "Фабрыка мрой на зямлі каханьня". Спэцрэпартаж.
17.25 КВК-2002.
19.40 Камэдыя "Кранутыя прафэсар".
21.30 Часы.
22.45 Драма "Вялікі каньён".

### РТР

7.00, 0.55 Прагноз надвор'я.
7.05 Тата, мама, я – спартыўная сям'я.
7.50 Расейскае лята.
8.40 "ТБ Бінга шоў".
9.20 Добрай раніцы, краіна.
9.55 Сам сабе рэжысэр.
10.50 "Гарадок". Дайджэст.
11.25 Камэдыя "Фантоцы супраць усіх".
13.00 Весткі.
13.20 Парлямэнцкая гадзіна.
14.05 Дыялёгі пра жывёл.
15.00 Вакол сьвету.
15.50 ТБ Бінга навіны.
15.55 Бэнэфіс Яфіма Шыфрына.
17.10 Баявік "Сын за бацьку...".
19.00 Весткі тыдня.
20.10 Аншляг.
21.10 Маст. фільм "Чорны сабака" (ЗША).
22.55 Спорт за тыдзень.
23.15–0.55 Чэмпіянат сьвету па аўтагонках у клясе "Формула-1". Гран-пры Сан-Марына. Трансьляцыя з Імолы.

### Культура

9.00 Праграма перадач.
9.10 "Дзікія жывёлы". "Пікнік".
9.35 "Перапутавы астравы".
10.00 Дзіцячы сэанс. "Выкрадзены". Мультфільм.
11.05 Нядоўгія гісторыі.
11.20 1001 аповед пра кіно.
11.50 "Шукаю чалавека". Маст. фільм.
13.21 Анонсы.
13.30, 21.30 Навіны культуры.
13.45 Магія кіно.
14.10 "Пэйзаж зь ядлоўцам". Маст. фільм.
14.50 "Чатырнаццацігадовыя. Народжаныя ў СССР". Дак. фільм.
16.20 "У сьвеце танцу". "Нарцыс". Дак. фільм.
17.05 Кінапанарама.
17.50 Тым часам.
18.15 "Дом актора". "Маскоўскія дэбюты".
19.05 "Стары знаёмы" Маст. фільм.
20.30 Асабістыя ўспаміны пра вялікае жыцьцё
20.35 "Госьць у акторскай студыі". Анжаліка Х'юстан.
21 50 "Агнэс Браўн". Маст. фільм
23.25 "Бісы" Міхаіла Плятнёва.

### НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 15.00 Сёньня.
7.20 "Вуліца Сэзам".
7.40 Пэпсы-чарт.
8.30 Ох, ужо гэтыя дзеці!
9.15 Сэрыял "Агент нацыянальнай бясьпекі".
10.25 "Крымінальная Расея". "Забіць па-амэрыканску".
11.25 Наша кіно. Камэдыя "Аксэлератка".
13.10 Смачныя гісторыі.
13.25 Служба выратаваньня.
14.00 Свая гульня.
15.25 "Якія ўцяклі ад сьмерці". Прафэсія – рэпарцёр.
15.45 "Я і мой сабака". Дог-шоў.
16.40 "Жаночы погляд".
17.15 Вочная стаўка.
17.45 Шоў Алены Сьцепаненкі.
18.45 Сэрыял "Агент нацыянальнай бясьпекі". "Нобэлеўскі ляўрэат".
20.00 "Надоечы".
21.15 Лялькі.
21.35 Сэрыял "Зоркавая брама" (ЗША).
22.30 Камэдыя "Пазбаўленыя дару маўленьня" (ЗША).
0.40–1.20 Агляд Лігі чэмпіёнаў.

### CNN

7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 0.00, 5.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
7.30, 3.30 Міжнародны рэпартаж.
8.30, 18.30 Рэпартажы замежных карэспандэнтаў.
9.30, 23.30 Эўропа буйным плянам.
10.30 Незвычайны бізнэс.
11.00, 4.00 Лары Кінг.
12.30, 14.30, 17.30, 0.30 Навіны спорту.
13.30 Героі выпускаў навін.
16.30 Афрыка буйным плянам.
19.00 Ток-шоў Вульфа Блітцэра.
21.30 Навіны бізнэсу за тыдзень.
22.30 CNN.dot.com.
1.00 Навіны
5.30 Дыпляматыя.
6.30 Агляд гульняў НБА за тыдзень.

### Эўраспорт

9.30 Матацыклетныя гонкі, 24 гадзіны, Ле Ман.
10.45 Марафон, Лёндан.
14.00 Матакрос, чэмпіянат сьвету, Гішпанія.
15.00, 16.00 Вэляспорт, Парыж – Рубэ.
15.45 Матацыклетныя гонкі.
19.00, 1.15 Скачкі ў ваду з трампліну, Кубак Эўропы, Стакгольм.
20.00 Тэніс, WTA, жывая трансьляцыя.
21.30 Аўтагонкі сэрыі Наскар, Тэхас.
22.45 Керлінг, чэмпіянат сьвету, ЗША, фінал, мужчыны.

**КОШТЫ**

**на платныя прыватныя абвесткі (для прыватных асобаў, на старонку 12):**

— да 20 словаў (тэкставы модуль) 228 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) 288 руб.
— аформленая абвестка 144 руб. за кв.см.
— аформленая абвестка — больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету ад 186 руб. за кв.см.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак. Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: УНП 101115521, "Наша Ніва", Менск, Калектарная 20а, п.2а. Р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ "Белінвестбанк" Менску, код 763.

АБ'ЕКТЫЎНА ПРА РЭАЛЬНАЕ

RR

РАДЫЁ РАЦЫЯ

НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ
6035 кГц (49 м) 07:00-09:00
6110 кГц (49 м) 21:00-23:00

WWW.RACYJA.PL
220102, Менск, а/с 144

З Новага году "НН" выходзіць на 16 старонках з тэлепраграмай. Дык падпісвайся!


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Гісторыя драбніцаў

Гэтай публікацыяй сканчаецца праект "Нашай Нівы" "Беларусь праз сто гадоў", распачаты летась у сакавіку. Ніводная, відаць, нашаніўская рубрыка (калі ня браць пад увагу бясплатных прыватных абвестак) не выклікала гэткае колькасьці допісаў. Адгукаліся студэнты і пісьменьнікі, фэрмэры і палітыкі. Пісалі зь вераю ў будучыню, з аптымізмам. Дарэшты пэсымістычных допісаў з прадказаньнем хуткае гібелі Беларусі было ўсяго два-тры.

На працягу году мы марылі й загадвалі, намагаючыся ўявіць будучыню нашай краіны, але адысьці цалкам ад леташніх рэаліяў так і ня здолелі. Таму было так багата ў нашых развагах палітыкі: падахвочвалі прэзыдэнцкія выбары. Хто-ніхто выводзіў нават простую залежнасьць паміж іхным вынікам і лёсам нашай краіны праз сто гадоў. Мы часам не здавалі сабе справу, што гэтыя падзеі будуць значыць для нашых нашчадкаў гэтулькі сама, колькі для нас — выбары ў Думу, пра якія пісала "Наша Ніва" пачатку XX стагодзьдзя, і ведаць пра іх будуць хіба спэцыялісты-гісторыкі... Але беларусы — нацыя экзыстэнцыялістаў. Мы звыклі жыць "на пераломным гістарычным моманце", чакаць раю альбо пекла за кожным паваротам гісторыі. Таму й заангажаваныя ў сёньняшні дзень, таму й атрымліваецца ў нас Беларусь не праз сто, а ў найлепшым выпадку праз 30 гадоў — яшчэ пры жыцьці сёньняшняга пакаленьня. У свае разважаньні пра будучыню мы закладаем альгарытм, запазычаны з штодзённых газэтаў ды партыйных праграмаў. Пішам пра ўваходжаньне ў *NATO*, Эўразьвяз, інтэграцыю ў вольнае эўрапейскае грамадзтва. Найчасьцей абстаўляецца гэта так: Эўропа прыйдзе ды адбярэ Беларусь у Расеі. І на гэтым моманце зазвычай мы ставім кропку, бо пасьля яго мусіць надысьці вечнае шчасьце, здабытае нам кімсьці, нечымі чужымі рукамі.

Нам яшчэ цяжка думаць маштабамі нашае дзяржавы. Таму шмат хто часьцяком зьбіваецца ў сваіх допісах на геапалітыку плянэтарнага маштабу, піша пра перападзелы сьвету, глябальныя войны, перасяленьне народаў, нашэсьце кітайцаў, смакуе канчатковы развал Расеі або затапленьне Амэрыкі. Беларусь жа згадвае двума радкамі пры канцы — як аб'ект чыйгосьці ўзьдзеяньня, як цацку ў руках лёсу і абставінаў. Глядзіць на яе збоку, як на чужое. Абыякава ставіць у шэраг краінаў, зьмеценых у працэсе змаганьня "звышдзяржаваў" (хоць, ізноў жа, якая зь сёньняшняй Расеі звышдзяржава? Хто браў у разьлік Амэрыку да першай сусьветнай вайны?).

А часам, стомленыя палітыкай, мы зьвярталіся да навуковай фантастыкі, капіюючы колісь прачытаныя кніжкі Яфрэмава ды сучасныя амэрыканскія фільмы. Але за зоркавымі войнамі, касьмічнымі падарожжамі ды марсіянскімі калёніямі новае думкі таксама не відаць.

Таму гэтак многа чытацкіх лістоў "Наша Ніва" не надрукавала.

А пішучы пра Беларусь, багата хто з нас імкнуўся ахапіць усё адразу — і палітыку, і эканоміку, і культуру, і рэлігію. Таму рэдакцыя час ад часу атрымлівала лісты-блізьняты, у кожным зь якіх былі і "Пагоня", і талер, і унія, і гіганцкія наклады Караткевіча ды "NRM", і эканамічны росквіт. Цешыла гэткае адзінства ў разуменьні нацыянальных каштоўнасьцяў, аптымізм аўтараў, але друкаваць з нумару ў нумар аднолькавыя матэрыялы не выпадала. Дый навошта расьцягваць на сто гадоў падзеі, якія могуць адбыцца нашмат хутчэй?

Імкнучыся разважаць глябальна, нашы дапісчыкі амаль не зьвярталі ўвагі на рэчы надзённыя, хатнія. Мала які бацька, рамантуючы дзіцяці паламаную цацку, задумаўся: а з чым будуць гуляць беларускія дзеткі ў XXII ст.? Кухары й хатнія гаспадыні не напісалі нам пра харчаваньне, будаўнікі — пра архітэктуру, мадэльеры ды краўцы — пра адзеньне, афіцэры — пра войска праз 100 гадоў. Берасьцейцы не напісалі пра Берасьце, а жыхары Аталезі — пра разбудову іхнай вёскі праз 100 гадоў. Між тым, гэтыя драбніцы будуць уяўляць найбольшую цікавасьць нашым наступнікам праз стагодзьдзе. Хоць бы для зьверкі.

Мала было гэтых надзённых драбніцаў, бо мала хто ў Беларусі пакуль засяроджаны на дробязях — на такой працы, каб і праз сто гадоў адчуваліся ейныя вынікі і каб нашчадкі цешыліся ёю.

Рубрыка скончылася, але яна вечная. Бо кожны вольны штодзень працаваць над такімі рэчамі, якія і за 100 год ня страцяць сваёй вартасьці. Вольны пасадзіць не таполю, а дуб, збудаваць цагляны дом, а ня фінскі домік. А паколькі "НН" — гэта люстра дзён нашага жыцьця, дык допісам пра "Беларусь праз 100 гадоў" будзе месца на старонках і ў будучыні.

**Андрэй Скурко**

## Нарэшце!

Беларусь у 2101 г. нарэшце абярэ нармальнага, 20-га па ліку прэзыдэнта ад шырокай дэмакратычнай кааліцыі з 30 магчымых кандыдатаў. Ім стане дэмакрат, найвялікшы ў гісторыі незалежнай Беларусі вязень сумленьня і нацыяналіст, барацьбіт за правы працоўнага народу Рыгор Пятровіч Лукашэнка.

Праз 100 гадоў мы нарэшце аб'яднаемся з дашчэнту зьбяднелай Расеяй у саюзную дзяржаву са сталіцай у Менску і адзінай дзяржаўнай мовай — беларускай. У выніку апошнія карысныя выкапні на плянэце стануцца нашымі.

Урад БНР нарэшце вернецца з эміграцыі і ва ўрачыстай абстаноўцы перадасьць свае паўнамоцтвы чатырохпалатнаму беларускаму парлямэнту.

На Палесьсі знойдуць невычарпальнае радовішча золата і каштоўных камянёў.

Супольны наклад альбомаў "NRM" у 10 разоў пераўзыдзе адпаведны наклад *"The Beatles"*.

Касьмічныя караблі, спадарожнікі і робаты былых МТЗ і "Інтэгралу" будуць асвойваць Марс. Дый першы кантакт зь іншаплянэтнай цывілізацыяй зьдзейсьняць беларускія астранаўты, якія ў той час якраз пачнуць дасьледаваць суседнюю галяктыку.

Перад канцом сьвету другое прышэсьце Ісуса Хрыста на Зямлю адбудзецца менавіта ў Беларусі.

**Андрусь Белавокі, Менск**

## Берасьцейская фартэцыя

Дзяўчыну клікалі Рогні. Яна ішла побач. Была ноч. Цемра ахутвала навакольле, але цемра незвычайная — нейкая матавая, напоўненая, нібы малаком, сьвятлом поўні ў бясхмарным небе. Зрэшты, неба мы амаль ня бачылі за галінамі дрэваў. Здавалася, што навокал віетнамскія джунглі, ліяны, бактэрыі тыфусу й суцэльная невядомасьць. Потым вочы адаптаваліся да цемры, і я ўбачыў, што навокал звычайныя ялінкі, ядловец, мох, дрыгва, беларуская пушча. Сьцежка была штучная й недзе на мэтар узвышалася над зямлёй. Здавалася, што яна, як кіндэрсюрпрыз, зробленая з тонкага слою файнай чакаляды й кожны момант можа абваліцца пад нашай вагой. Мэтраў праз сто наперадзе стаяў вялікі стары дуб. Недалёка ад яго, з правага боку, я заўважыў нейкі дзіўны цень. Спачатку здавалася, што гэта папросту нейкая дэфармацыя ляснога рэльефу. Падышоўшы бліжэй, мы пабачылі, што гэта нямецкі танк "Пантэра", абгорнуты зялёнай маскеткай і абкладзены галінкамі дрэваў. "Што будзем рабіць?" — шэптам спыталася Рогні, ейныя вусны амаль краналіся майго вуха. Адказаць я не пасьпеў, бо ў тое імгненьне неба перакрэсьліла чырвоная сыгнальная ракета й непадалёк пачуліся аўтаматныя чэргі. Мы ўпалі на зямлю й схаваліся за карані старога дуба. Урэшце цікаўнасьць перамагла пераляк. Я трохі высунуўся са сховішча.

Наперадзе, мэтраў за 200 ад нас... партызаны атакавалі немцаў. Здавалася, што я ўсё гэта бачу на запаволенай відэастужцы. Ашалелыя твары нямецкіх жаўнераў, стрэлы, гранаты, кулямёт. Крыкі і скрыгатаньне. Сэрца грукае ў скронях... Мэталёвыя каскі фашыстаў, чорныя палосы на тварах партызанаў. Свастыкі, зоркі... Танк павярнуў вежу ў бок партызанскіх пазыцыяў і стрэліў. Грымнуў аглушальны выбух. Мяне адкінула пад самае дрэва. Ламаючы гальлё, танк пачаў павольна рухацца ў бок партызанаў. Раптам у сьвятле чарговай сыгнальнай ракеты я пабачыў, як на адным з каранёў мільгнуў нейкі агеньчык. Прыгледзеўшыся, я ўбачыў невялічкую галяграмную налепку з надпісам: "Тэматычны парк "Берасьцейская фартэцыя", дуб, ідэнтыфікатар віртуальнага аб'екту 220619410023". У левай частцы галяграмкі зіхацеў усімі колерамі вясёлкі лягатып — стылізаваная выява брамы Берасьцейскай фартэцыі. Я схапіў Рогні за плячо й паказаў на галяграму:

— Ты бачыш?! Гэта віртуальная рэчаіснасьць. Ці ёсьць выйсьце?

— Ёсьць, і мы адшукаем яго. Гэта толькі першы ўзровень, — запэўніла яна мяне.

**Бяз подпісу**

## Краіна прыгожых і шчасьлівых

З-за глябальнага пацяпленьня на плянэце лета ў Беларусі сталася даўжэйшае і цяплейшае. Рэкі, азёры, вадасховішчы даўно ўжо чыстыя, вабяць да сябе і старых, і малых. Усе беларусы — цудоўныя плыўцы, могуць плысьці гадзінамі бяз стомы. Гэта прывяло да зьяўленьня новага кшталту воднага турызму — плавальнага. Групы турыстаў самых розных узростаў гадзінамі плывуць па чысьцюткіх рэках, штурхаючы перад сабою невялікія плыты-пакункі з празрыстага плястыку з рыштункам. Хто жадае адпачываць толькі ў сваім коле, маюць большыя плыты зь бівачным рыштункам, іншыя спыняюцца ў цудоўна абсталяваных ля вады месцах адпачынку ў лёгкіх, прыгожых летніх дамках. Шмат хто з вандроўнікаў аддае перавагу традыцыйным відам водных вандровак — плывуць на плытах, катамаранах, байдарках.

Людзі праводзяць ля вады шмат вольнага часу. Нанова адроджаныя ў Беларусі традыцыі антычнай Грэцыі. Здаровыя, прыгожыя, шчасьлівыя людзі на пляжах і ў водных вандроўках даўно не карыстаюцца купальнікамі. Чароўныя целы жанчынаў і магутныя, дужыя — мужчынаў цалкам адкрытыя, нікога гэта не бянтэжыць, да такога ўсе даўно прывыклі. Зьнікла з ужытку парнаграфія, адышлі ў нябыт згвалтаваньні.

Замежны турызм прыносіць Беларусі значныя прыбыткі. Мільёны замежнікаў едуць у нашу краіну, каб на свае вочы пабачыць старажытныя замкі, храмы, палацы, адрэстаўраваныя ці нанова адбудаваныя найлепшымі дойлідамі сьвету. Беларусь, як і ў XVI ст., завецца "Краінаю замкаў".

А найболей людзей, беларусаў і замежнікаў, зьбіраецца ў "Дні Памяці" каля трох велічных "Храмаў Памяці". На Дзяды ў Курапатах, 26 красавіка ў Ветцы і 8 траўня ў Трасьцянцы. Сьвет ведае гэтыя памятныя для Беларусі даты і смуткуе разам зь беларусамі.

**Вадзім Болбас, Сьветлагорск**

## Краіна навукі

Хацелася б убачыць праз 100 год нас, нарэшце, уласьнікамі сваёй зямлі, вялікіх і малых прадпрыемстваў, прыватных школаў і мэдычных салёнаў. Адпаведна, калгасны лад будзе зьменены на фэрмэрскі. Пракарміць шэсьць абласьцей ня вельмі складана, калі справу павесьці пісьменна. Лішкі зямлі будуць засаджвацца лесам, як гэта робіцца цяпер у Прыбалтыцы, і Беларусь верне сабе свой лясны запас. Асушэньне балотаў забароняць эколягі, і наш край будзе лічыцца амаль некранутым у параўнаньні з Эўропай.

Што ж будзе з буйнымі гарадамі? Яны ператворацца ў месца працы для жыхароў, якія будуць выбіраць сьвежае паветра ў родных вёсках. Туды падвядуць сетку газаправодаў, і ўсе праблемы сялянства вырашацца адным махам. Паколькі ў Менск і так лёгка дабрацца, мо замежныя інвэстары ды дзяржава паклапоцяцца правесьці чыгунку ў мядзельскім напрамку. І адпачынак на мядзельскіх азёрах будзе лічыцца ня горшым, чым на Міжземным моры.

Менск праз 100 год хацелася б бачыць сталіцай навукі і студэнцтва ва ўсім сьвеце. Няхай нашыя дыплёмы будуць самымі прэстыжнымі, а веды, атрыманыя ў Беларусі, — самымі трывалымі і дакладнымі. Гэта не запатрабуе ад дзяржавы вялікіх затрат, бо амаль усе навучальныя ўстановы будуць рэнтабэльнымі за кошт студэнтаў зь іншых краінаў. Свае ж будуць атрымліваць веды бясплатна, хаця б таму, што яны жыхары гэтай краіны.

Марыць можна доўга. Але ёсьць сярод гэтага галоўная мая мара — каб хоць праз 100 год Беларусь пайшла па дарозе здаровага сэнсу. На карысьць сабе і сваім грамадзянам. Бо бяз гэтага можна пражыць і 100 год, але больш — немагчыма. Таму, даражэнькія мае суродзічы, супляменьнікі, сябры, давайце ў сваіх учынках кіравацца толькі здаровым сэнсам. І, вядома, думаць пра заўтрашні дзень. І рабіць усё, каб ён быў лепшым за сёньняшні. Мы зможам, дый вартыя гэтага. Хаця б таму, што мы — Беларусы.

**Вангор Вушацкі, Маладэчна**

## Далёкая радзіма

"Беларусь 100 гадоў таму. Якой яна была? Чым беларусы карысталіся? Як яны жылі?" — такія думкі ўсхвалявалі дзесяцігадовага хлопчыка пасьля звычайных заняткаў па інтэрактыўным Інтэрнэце. Ён сядзеў за кампутарам у сваім пакоі і зьбіраўся ўжо ісьці спаць, як нечакана яго спынілі гэтыя думкі. Са словаў дзеда ды з заняткаў ён крыху ведаў пра тыя часы. Ведаў, што раней людзі жылі толькі на Зямлі, а цяпер — яшчэ на Месяцы і Марсе. Ведаў, што беларусы цісьнуліся на маленькім шматку зямлі ў цэнтры Эўропы, цяпер жа Беларусь — асноўны каляінізатар Месяца і кожны тысячны беларус — "незямны" жыхар, а кожны мільённы нарадзіўся па-за межамі Зямлі, да ліку якіх адносіўся і хлапчук. Ведаў ён і тое, што ў пачатку XXI ст. толькі-толькі пачаўся беларускі рух Адраджэньня. Ведаў, што шэсьць пальцаў на левай назе неяк зьвязаныя зь нейкім чарнобыльскім выбухам і што бацькаў дом знаходзіцца ў былой "зоне адсяленьня"... Ведаў, што Беларусь стала вядучай краінай у асваеньні космасу пасьля таго, як беларускія навукоўцы вынайшлі шлях мірнага карыстаньня тэрмаядзерным сынтэзам...

Паразважаўшы крыху, хлопчык пайшоў прымаць канцэнтраты. Тут ён успомніў, што ў той час яшчэ ўжывалі розныя стравы, прыгатаваныя з дапамогай агню. Цяпер такое можна паспытаць толькі ў дарагіх рэстаранах, простыя ж людзі ядуць канцэнтраты з рознымі хімічнымі дабаўкамі. Пад'еўшы, ён пайшоў глядзець інтэрвію аб першым палёце на суседнюю зорку: адным зь пілётаў быў яго бацька. А ў душы засталося прыемнае пачуцьцё гонару за сваю далёкую радзіму.

**Алесь Вольны, Менск**

## Ружанец гуайкуру

На беразе бурлівага мора ў плеценым фатэлі сядзеў малады дасьледчык амэрыканскіх цывілізацыяў Сяржук Талер. Ён з асалодай пацягваў з фужэра аксамітны пяцізоркавы каньяк "Зянон" і перабіраў ружанец. Раптам жоўты ад тытуню палец саскочыў з пацеркі, пачуўся грукат, марскія хвалі расступіліся і навокал ня стала нічога бачна...

Маладзён апынуўся на высокім пагорку перад натоўпам, што гарлаў:

"Крыві, наш браце! Сын усяіснага Роду, ня дай зьнікнуць нашай зямлі, разам зь сіламі продкаў абарані ад сьмяротнае навалы!.."

Кола часу рушыла далей.

Сяржук адчуў на сабе жаночы подых. У цёмнай хаце на мядзьведжай скуры зь ім ляжала маладая дзеўка ў

ільняной кашулі:

— Ой, які хлопец, але дзіўны нейкі: шляхцюк мо?

— Ды ніякі я не шляхцюк... — сказаў быў Талер.

— Вось і добра, — распусьніца падсунулася бліжэй, абняла, але вандроўнік у часе выкруціўся, як цмок, зь яе адбымкаў і апынуўся на плошчы...

"*Ты что, деревенщина, перед его превосходительством картуз не снимаешь?*" — крыкнуў афіцэр зь дзьвюхгаловым арлом на кашкеце і ўдарыў хлопца так, што іскры з вачэй пасыпаліся...

Цяпер Талер ляжаў на ложку. За акном грукатала знаёмае яму мора, але буйныя кроплі поту й цяжкі, сухотны кашаль здаліся яму незвычайнымі. Слабая, нібы не свая рука міжволі пацягнулася па паперу, на якой накідала чужыя, але знаёмыя словы:

У краіне сьветлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты
Я не самотны...

Імгненьне — і сьмяротны ложак ператварыўся ў жвір. Тысячы ног імкнуліся па ім у невядомым напрамку. Удар збоку. Сяржук упаў; але ня змог устаць. Чыйсьці падкаваны абцас трапіў акурат у плячо. Талер паспрабаваў абараніцца, але марна. Вынік быў прадказальны... Раптам зьверху пачулася:

— Сяржук, уставай! Час зьбірацца.

Малады дасьледчык прачнуўся і ўбачыў сваю жонку Насту, зь якой сёньня мусіў ехаць у Буэнас-Айрэс. Зь яе дапамогай апрануўся, бо шнар ад індзейскай дзіды яшчэ балеў. Прыхапіўшы матэрыял для слоўніка мовы гуайкуру, Сяржук з Настаю рушылі на поўнач. У сталіцы Аргентыны іх ужо чакалі. На Авэніда Сан-Мартын, дзе сем год дзейнічала сетка кавярняў "Дон Лявон", адчыняўся беларускі ўнівэрсытэт.

**Арцём Арашонак**

# Пеўнева кукарэканьне зь Вільні

2101 год. Ліцьвіны жывуць не ў цагляных шматпавярховіках, а ў нізенькіх хатах, зробленых, што праўда, з сучасных матэрыялаў па найноўшых тэхналёгіях. Таму гарады пазбаўленыя вялікіх гмахаў і, быццам соты, складзеныя ў вышыню зь сямейных пляцовак, забудаваных згодна з архітэктурнымі стылямі, уласьцівымі гэтай мясцовасьці. Жытло праектуецца на кампутары, што дазваляе пазьбягаць паўтораў.

Помнікі мінулых стагодзьдзяў аднаўленыя не па-музэйнаму дакладна, а з прыцэлам для выкарыстаньня ў сучасным жыцьці, бо людзі праз агульнаадукацыйныя школы праграмаваньня мозгу авалодваюць навыкамі старажытных рамёстваў, мастацтваў, традыцыяў, звычаяў і г.д.

Жывуць людзі на выбар: несьмяротна целам ці інтэлектуальна альбо адразу і адно, і другое. Што праўда, ад гэтага зьнікае смак жыцьця. І найвышэйшым шыкам сярод інтэлігенцыі лічыцца застацца сьмяротным.

Сэнсам жыцьця даўно ўжо перастаў быць заробак і спажываньне рэчаў. Служэньне ідэям грамадзтва — вось што падтрымлівае дух найлепшых зь несьмяротных. Таму пасьля школы людзі звычайна выпраўляюцца ў рызыкоўныя вандроўкі ў космас — асвойваць новыя землі.

Паколькі этычныя падваліны грамадзтва (дабрыня, сяброўства, любоў, каханьне, вернасьць і г.д.) захаваліся ў нязьменным выглядзе, а "радзімыя плямы" розных "-ізмаў" зьніклі, ізноў стала магчымым сустрэць, як калісьці, непаўторную гасьціннасьць у беларускай хаце.

Таму ліцьвіны, якія прыяжджаюць з космасу адпачыць, пакорпацца ў гародзе, дабіраюцца да лецішча не паветралётам, як звычайна, а на кані — каб патрапіць на начоўку да кагосьці з тутэйшых.

Улада выбарная, умовы для бюракратыі зьліквідаваныя заканадаўчымі і тэхналягічнымі нваўвядзеньнямі. А па-над уладай — рада з самых паважаных людзей краіны.

Кожны дзень пачынаецца трансьляцыяй пеўневага кукарэканьня зь Вільні. А гімн "Магутны Божа" заканчваецца ня словамі "Зрабі...", а "Трымай свабоднай, трымай шчасьлівай Краіну нашу і наш народ".

**Алесь Катлянік**

# Выбранае

**На беларускіх палетках амаль ня будзе бульбы. Апантаныя клопатам пра здароўе, людзі выкрасьляць яе са штодзённага рацыёну (як і гарэлку, тытунь ды наркотыкі) і толькі ў сьвяты будуць ласавацца дранікамі, тлустымі кілбасамі, салам ды мачанкай.**

**Юлія Андрэева (№14, 2 красавіка 2001 г.)**

**У рухавікі будуць заліваць алей, рапсавы ці льняны. Дым ад іх будзе пахнуць блінцамі. Праз стагодзьдзе над Беларусяй будзе разьлягацца адно пах бліновы.**

**Сяргей Харэўскі (№15, 9 красавіка 2001 г.)**

**...Пачатак XXII ст. Людзі на Беларусі яшчэ ёсьць, і ня толькі за Гомелем. Праўда, абарыгенаў няшмат, больш афрабеларусаў і каўказабеларусаў, што запаланілі постіндустрыйныя "джунглі". Тутэйшыя ж аўтахтоны зноў вярнуліся ў лясы і балоты, якіх значна паболела пасьля рэалізацыі міжнароднай праграмы "Беларусь — лёгкія й ныркі Эўропы".**

**Васіль Аўраменка (№16, 16 красавіка 2001 г.)**

**На экране маніфэстанты палілі пудзілы беларуса й украінца ў нацыянальных строях. Гэта палешукі дамагаюцца аўтаноміяў у складзе Беларусі і Украіны і большых гарантыяў ад прарыву акіянскіх водаў у палескія нізіны.**

**Руслан Равяка (№17, 25 красавіка 2001 году)**

**Віленскі канцэрн "Наша Ніва" будзе валодаць тузінам забаўляльных і культурніцкіх спадарожнікавых каналаў і дзесяцьцю друкаванымі выданьнямі (Віктар Шніп, ганаровы прэзыдэнт Акадэміі Навук, на гэта некалі пажартуе: "У нашыя часы была адна "НН" накладам 4000, і ўсё для сабакаў, а цяпер маеце 300 тысяч, ды ўсё для гражданоў"). Вельмі папулярны будзе часопіс ARCHE і дадатак да яго ARCHE–PORNO.**

**Ільля Канавалаў (№19, 7 траўня 2001 г.)**

**Таварыства беларускай культуры імя Зянона Пазьняка займаецца прамоцыяй беларускай мовы і культуры ў сьвеце. Гэта дзякуючы яму баскі пераклалі на сваю мову "Палескую хроніку" Мележа, у кубінскія дзіцячыя хрэстаматыі ўвайшла "Песьня пра камэнданта Чэ" Генадзя Бураўкіна, у Мантэвідэо ўсталявалі памятную шыльду Карлясу Шэрману, а ў Менску — бронзавага сабаку Шніпа.**

**Арцём Арашонак (№21, 21 траўня 2001 г.)**

**У рэлігійнай сфэры... аб'ектамі ўшанаваньня стануцца энэргія ды інфармацыя... Цэрквы ж... аб'яднаюцца ці будуць суіснаваць ціха-мірна: абы хоць якія вернікі прыходзілі.**

**Lupus Est (№ 23, 4 чэрвеня 2001 г.)**

**Канцлерка БНР Юнэля Абуховіч разводзіцца са сваім мужам Юр'ем, дасьледнікам марсіянскага наскальнага жывапісу. Гэта выкліча істотнае ваганьне курсу беларускае капы на найбуйнейшых біржах Зямлі, Месяца і Марсу.**

**Сяргей Балахонаў (№ 24, 11 чэрвеня 2001 г.)**

**З робатаў-хатнічкаў найбольш папулярная мадэль — Кот Баюн. Ён і ў доме прыбярэ, і малых дагледзіць-нагадуе, збае ім казачку, змурлыкае калыханку.**

**Рагнеда Аляхновіч (№25, 18 чэрвеня 2001 г.)**

**Беларускамоўныя рэміксы "Бітлз" пачалі выцясьняць арыгінальнае выкананьне.**

**Раман Станкевіч (№26, 25 чэрвеня 2001 г.)**

**З кватэры на Млынавым завулку, дзе ў тым самым ціхім Запалоцьці пражыў свае найлепшыя гады А.Мінкін, нарэшце адселены ягоны нашчадак, сквапнасьць і абыякавасьць якога да літаратуры абуджаюць заслужаны сумнеў у сваяцтве зь незабыўным мэтрам. Намаганьні навуковых і судовых інстанцыяў неадкладна далі свой плён: на самым пачатку рэстаўрацыйных захадаў пад канапай, дзе паэт спаў і абдумваў свае вершы і антыўтопіі, знойдзены скарб — літровы слоік з-пад салянкі з 100 савецкімі чырвонцамі, акуратна загорнутымі ў літаратурную старонку полацкай раённай газэты "Сьцяг камунізму" за 25 сакавіка 1981 г.**

**Уладзімер Арлоў (№27, 4 ліпеня 2001 г.)**

**Помнік... Валер'ю Шчукіну... будзе стаяць на цяперашняй вуліцы Акрэсьціна ў Менску, якую... назавуць у гонар Шчукіна.**

**Янка Мірон (№31, 30 ліпеня 2001 году)**

**"Увага! ...З 1 чэрвеня 2101 г. паленьне тытуню тут забароненае ў сувязі з пагаршэньнем экалягічнай сытуацыі".**

**Ян Мацур (№33, 13 жніўня 2001 году)**

**Ад былой беларускай літаратуры застанецца толькі перакладзены на ангельскую мову Алесь Разанаў (*Alex Razanaw*).**

**Уладзь Бараніч (№35, 27 жніўня 2001 г.)**

**У Горадні футбалістаў прыме Папа Рымскі, першы Папа — беларус па нацыянальнасьці, які спэцыяльна дзеля гэтага адведае Радзіму. Гэты Папа — вялікі прыхільнік футболу.**

**Зьміцер Панкавец (№36, 3 верасьня 2001 году)**

**Парлямэнт будзе невялікі па колькасьці, бо практыка сьведчыць: чым большы кагал, тым менш ладу.**

**Зьміцер Падбярэскі (№38, 17 верасьня 2001 году)**

**Праз 100 гадоў у пашпартах грамадзянаў Беларусі ня будзе даты нараджэньня. Яе зьменіць дата сьмерці (генная інжынэрыя дасьць магчымасьць дакладна гэта вызначыць пры зьяўленьні немаўляці на сьвет).**

**Усевалад зь Вялейкі (№39, 24 верасьня 2001 году)**

**Пачуць творы Скрабіна альбо Шастаковіча на Залатой горцы будзе немагчыма. На тое будуць шматлікія *FM*-станцыі ды сьвецкія залі.**

**Віталь Стахіевіч (№40, 1 кастрычніка 2001 г.)**

**Спробы кланаваць вядомых людзей скончацца расчараваньнем — двайнік Максіма Багдановіча не захварэе на сухоты, аднак і не напіша чагосьці значнага.**

**Людміла Рублеўская (№43, 22 кастрычніка 2001 г.)**

**Ты не ўяўляеш, колькі тут навюткіх самаходаў!.. Файная ўсё-ткі ў нас сталіца, найлепшая ў сьвеце Мар'іна Горка!**

**S.B. (№45, 5 лістапада 2001 г.)**

**Пішчалаўскі замак станецца музэем-гатэлем. На ягонай сьцяне зьявіцца памятная дошка з імёнамі ўсіх знакамітых вязьняў-патрыётаў — ад філяматаў зь філярэтамі ды першых нашаніўцаў да маладафронтаўцаў. Любы ахвотны зможа пажыць у камэры Якуба Коласа або Масея Сяднёва, правесьці велікодны пост на нарах Юрася Хадыкі і г.д.**

**Літвак Крывейта (№ 18, 4 студзеня 2002 г.)**

бібліятэка

# Запісы БІНіМ

Запісы: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.Т. 25. — *New York*—Менск, 2001.

"Запісы" — акадэмічнае, выглядам і зьместам строгае выданьне Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. Як пазначана на тытульным аркушы, гэты том прысьвечаны 50-м угодкам Інстытуту, заснаванага ў 1951 г. Цудоўная, здавалася б, нагода азірнуцца назад і падвесьці вынікі. Але рэдактары "Запісаў" ані пра юбілей, ані пра свой Інстытут не прыгадалі. Ні віншавальных лістоў, ні сьвяточнай справаздачы пра навуковую дзейнасьць, ні пляну на будучыню. Дзе Інстытут цяпер, чым займаецца? Інфармацыі да Беларусі даходзіць замала. Здаецца, ён дзее ўжо і ў нас. Так, у гэтым томе "Запісаў" як працаўнікі Інстытуту пазначаны Ванкарэм Нікіфаровіч (Чыкага) і Зьміцер Саўка (Менск). Астатнія 9 аўтараў артыкулаў — з розных беларускіх установаў: Інстытуту гісторыі, Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Акадэміі навук, унівэрсытэту культуры, — а таксама з Прагі, Лёндану, Варшавы, Нью-Ёрку. Увесь сьвет цікавіцца беларусістыкай і жывіць "Запісы".

Том адкрываецца вялікім агляднышмрыкулам Галіны Сяргеевай "Беларуская дыяспара ў нацыянальнай гістарыяграфіі XX ст.". Ян Максімюк аглядае паваенныя ўзаемаадносіны Рады БНР і Беларускай цэнтральнай рады. Гэта зроблена як бы збоку, бяз лаянкі, што выгодна розьніць гэты матэрыял ад твораў шчырых прыхільнікаў абедзьвюх Радаў. Генадзь Сагановіч зь вялікай павагай піша пра значэньне прац беларускага гісторыка на эміграцыі Вітаўта Тумаша. Настасься Гулак без асаблівай павагі друкуе вы-трымкі з запісак Пятра Бяссонава — вядомага славянафіла і русіфікатара Беларусі ў 1860-я. Запіскі ўтрымліваюць так многа тагачасных тонкіх намёкаў, што бывае цяжка ўнікнуць у іхны зьмест. З архіваў БІНіМу друкуюцца праца Кветкі Вітан-Дубейкаўскай пра даваенную Вільню і апавяданьне Ўладзімера Глыбіннага "Тэстамэнт" (пра часы "Вялікага пералому").

Завяршаюць 25-ы том "Запісаў" рэцэнзіі і хроніка навукова-культурнага жыцьця ў замежжы. Цікава, што "замежжа" для гэтага амэрыканскага часопісу — гэта Амэрыка і ёсьць.

**Валеры Пазьнякоў**

**Замовіць альманах "Запісы БІНіМ" можна праз т. 237-44-58 (20.00—22.00) або пэйдж. 289-12-12, аб.77327 (у любы час). Нядорага.**

ліст у рэдакцыю

# Тлён, Укбар, Арлоў

Той, для каго нешта значыць імя Хорхе Люіса Борхеса, павінен памятаць трывожнае мігценьне люстэрка ў глыбіні калідору летняга дому на вуліцы Гаона ў Рамос-Мэхія, зь цёплага прыцемку якога выплыў сюжэт навэлі пра стварэньне фантастычнага Тлёну — сьвету са сваёй гісторыяй, літаратурай, філязофіяй *etc.*, што неўзабаве пачалі дыфузіяваць у рэальнасьць, пасьпяхова захінаючы яе мітамі, народжанымі розумам таемнага брацтва таленавітых вучоных і геніяльных авантурнікаў.

Шчасьлівую магчымасьць апынуцца ва ўтульным палоне літаратурных рэмінісцэнцыяў падарыў мне сьвежы нумар часопісу "Крыніца", якому, карыстаючыся нагодай, выказваю шчырую ўдзячнасьць за ўвагу да маёй сьціплай пэрсоны, што адлюстравалася як у шэрагу літаратуразнаўчых тэкстаў, так і ў публікацыі майго апавяданьня "Ордэн Белай Мышы" — твору з кароткім, але ўжо даволі пакручастым лёсам.

Ці трэба казаць, што ў такіх выпадках аб'ект дасьледаваньня зазвычай даведваецца пра сябе і калегаў шмат новага і нават прыемнага (напрыклад, што ўжо прафэсійна прачытаная ягоная апошняя кніга "Сны імпэратара"). Зрэшты, як заўважыў некалі Сальвадор Далі, галоўнае — каб пра цябе згадвалі, няхай нават і добра.

Але некаторыя зь літаратуразнаўцаў, якім ласкава аддала свае старонкі "Крыніца", пайшлі значна далей, лішні раз пацьвердзіўшы, што не літаратура насьледуе жыцьцю, а якраз наадварот.

У навэлі славутага аргентынца "Тлён, Укбар, *Orbis Tertius*" усё пачыналася зь бібліяграфіі, а менавіта з кнігаў і асобных твораў, што так і не ўдалося адшукаць, што ніколі й не былі напісаныя, аднак, тым ня менш, мелі велізарны ўплыў на будучыню. Уявіце маё радаснае зьдзіўленьне й натуральны гонар, калі я знайшоў у "Крыніцы" ледзь не дзясятак назваў твораў, якія нібыта выйшлі з-пад майго пяра, але пра існаваньне якіх я дагэтуль часам і не падазраваў. Да прыкладу, пра шыкоўна ілюстраванае выданьне "Ў пошуках украдзенага скарбу" ці пра кнігі "Крыж Ефрасіньні Полацкай" і "Таямніцы Полацкай зямлі". Усьцешлівым адкрыцьцём сталася й наяўнасьць сярод маёй творчай спадчыны апавяданьня "Каханак імпэратрыцы" або верша "Бабачка зь Пятай авэню", прычым гэтыя тэксты ня проста згадваліся, а грунтоўна аналізаваліся — у прыватнасьці, на прадмет "падсьвядомага імкненьня травэстыцыі зьэшчваньня сакральнага".

Выказваючы захапленьне адвагаю асобных літаратуразнаўцаў, я выдатна ўсьведамляю, на які доўгі й складаны шлях яны ступілі. На гэтым шляху, дарэчы, свой плён можа прынесьці і такая, на першы погляд, дробязь, як сыстэматычныя заняткі роднай мовай, бо некаторыя з назваў прапанаванай чытачу "паралельнай" бібліяграфіі яўна вымагаюць карэктаваньня з гледзішча лексыкі. (Як адзін з варыянтаў, прапаную "Бабачку зь Пятай авэню" замяніць на такога ж няіснага, але, прынамсі, больш пісьменнага "Матылька...")

Сама ж веліч задуманага не падлягае сумневу. Застаецца выказаць поўнае глыбокай самапавагі спадзяваньне, што ў арбіту гэтай стваральнай працы будуць уцягвацца ўсё новыя й новыя прафэсіяналы й аматары. Першыя прыклады дазваляюць глядзець наперад з аптымізмам: найбольш паважанае з айчынных інфармацыйных агенцтваў ужо другі раз паведамляе пра новую кнігу Ўладзімера Арлова, прапаноўваючы чытачам на выбар дзьве назвы — "Сын імпэратара" або "Сон імпэратара", а юная журналістка (відавочна, захопленая згаданай вышэй травэстыцыяй зьэшчваньня сакральнага) віртуозна мяняе парачку літараў і замілавана піша пра апошняе надрукаванае "Крыніцаю" апавяданьне У.Арлова "Орган белай мышы".

**Уладзімер Арлоў**
**Укбар, Тлён**

# "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Рэвель** (ад уласнага карэспандэнта). Тутэйшая багатая пані фон Урліх падаравала тутэйшай суполцы землядзельцаў свой уласны двор "кеддэр" вартасьцю 150 тыс. рублёў.

**К.О-Чэркес**
**22 (4) сакавіка 1912, №12-13**

**Фундамэнтальны падручнік паліталёгii**
**Паняцьці, аналізы, тэорыі**

680 старонак. Пераклад зь нямецкай В.Булгакава, Я.Бяласіна, Г.Гірынай, А.Крукоўскага, А.Пяткевіча. Пад рэдакцыяй В.Булгакава. Даведкі праз пэйджэр 289-12-12, аб.116-133.

ПАЛІТАЛЕГІЯ

**Ясная думка, добрая мова**

Працяг са старонкі 5.

# Чаму мы тужым па часах сацыялізму




Падчас сталеньня і студэнцтва будучае "пакаленьне-80" ядналі элемэнты "структуры побыту" (ягчэ супольнага і... канкрэтнага), сымбалі, уласьцівыя эпосе "флаўэр-паўэр", у якой яго прадстаўнікі вырасьлі (мода гіпі, музыка 60-х ды 70-х гадоў, рэчы, якія ягчэ можна было прывозіць з Захаду або суседніх краін, эўрапейскія ці амэрыканскія фільмы, якія ягчэ можна было пагладзець у кінатэатрах і г. д.). Маё пакаленьне — першае (і апошняе), прадстаўнікоў якога нішто не аб'ядноўвала і якое ў выніку ні па чым не сумуе, нават па колішняй мас-культуры.

Для майго пакаленьня, якое сталела ў 80-я гады, "мас-культуры" як такой ужо не існавала: не было ўжо фільмаў, музычных груп, імпартных пласьцінак, моднага адзеньня; не было ўжо амаль нічога з таго, што прывязвае нас да часу, — штодзённых дробязяў, якія ўтвараюць "стыль" пэўнай эпохі, надаюць ёй адметнасьць, сьведчаць, урэшце, што жыцьцё працягваецца, хай сабе і за камуністамі. Ці могуць аб'ядноўваць людзей супольныя расчараваньні, а ня толькі радасьці? Вядома, могуць, але ў нашым выпадку так не было. Нас, народжаных у сярэдзіне 60-х, ядналі толькі супольныя нястачы, дэфіцыты, пачуцьцё скрадзенай маладосьці. І тое, чаго нам не ставала, мы спрабавалі нагнаць, як каму ўдавалася, пасьля 1990 г. Калі ж казаць пра адчуваньне прыналежнасьці да пакаленьня, дык, як ні дзіўна, мне бліжэйшы побыт моладзі 90-х. Калі яны спазнавалі сьвет, я яго вяртала. "Нірвана", "Мэталіка" і Стынг былі мне бліжэйшыя, чым "Бітлз", "Дайр стрэйтз" ці "Паліс". Ня ведаю, ці існуе "нэгатыўная настальгія" — настальгія па часе, канчаткова страчаным. Ня ведаю, ці можна казаць пра "настальгію наадварот", якая заклікае не вярнуцца ў мінулае, а перажыць нанова час, які быў у цябе ўкрадзены, вярнуць усё: забароненыя кнігі, музыку, падзеі сьвету 80-х, які ў той час быў недаступны. Усе гэтыя ідэі і вобразы я ўвабрала ў 90-х, поруч з тагачаснымі ідэямі і вобразамі. Пасьля 1980-га, у найцяжэйшы пэрыяд румынскага камунізму, усе мы, незалежна ад веку, перажылі галечу, якая дала ўсім аднолькавую магчымасьць выбару і аднолькавы досьвед. Прадуктовы набор складаўся з аднаго пачка масла на тыдзень для ўсёй сям'і, адзінага гатунку хлеба (па картках), адзінага віду рыбы (тады быў папулярны іранічны лёзунг: "Рыба на кожным стале!"). Курылі мы адзіную марку цыгарэт (хоць не, марак было дзьве: агульнадаступныя "Карпаты" і прэстыжныя "*Snagov*", зь фільтрам), насілі аднолькавую вопратку фасону "унісэкс" (выключэньнем зьяўлялася адзеньне для кабет пасьля трыццаці, якія мелі выбар з трох-чатырох варыянтаў касьцюму ў цёмных тонах), езьдзілі на аднолькавых машынах — "*Dacia-1300*", жылі ў аднолькавых дамах — халодных шматпавярховіках зь ледзяной вадой і нестабільным газазабесьпячэньнем (гатаваць прыходзілася ноччу, калі "давалі газ").

Камунізм 80-х гадоў у Румыніі быў зусім не падобны да польскага, вугорскага, чэскага ці югаслаўскага камунізму (хіба толькі ў Альбаніі ды ў Савецкім Саюзе жыцьцё было такое ж цяжкае). Памятаю польскую касмэтыку, якая прадавалася на чорным рынку, вельмі мілыя чэскія камуністычныя фільмы для дзяцей, пласьцінкі з заходняй музыкай, што прывозіліся з Баўгарыі, Вугоршчыны ці Югаславіі, баўгарскае тэлебачаньне, аляпаватыя перадачы якога давалі магчымасьць хоць неяк расслабіцца (у Румыніі тэлебачаньне вяшчала дзьве гадзіны ў дзень, дый тое пра аднаго Чаўшэску, таму мы "лавілі" Баўгарыю з дапамогай спэцыяльных антэн, а ў Бухарэсьце дзеля гэтага нават адкрыліся курсы баўгарскай мовы!). Пад канец 80-х гадоў не было ўжо нейкай розьніцы між пакаленьнямі. Усе мы былі ахвярамі герантакратыі.

Калі і ёсьць сёньня ў Румыніі людзі, якія сапраўды тужаць па камунізьме, дык іх няшмат. Справа не ў палітычных поглядах — часьцей гаворка ідзе менавіта пра няпэўны сум па маладосьці, калі яны былі дужымі і здаровымі, калі іх абараняў ад нягодаў уласны дух. Іхная пазыцыя трохі нагадвае показку пра дзьвюх кабет, якія, абмяркоўваючы сталінскія часы, уздыхаюць: "Гэта была добрая пара: мы былі такія маладыя!"

Пад настальгіяй маюцца на ўвазе ўспаміны, але туга па сацыялізьме вынікае з забыцьця. І чым глыбейшае забыцьцё, тым большая настальгія.

## Настальгія ак асабістая праблема

Стаўленьне да супольнай, усёнай мінуўшчыны — рэч глыбока асабістая. Я гутарыла з многімі знаёмымі пра нашу камуністычную маладосьць. "Як, няўжо ты ня памятаеш, якія мы былі шчасьлівыя, калі гадзінамі, днямі і начамі размаўлялі між сабой пра кнігі? Ня памятаеш нашых вечарын, на якіх мы танчылі як шалёныя і курылі цыгарэту за цыгарэтай?" — запытаў у мяне адзін зь іх, абражаны тым, што я скажаю рэчаіснасьць. Чаму ж не, я памятаю нашы бясконцыя спрэчкі, тую агульную агаломшанасьць, у якую мы акуналіся з галавой, памятаю бяздумнасьць, зь якой мы бавілі час, каб аддаліць будучыню. Памятаю нашы спатканьні, афарбаваныя пэўнай доляй суму, падчас якіх мы спрабавалі рабіць пад заходнюю музыку тое, што, на нашу думку, рабіла заходняя моладзь. Памятаю нашы немудрагелістыя ўборы з прэтэнзіяй на адпаведнасьць "модзе", скапіяваныя са строяў, атрыманых некаторымі з нас ад замежных сваякоў, альбо пашытыя паводле леташняй "Бурды".

"Як, ты ня памятаеш, як мы весяліліся?" Але, памятаю, як мы сустракаліся і сьмяяліся, нібы дурні, з Чаўшэску, памятаю, як некалі танчылі пад дзяржаўны гімн і як рагаталі, сьпяваючы патрыятычныя песьні ў рытме джазу або папмузыкі. Памятаю таксама, як потым усе мы вывучыліся на настаўнікаў і ўставалі пасярод ночы, каб дабрацца цягніком у вёскі, у якія нас размеркавалі. Памятаю гэтыя халодныя клясы і галодных дзяцей, частка зь якіх ніколі ня бачыла апэльсіна (!). Апроч добрых адзнак, я адорвала іх "матэрыяльнымі ўзнагародамі" — выразкамі зь нейкага старога часопісу "*made in West*" са здымкамі мадэляў для дзяўчынак і аўтамабіляў для хлапчукоў (радасьць была велізарная!).

"Ня памятаеш, як многа мы чыталі?" Пасьля заняткаў у школе я з адчаем накідвалася на кнігі. Мозг імкнуўся кампэнсаваць дэфіцыт уражаньняў. Часта мозг замяняў нам усё цела, мозг рабіўся нашым целам. Я бачыла і адчувала мозгам, падобна да таго як мае вясковыя вучні адчувалі недасяжныя апэльсыны. Падчас канікулаў мы чыталі па дзьве, па тры кніжкі на дзень. Нашы дамы, поўныя кніг, нагадвалі цесныя каморкі. Мы чыталі ў марозныя зімы, цёпла апрануўшыся, схаваўшыся пад плед і запаліўшы лямпу нават удзень. А што нам заставалася, калі больш не было чым заняцца?! "Як, ты ня памятаеш, колькі мы мелі часу?" А ўжо ж, памятаю, як шмат часу было ў мяне на сум, на нуду, на апантанае чытаньне. Я была нібы Абломаў, толькі, у адрозьненьне ад яго, ня спала, а чытала. Але чытаньне таксама было разнавіднасьцю сну — сну з расплюшчанымі вачыма.

"Ня памятаеш, як мы білі лындзы?" А як жа, памятаю: мы жылі як расьліны, не нярухомыя, застылыя ігуаны. Гультайства было адзінай нашай раскошай. "Ня памятаеш, што для нас значыла сяброўства?" Так, памятаю: мы ўтваралі своеасаблівы клан, стрыжнем якога былі размовы пра сусьветную літаратуру (нам здавалася, што мы ўсё прачыталі!). Цяпер мы ня бачымся месяцамі і гадамі. Дык сяброўства ці нейкая іншая сіла трымала нас разам? А можа, сяброўства наагул зусім ня тое, чым мы лічылі яго тады, можа, гэта нешта большае? "Ня памятаеш, як мы забаўляліся?" Памятаю, якая гэта была забава, калі пасьля 23-й гадзіны перастаюць хадзіць аўтобусы і нас затрымлівала паліцыя. Памятаю таксама дзяўчат, якія памерлі, бо не захацелі нараджаць і ніхто ім не дапамог, калі яны зацяжаралі, — даводзілася рабіць нелегальны аборт. Памятаю таксама свайго прыяцеля, які скончыў жыцьцё самагубствам. І памятаю свой здымак 1989 г. — здымак зацкаванага зьвярка з бліскучымі вачыма, коратка пастрыжанымі валасамі і акуратна пакладзенымі на калені рукамі. Неяк сяброўка сказала мне, што найбольшай крыўдай, якую прынёс ёй сацыялізм, быў замах ня столькі на ейную чалавечую годнасьць, колькі на жаноцкасьць. Пазбаўленьне жаноцкасьці. "А што ён табе даў добрага?" — спыталася я. "Перажыўшы сацыялізм, я магу цешыцца з кожнай дробязі, люблю жыцьцё, нават калі шмат у чым яно цяжэйшае за тое, што было раней".

## Страчаны рай і інфантыльнасьць

Сацыялізм — гэта ня толькі ідэалёгія, гэта пэўны сьвет. Яго, аднак, нельга проста так ні дэманізаваць, ні забыць. Але яго можна прааналізаваць, паглядзець на яго крытычна, бязьлітасна і разам з тым збоку ды зь вялікай доляй іроніі, як гэта зрабілі мае маладыя калегі, што назвалі сваю нядаўна выдадзеную кніжку "У пошуках страчанага камунізму". Гумар, які прыніжае яе, надае ўсяму дзіўную... замілаванасьць. Само сабой, зірнуўшы на сацыялізм як на нешта далёкае, канчаткова мінулае, мы знойдзем у ім і сёе-тое прывабнае: гэта было своеасаблівае "сюррэалістычнае" рабства — з рабамі, якія выстойвалі ў чэргах па білеты ў кіно, па кнігі (апошнія купляліся "з нагрузкай": добрыя і дрэнныя разам); з моцнымі, дружнымі сем'ямі, якія захоўвалі традыцыі і ў якіх старэйшыя (часьцей за ўсё пэнсіянэры) гадзінамі стаялі ў чэргах, каб "дастаць" які-небудзь дэфіцыт для астатніх; дзе культ сяброўства нараджаў цудоўныя повязі паміж людзьмі і даваў бязьмежную інтэлектуальную (і эмацыйную) асалоду ад бясконцых гутарак за кубкам гарбаты. Гэта была эпоха, калі час бег па-іншаму, выпісваючы фігуры, якія напаўнялі сьвет непазбыўнай, часам цудоўнай мэлянхоліяй...

Кожная настальгія зьвязана з пачуцьцём незваротнай страты "раю", якое можа існаваць толькі дзякуючы інстынкту "ідылізацыі" мінуўшчыны. Усе мы запраграмаваныя на тое, каб сумаваць па сваім дзяцінстве, незалежна ад таго, якім яно было. Калі ж паглядзець на ўсё цьвяроза і рацыянальна, нам ня варта ўспрымаць дзяцінства як эпоху шчасьця: гэта быў час забаронаў, падпарадкаваньня бацькам, настаўнікам і г. д. Але дзяцінства ўсё адно лічыцца "залатым векам". У таталітарных і патэрналісцкіх сыстэмах дарослы чалавек — і ня толькі Мілан Кундэра адстойвае гэтую думку — прымусова інфантылізаваўся, жыў у сыстэме правілаў, якія давалі яму адчуваньне ўпэўненасьці ў заўтрашнім дні і пазбаўлялі адказнасьці. Зьдзяцінеўшы, дарослыя маглі гуляцца ў грамадзкай "пясочніцы" пад чуйным вокам бацькі, які клапаціўся пра іх і забясьпечваў ім спакойную будучыню да той пары, пакуль яны выконвалі правілы: "так добра, а так — дрэнна". Нуда, якую адчуваюць сёньня некаторыя, вынікае з загаднай інфантыльнасьці, што дае людзям ілюзію маленькай свабоды і разам з тым — нявіннасьці.

## Настальгія як мэтад працы

Я таксама схільная да настальгіі. Як і польскі пісьменьнік Андрэй Стасюк, я лічу, што "мінуўшчына і ўспаміны — мая айчына і мой дом". Для мяне як для пісьменьніцы вяртаньне ў мінулае — непазьбежнасьць, настальгія ж — мэтад працы.

Я не ўспрымаю камунізму, у якім нарадзілася, ні як "паўнату" (пакутлівы досьвед, які можна апісваць ці выкарыстоўваць у якасьці жыцьцёвага багажу), ні як "пустату" (нешта абсалютна нецікавае, пра што варта забыць, — белую пляму ў існаваньні). Сацыялізм — ад найменшых побытавых дэталяў да сыстэмы адукацыі, ад ежы (хіба чалавек не зьяўляецца тым, што есьць, як пісаў адзін філёзаф?) да сыстэмы ўсялякіх забаронаў і ўціску, якая вісела над намі, — паўплываў на ўсіх нас, але па-рознаму. Калі мы былі роўныя ў бядзе, дык не былі падобныя ў тым, што сацыялізм зрабіў з кожнага з нас. Па сутнасьці, я — гэта тое, што сацыялізм і рэакцыя на сацыялізм зрабілі з мяне. Сацыялізм быў нечым накшталт строгага бацькі — а краіна была строгай маткай. Яны давалі мне "здаровыя" кнігі, але я купляла выключна "хворыя", "дэкадэнцкія". Яны прапаноўвалі мне выхаваўчыя аповесьці пра піянэраў, а я западала на апавяданьні пра "кепскіх хлопцаў" і "кепскіх дзевак" (чула пра адну зь іх, Мадонну, якая сьпявала ў стылі дыска, а потым нават бачыла яе на відэа). Мяне спрабавалі прыстасаваць да герантакратыі, а я жыла ў сьвеце кніг, сярод моладзі з дыялёгаў Плятона, слухала галасы маладога Рэмбо ці Лятрэамона, паэткі Сэй Сэнагон, якую аддзялялі ад мяне стагодзьдзі, альбо сюррэалістаў, пра якіх праз 15 год мне нават выпала напісаць кніжку. Па радыё перадавалі выключна народныя песьні і харавыя сьпевы, а я слухала на магнітафоне Сымона, Гарфункеля і групу "Пінк флойд". Мне паказвалі фільмы пра гістарычных альбо сучасных герояў, а я станавілася ў чаргу ў відэазалю, дзе круцілі стужкі Фэліні, Антаніёні, Бэргмана, Формана. Мне падсоўвалі нейкую падазрона правільную культуру, але мяне гэта мала хвалявала, бо ў маім распараджэньні была культура андэграўнду — літаратурныя суполкі, у якіх нараджалася нябачаная дагэтуль літаратура — вытанчаная і антыкамуністычная. Падобным чынам рабілі і ўсе мае сябры. Камунізм нас душыў, а мы адказвалі яму на гэтую дэфармацыю упартым, нястомным непадпарадкаваньнем. Калі б мы ягчэ ведалі, як яго скарыстаць!

Я — пісьменьніца, для якой мінуўшчына зьяўляецца літаратурным грунтам. Але тое, што я страціла і чаго шукаю, — ня час, а суб'ектыўнасьць. Для мяне адрэзак паміж 1965-м (год майго нараджэньня) і 1989-м (год адраджэньня Румыніі) — ня частка камуністычнай эпохі, а мае жыцьцё. Маё жыцьцё, якое часамі можа быць падобным да вашага, адкуль бы вы ні паходзілі.

**Сымона Папэску (нар. у 1965 г.) — румынская літаратарка (піша паэзію, прозу, эсэ). Гэты тэкст, пададзены са скарачэньнямі, узяты са зборніка эсэ сярэднеэўрапейскіх пісьменьнікаў (сярод якіх Юры Андруховіч і Дубраўка Ўгрэсіч) "Настальгія. Нарысы пра тугу па камунізьме", што выйшла па-польску ў выд-ве "Чарнэ".**

**Напісаны амаль дзесяць год таму раман Юр'я Андруховіча "Маскавіяда" нарэшце перакладзены на "братнія" ўсходнеславянскія мовы. Прычым на абедзьве бадай аднaчасова (па-беларуску — у часопісе "ARCHE").**

**Камэнтуючы ў прыватнай размове расейскае выданьне, маскоўскі крытык Ільля Кукулін засумняваўся наконт таго, што гэтая кніга станецца бэстсэлерам. Але, незважаючы на ягоны скепсыс, людзі яе чытаюць актыўна ды з радасьцю, і таму можна меркаваць, што неўзабаве раман зойме месца на паліцы "калясавецкіх" артэфактаў — зусім недалёка ад "Масквы—Петушкоў".**

**Вызначаць, колькі ды якіх прыёмаў у "Маскавіядзе" было ўжыта і што твор мае супольнага з усімі гэтымі постмадэрновымі дактрынамі, мне падалося заняткам нявартым. Момант непаразуменьня, які ўзьнікае з-за таго, што той ці іншы тэкст знаходзіцца акурат на мяжы паміж проста рэальнасьцю і рэальнасьцю кніжнай, трэба вырашаць на карысьць рэальнай рэальнасьці. Я паехаў ў Маскву. Па мясьцінах Ота фон Ф.**



# Мая Маскавіяда

* * *

"Выходзячы зь цягніка "Масква—Менск", адчуваеш, нібыта ты патрапіў у нейкае іншае вымярэньне..." Гэта не цытата, гэта шаблён. Прыблізна так пачынаюцца артыкулы расейскіх журналістаў, якіх шчыры клопат пра "меншых братоў" разпораз заносіць да нас.

Выходзячы зь цягніка "Менск—Масква", я не адчуў, што патрапіў у іншае вымярэньне. Убачанае можна акрэсьліць як сымбіёз таго, што цяпер не без гідлівасьці называюць "саўком", і не нашмат больш любай для мяне атрыбутыкі грамадзтва спажываньня.

Узоры старой культуры паступова блякнуць. Сьціраецца фарба, абсыпаюцца "сярпастамалаткастыя" барэльефы, а ў будынках, спрэс завешаных вялізарнымі рэклямнымі плякатамі, не адразу адчуваецца прыналежнасьць да савецкай архітэктуры.

Наколькі арганічна яны спалучаюцца з рознымі там "уінстанамі й сымэнсамі"! Шырокія маскоўскія вуліцы нібыта адмыслова былі створаныя для таго, каб "правільныя рабяты" маглі расьсякаць іх на джыпах.

Так што ня трэба казаць. Карані новай рэальнасьці адназначна былі ў старой.

* * *

Зорка, што асьвятляе шлях усяму прагрэсіўнаму чалавецтву, таксама паблякла. Прычым у літаральным сэнсе. Ці гэта мэрыя ашчаджае грошы, ці "сьветач" вымагае капітальнага рамонту, але здалёк зорку на Спаскай вежы, бадай, і не заўважыш. Асабліва на тле ўпрыгожанай, бы ёлка, "*первопрестольной*". Зорка здаецца агеньчыкам цыгарэты ў параўнаньні зь недалёкімі цыклапічнага памеру "бігбордамі", што нікуды нас ня клічуць, а проста намаўляюць купіць кававарку "*LG*".

* * *

Шпацыруючы па брудных, мокрых, поўных спрадвечна незадаволеных людзей маскоўскіх вуліцах, я згадваў, як адзін сябрук надоечы казаў, нібы Ўсход пасьля падзеньня жалезнай заслоны запасычыў у заходняй культуры самае горшае. І ня мог зь ім не пагадзіцца.

Не, я не шкадаваў тады, што сярод запазычанага не было звычкі чытаць Эліята ці гадаваць прыгожанькіх дэкаратыўных парсючкоў.

А вось наконт заходняй чысьціні... Па-савецку брудныя вуліцы разам з тыпова заходнімі хваробамі накшталт наркаманіі — вось яна, квінтэсэнцыя цяперашняга маскоўскага жыцьця.

Наагул, занадта шмат хваробаў.

* * *

Інтэрнат літінстытуту, у якім жыў Ота фон Ф., за ўсе гэтыя гады, відаць, не зьмяніўся. Зьніклі спарторг Яша ды беларускі пісьменьнік Ермалайчык, які сябраваў з паненкай, што мела вельмі спэцыфічны цялесны недахоп. Вызваленыя імі месцы былі імкліва заселеныя новымі завеўнікамі сталіцы. Але ўсё засталося такім самым. "Тутэйшыя сюжэты настолькі аднастайныя й паўтаральныя, што мы, відавочна, маем стасункі зь мітам", — пісаў аўтар "Маскавіяды".

Так што можна было і не "завісаць" у тым інтэрнаце ў сябрука, задаволіўшыся Андруховічавым апісаньнем гэтага так і не адрамантаванага з тых часоў будынку. Пагатоў, ён нічым ня розьніцца ад якой-кольвечы іншай нерамантаванай "абшчагі".

А той устаноўлены экспэрымэнтальным чынам факт, што, мыючыся ў мужчынскім душы, аніяк не пачуеш мяккага сьпеву з жаночага і, адпаведна, сцэна каханьня Ота фон Ф. з прывабнай малаазійкай ёсьць папросту аўтарскай фантазіяй, таксама ня дужа цешыць.

Зрэшты, да галерэі вобразаў "Маскавіяды" маімі стараньнямі можна далучыць яшчэ аднаго яскравага пэрсанажа. Які, дарэчы, цалкам дапасуецца да ўжо існых. Гэта пра яго "цытаваў" Андруховіч верш аднаго генія:

Замри, Эстонь! Литва, дрожи!
Ты русский х... еще увидишь!

Ня так даўно ў Латвіі колькі "лімонаўцаў" вырашылі паказаць "русский х..." — з муляжом гранаты і захопам будынку. Тугія на жарты прыбалты ўспрынялі ўсё ўсур'ёз ды ўпяклі "стрыптызёраў" на пятнаццаць год за тэрарызм.

У тых месцах, куды гэтыя хлопцы патрапілі, ім было вельмі кепска — бо расейскіх фашыстаў і там ня любяць. Але праз пару год "лімонаўцаў" адпусьцілі, адразу дэпартаваўшы за межы краіны.

І вось адзін зь іх пасьля ўсіх выпрабаваньняў прыехаў у Маскву, паступіў на Вышэйшыя літаратурныя курсы ды сьпіць цяпер, можа, на ложку Ота фон Ф. Ён ходзіць па "абшчазе" ў спэцназаўскім строі ды моцна нэрвуецца, сустракаючы на калідоры свайго суседа — беларуса Зьмітра Вішнёва.

Зьміцер, як тарэадор, дражніць яго парай-тройкай бел-чырвона-белых тырадаў ды адразу хаваецца ў свой пакой. Хоць кажа, што ворагаў не баіцца.

* * *

Каларыт кніжцы Андруховіча надаюць ягоныя апэляцыі ня толькі да праяваў маскоўскай рэчаіснасьці (піўнякі, куды трэба ісьці са сваімі слоікамі), але таксама і да "прапісаных" у тым самым часе мітаў. Акурат у тыя часы, калі Ота фон Ф. сноўдаўся па ўсё яшчэ сталіцы, пайшла пагалоска, нібыта ў маскоўскім мэтро зьявіліся мэтровай даўжыні пацукі, што харчуюцца чалавечынай. Вельмі этапны момант, які кожны з нас пераўжыў, але, бадай, ніхто не запомніў. Бо калі ў Савецкім Саюзе магчымае *такое* — значыць, гэтаму Саюзу сапраўды прысьніўся Кабзон.

Пацукоў я ў Маскве ня бачыў. Затое былі сабакі.

...Яны спачывалі ля самага выхаду з мэтро — там, дзе шкляныя дзьверы з надпісам "*Входа нет*". Дванаццаць (!) братоў, сястрычак, мамаў, татаў, а таксама сваякоў ды знаёмцаў, памеры якіх не перавышалі "рэквізытаў" сярэднестатыстычнага рызэншнаўцэра, мірна глядзелі свае сабачыя сны.

Непадалёк ад іх, на такой.самай бруднай падлозе, спалі людзі — пара-тройка бамжоў. Здаецца, сярод усёй гэтай "пераходнай" папуляцыі даўно і назаўсёды былі ўсталяваныя спакой ды роўнасьць у правох. І аніякага сацыяльнага дарвінізму.

* * *

Адаптуючы атрыбуты заходняга сьвету да сваіх патрэбаў, постсавецкае грамадзтва выявілася даволі пераборлівым. І разам з "МакДональдзамі" ды "бігбордамі" чамусьці не запазычыла такіх неад'емных для эўрапейскіх гарадоў інстытуцыяў, як начлежкі. У выніку вуліцы абсалютна ўсіх сталіцаў "СНД і краінаў Балтыі" ўпрыгожылі пастаці, нібы з экранаў агітацыйных фільмаў пра "сьвет кантрастаў".

Незважаючы на ўсе рэпрэсіўныя лужкоўскія меры, у Маскве гэтага народу шматкроць больш, чым дзе-кольвечы. І выглядае ён больш калярытна.

У людзей на вуліцах яны выклікаюць неймавернае раздражненьне. Быць жабраком у "чульлівай" Расеі нашмат горш, чым у "пэдантычнай" Нямеччыне ці якой Францыі. І ня толькі таму, што народ бяднейшы.

На Захадзе ёсьць ня толькі заможнасьць, але й стабільнасьць. На постсавецкай прасторы — ані першага, ані другога. І ёсьць страх страціць нават гэтую апошнюю "чарку ды скварку" — страх настолькі моцны, што пры дапамозе яго нават можна перамагаць на прэзыдэнцкіх выбарах.

Гледзячы на гэтыя жудасныя твары, мы міжволі бачым адзін з варыянтаў таго, што можа стацца з намі. Ненавідзячы бамжоў (а гэтае пачуцьцё распаўсюджваецца ўсё больш і больш), мы ненавідзім саміх сябе — у самым зьненавідным варыянце сваёй будучыні.

...Гэткія думкі мне прыйшлі ў галаву ў атмасфэры татальнае суладнасьці ды любові, што панавала ў агульным вагоне цягніка "Масква—Менск", бітма забітым "працоўнымі мігрантамі" зь беларускіх мястэчак. Яны вярталіся дахаты, да жонак зь дзецьмі, везьлі грошы й пачастункі. Усе пілі, мы таксама. Нейкі дзядзька з Воршы ветліва пацікавіўся аднясна мовы, на якой мы размаўляем. Мы зь ім выпілі, і я сказаў прамову...

* * *

...Андруховічаў Ота фон Ф., колькі б алькаголю ён у сябе ні заліваў, — гэта зусім ня тое, што "аўтагерой" Венечкі зь ягонымі "Петушкамі". На наваколны сьвет ён глядзіць хутчэй вачыма аўтара "Тропіку Рака", які замест Парыжу апынуўся ў Маскве.

Аналёгіі зь ім тут у любым выпадку непазьбежныя. Мілер паказаў усяму сьвету, што пісьменьнік можа быць "нехарошым" і беспакарана грашыць супраць усіх нормаў, матывуючы гэта тым, што ён чалавек. Дрэнны прыклад заразьлівы, і індывідуальны жыцьцёва-літаратурны досьвед (досыць спрэчны з маральнага пункту гледжаньня) выглядае цяпер на сапраўдны архетып, зьвяртацца да якога лічаць за гонар дзясяткі творцаў.

* * *

Калі, зь вялікай цяжкасьцю абуджанае добразычліўцамі, маё цела перасягнула межы цягніка ды ўрэшце кранулася роднай зямлі, я не адчуў, што вярнуўся дахаты з-за мяжы. Не адчуў ані наканаванай мне, згодна са школьнай праграмай па беларускай літаратуры, радасьці, ані смутку, якога я, дарэчы, не адчуваю нават па вяртаньні з самых далёкіх і ўдалых вандровак. Увогуле анічога не адчуў — апроч жаданьня спаць.

Як быццам цягнік прывёз мяне зь нейкага там Урупінску, Жытоміру, Арэхава-Зуева, Новалукомлю... З таго месца, куды езьдзяць толькі ў камандзіроўку "па настойлівай просьбе" шэфа.

* * *

Але ж Масква (прынамсі, у сьвядомасьці) — гэта не які-небудзь Урупінск ці Грубахапырск. Масква — гэта сымбаль. Гэта знак. Памятаеце вялікую зорачку на мапе ў кабінэце геаграфіі?

Аднак сымбаль чаго? Ці засталося яму што сымбалізаваць?

Адзін вядомы польскі мастак сказаў мне, што ня дужа мае ахвоту рабіць нейкія праекты ў Маскве. "Ведаеш, кепскія ў нас наконт гэтага ўспаміны", — патлумачыў ён.

Масква яшчэ няхутка стане для беларусаў (украінцаў, палякаў...) тым, чым яна сапраўды ёсьць. Горадам, дзе прадаюцца досыць смачныя французскія гот-догі, а ў пераходзе каля Рыскага нейкі падобны да састарэлага Пушкіна мужчына прапануе абыякавай публіцы "электрычны ачышчальнік біяполя".

**Сымон д'А. з-пад Бялынічаў**

## Юры Андруховіч

# МАСКАВІЯДА



«Гэта горад тысячы й адной катавальні. Высокі фарпост Усходу перад заваяваньнем Захаду. Апошні горад Азіі, ад п'яных жахаў якога панічна ўцякалі зьнякроўленыя й германізаваныя манархі. Горад сыфілісу й хуліганаў, улюбёная казка ўзброеных галадранцаў. Горад бальшавіцкага ампіру з высознымі пачварамі наркаматаў, з таемнымі пад'ездамі, забаронёнымі прысадамі, горад канцлягераў, нацэлены ў неба сьпічакамі скамянелых гігантаў. Насельнікі тутэйшых вязьніцаў маглі б скласьці адну з эўрапейскіх нацыяў. Горад гранітных вэнзэляў ды мармуровага калосься й пяцікутных зорак памерам з сонца. Ён умее адно пажыраць, гэты горад загаджаных ванітамі падворкаў і перакошаных дашчаных платоў у засыпаных тапалевым пухам завулках з дэспатычнымі назовамі — Садова-Чалабіцеўскі, Кутузава-Тарханны, Нова-Палачоўскі, Дубінава-Зашыбеeўскі, Мала-Акцябрска-Кладбішчанскі...

Гэта горад стратаў. Добра было б зраўнаваць яго зь зямлёю. Насадзіць ізноў глухія фінскія лясы, якія былі тут раней, разьвесьці мядзьведзяў, ласёў, казуляў — хай пасьвяцца вакол парослых імхамі крамлёўскіх абломкаў, хай плаваюць акуні ў ажылых маскоўскіх водах, дзікія пчолы хай засяроджана зьбіраюць мёд у пахкіх глыбачэзных дуплах. Трэба даць гэтай зямлі адпачынак ад яе злачыннай сталіцы. Можа, тады яна выявіцца здольнаю на нешта добрае. Бо ня вечна ж ёй атручваць сьвет бацыламі зла, прыгнёту й агрэсіўнага тупога руйнаваньня!

І ў гэтым, мае спадары й спадарыні, палягае задача задач, неабходная перадумова для выжываньня чалавецтва, і на гэтым хай засяродзіць свой патас уся цывілізацыя вялікіх народаў сучаснасьці — бяз кроплі пралітай крыві, бязь ценю гвалту, выкарыстоўваючы адно гуманныя парлямэнцкія мэтады, зраўнаваць Маскву, за выняткам, магчыма, пары цэркваў ды манастыроў, зь зямлёю, і на яе месцы стварыць зялёны запаведнік кіслароду, сьвятла й адраджэньня. Адно ў такім выпадку можа ісьці гаворка пра нейкую будучыню для ўсіх нас на гэтай плянэце, майнэ дамэн унд герэн! Дзякую за ўвагу. (Агульныя воплескі, усе ўстаюць і сьпяваюць "Оду да радасьці" Бэтховэна, словы Шылера.)

Але гэта адно толькі твая асабістая п'яная думка, фон Ф. І яна можа зусім не супадаць. То бок фатальна не супадаць ані з чым. І стратам людзкім ня будзе канца на гэтай зямлі.



**Пераклад Андрэя Хадановіча, часопіс "Arche" — "Украінскі нумар"**

# Пакаленьне *NEXT*

Мы нараджаліся, калі паміралі Фрэдзі Мэрк'юры і савецкі рэжым, мы ня любім музыкі вашае маладосьці і ня ўмеем зачытвацца тургенеўскімі мэлядрамамі, вашыя "неадольныя тэхналёгіі" мы хапаем зьлёту і ўмомант абжываем, покуль вы дзівіцеся, адкуль у нас гэткія здольнасьці. Мы ўжо людзі зусім іншае эпохі, і вы дзівіцеся з гэтага, чапляючы нам усё новыя і новыя лэйблы, імкнучыся прысабачыць нам чарговы статус "пакаленьня *NEXT*" ці яшчэ якую лухту.

Так атрымалася, і, пэўна, гэта цалкам нармалёва, што ў нашай краіне ў пэўны час у яшчэ савецкіх бацькоў пачалі нараджацца абсалютна несавецкія дзеткі.

Вы часам лічыце, што грамадзтва навокал сапсавалася і што менавіта гэтае грамадзтва нас гадуе і псуе, даючы нам занадта шмат свабоды, замала выхаваньня. Вы забыліся, што свабоднага чалавека цяжка сапсаваць грамадзтвам, вы забыліся, што ў свае -наццаць мы добра арыентуемся ў гэтым сьвеце, каб вызначыць у ім сваю ролю, адпаведную нашым патрэбам.

Мы хутка асвойваемся і прыжываемся, мы ведаем больш, чым можа спатрэбіцца, пра хуткі *i-net*, зручнасьць *sms*'ак, *icq*, усялякія сродкі кантрацэпцыі, стадыі вэнэрычных захворваньняў, навачасную сусьветную літаратуру, кшталту Гелен Філдынг ці Майкла Ўэвэ; найлепшых музыкаў сьвету, прыкладам *Aaliyah* — багіню *r'n'b*, што загінула нядаўна, ці *"The Strokes"* — людцаў,



што вярнулі ў сьвет сапраўдны рок; мы ведаем, калі дасьціпна ўжываць фразу *"For shizzle my nizzle"* і ці варта гуляць з трыма адрасу. Нам вядома, дзе можна танна паесьці і што такое радыё па Інтэрнэце.

Карацей, вельмі хачу давесьці вам, што мы вельмі добрыя і, праходзячы міма вялікай колькасьці нас, вы не павінны стукаць зубамі ад страху і нянавісьці, бо вы папросту нас зусім не цікавіце. Мы маем сваё жыцьцё, і гэта зусім ня значыць, што мы ня любім сядзець пры вогнішчы ды сьпяваць песьні, проста мы любім гэта крыху інакш. У нас няма вашага мінулага, у нас ёсьць нашая будучыня, і, прыйдзе час, мы дабудуем вамі распачаты дом нашае новае Бацькаўшчаны. Толькі так яно будзе, бо толькі так яно бывае.

# Сэрца на далоні

Адным зь першых вясновых ранкаў я крочу па сонечнай віленскай вуліцы і назіраю, як у гэты заліты бляскам промняў час сьнянданкаў, калі звычайна так хочацца аддацца ляноце ды іншым радасьцям выходнага, тысячы і тысячы людзей мітусьліва абжываюць сваімі няхітрымі прыладамі кшталту сталоў і нечага падобнага да намётаў Замкавую вуліцу гораду Вільні.

Як і ў песьні *"U2"*, дзе ў горад прыходзіць вясна, у наш горад разам зь вясною прыходзіць вялікі і гучны казачны Казюк. Ці ведаў Сьвяты Казімер, чый вобраз адлюстраваны на гербе Вільні, што ў ягоны дзень віленскія вуліцы будуць засыпацца галасамі ды гукамі і каляровы кірмаш бязь межаў і абмежаваньняў будзе расьсьцілацца па самых каштоўных вуліцах нашага фантастычна прыгожага места. Тут прадаецца і набываецца ўсё, што можна зрабіць рукамі і што рукамі рабіць не абавязкова.

З Казюка можна не прыносіць нічога, а можна набыць усё, што толькі прыносіць задавальненьне зроку і асалоду іншым органам пачуцьцяў. З Казюка трэба несьці дахаты сэрца. Маленькае ці вялікае, каляровае ці нефарбаванае, мядовае казюкоўскае сардэчка кожны нясе дахаты, каб з новай вясной не губляць сваёй любові, каб дарыць свайму дому маленькую салодкую радасьць празь сьпечанае нечымі цёплымі рукамі казюкоўскае сэрца... Даўней сэрцайкі выпякаліся самых розных памераў, каб нават самы небагаты чалавек, дзіцятка ці стары дзядок данёс да свайго дому з кірмашу пернік-сардэчка.

Казюкоўскі горад раскладаецца і пачынае граць. Замкавая вуліца і ратушны пляц пахнуць ласункамі, сенам і глінай. Я вытрасаю з вацака пару грошыкаў, на хвіліну застываю ў задуменьні, якое сэрца мне набыць, і спыняюся на ружовым.

Цёплым ранкам я нясу дахаты ў далонях сэрцайка.

**Тэда Лі**



**Віктар Шніп**

## Можна працаць, прагуляць маладыя гады...

Можна прапіць, прагуляць маладыя гады,
Быццам ня выйсьці з начной, нібы дым,
цемнаты
І там застацца, нібыта ў скляпеньні схавацца
Ад сакавіцкага сонца, якому ўсьміхацца
Над пачарнелым задымленым сьнегам і
сьветам...
Добра на сьвеце, напэўна, цяпер зь пісталетам,
Толькі навошта п'яному яшчэ й пісталет,
Хопіць таго, што са зброяй мой швэндаўся дзед
І на вайне, і пасьля без вайны, малады,
Быццам бы выйсьця шукаў, як з агню, зь
цемнаты.
Можна прапіць, прагуляць маладыя гады
І анічога ў жыцьці для жыцьця не зрабіць,
Можна сябе нізашто, як сабаку, забіць,
Каб пасьмяяцца пасьпелі былыя сябры,
Покуль і самі ня леглі ў зямлю без пары.
Можна прапіць, прагуляць залатыя гады...
І што тады?..

## Баляда нацдэма

У келіху, нібы агонь, віно.
Нябёснай провай прад табой акно.
Пачаўся дзень... І што цяпер рабіць?
Ці піць і плакаць, ці ў той сьвет званіць —
Ня знаеш ты і ўжо ня хочаш знаць.
У прорве неба журавы ляцяць,
І значыць — восень, ну а там — зіма,
Нібыта белая ў тайзе турма,
Дзе ты марнеў і, гледзячы ў акно,
Вачыма неба піў, нібы віно,
І дні ляцелі, нібы журавы,
І ты дамоў вярнуўся ледзь жывы,
Каб зноў праз вокны паглядаць на сьвет,
Нібы ў тайзе на чалавечы сьлед
Воўк малады, які ня знаў людзей...
У келіху, нібы агонь, віно,
І ад яго наўкол крыху сьвятлей,
І растае, нібыта лёд, акно,
І прарастаеш ты, нібы трава
На месцы тым, дзе спалена царква,
Дзе ты маліўся хлапчуком малым...
І прарастаеш, як над сьвечкай дым,
У гэты сьвет, дзе сёньня мы жывём,
Бы ўцёкшы з турмаў, па тайзе ідзём...

## Баляда вампіра

Вы кроў п'яце, раней пілі віно,
Начамі залятаеце ў акно
Пакою, дзе юнак прыгожы сьпіць
І вас, князёўна маладая, сьніць.
І вы, над ім схіліўшыся ўначы,
Ня можаце ў сабе перамагчы
Князёўну беларускае зямлі.
Вы слаўную князёўную былі!
Юнак прачнецца й пакахае вас,
І спыніцца, нібы гадзіньнік, час,
Але на міг — пакуль не закрычыць
Юнак, які, нібы забіты, сьпіць.
І пройдзе ноч, і вы ў скляпеньне зноў
Схаваеце няшчасную любоў
Да юнака, да беднае зямлі,
Дзе слаўнаю князёўнаю былі...
І прыйдзе князь прыгожы, як сакол,
З сабою прынясе з асіны кол
І вам у сэрца вострыкол заб'е,
І, кол забіўшы, ён заб'е сябе...
Ды дзе той князь? Яго няма даўно.
Вы кроў п'яце, раней пілі віно,
Начамі залятаеце ў акно
Да юнака, які ня знае вас.
І спыніцца, нібы гадзіньнік, час,
Калі прачнецца і пабачыць ён
Вампіра, што яго вартуе сон...



# Дабро, зло

Няма такога зла, якому б эгаізм і амбіцыя не прыдумалі апраўданьняў.

Марна дзяліць людзей. Яны дзеляцца самі. Нізкае і злое ёсьць у кожным. Паводле стаўленьня да гэтага ў сабе людзі і падзяляюцца.

Той, хто дапамагае злу, вельмі рэдка не ператвараецца ў ахвяру гэтага зла.

Цнота ня можа змагацца з заганаю сродкамі апошняй. Па-першае, у гэтым выпадку яна перастане быць цнотаю, а па-другое, абавязкова прайграе, бо страціць падтрымку крыніцы сваёй беззаганнасьці.

Злыя намеры значна часьцей робяцца злымі ўчынкамі, чым добрыя — добрымі.

Мы любім добрых за тое, што яны валодаюць скарбам, якога самі ня маем, — дабрынёй.

Усё добра быць ня можа. А вось усё кепска — так.

Зло існуе таму, што на яго ёсьць попыт. Прычым сярод тых, хто яго заахвочвае і нават прапагандуе, ёсьць ня толькі злыя, але й добрыя людзі. Зрэшты, і добрыя справы робяць ня толькі добрыя людзі.

Добрыя робяць дабро не таму, што трэба, але таму, што добрыя.

Сярод нас нярэдка нараджаюцца абсалютна таленавітыя злом людзі. З маленства яны ў любой сытуацыі беспамылкова вызначаюць свае прыярытэты, сваіх непрыяцеляў і шляхі іх нэўтралізацыі. Іх энэргія ня мае межаў, калі справа тычыцца іхнае выгады. Яны памятаюць крыўды гадамі. Яны плятуць інтрыгі супраць любога, хто, як яны адчуваюць, адчувае іх. У іх няма іншае справы, як *іх* справа, дзеля яе яны могуць ня есьці й ня спаць. Гэткія ёсьць паўсюль: у турме, у царкве, на вярхушыні грамадзтва і на ягоным дне, сярод усіх народаў і нацыяў, ва ўсіх краінах і на ўсіх кантынэнтах. Іх ахвярамі часта стаюцца наіўныя, даверлівыя і амбітныя, якіх яны выкарыстоўваюць і пасьля адрынаюць ад сябе. Кожны з нас можа назваць па некалькі такіх падступнікаў. Зло ўвасабляецца ў людзях, каб быць пераможаным — пасьля многіх сваіх пер[illegible] над намі.

**Сяргей Абламейка, Прага**

**–казкі жыцьця–**

# Падсьветка



Падземны цягнік, вузкі і дакладны, як зьмяя, вязе мяне ў цэнтар гораду — на праспэкт Скарыны. Нібыта дасьведчаны мастак — эпізадычны герой аднаго з апавяданьняў О'Генры, я еду з адмысловаю мэтаю: паглядзець, як кладуцца цені на камяніцах праспэкту пасьля заходу сонца...

Падсьветка менскіх будынкаў — нованавядзеньне апошняга часу. Архітэктурная мода, якая прыйшла з Захаду, што ня раз падкрэсьлівалася ў аптымістычных інтэрвію архітэктараў і ўлады. (І мінакі ў эпізодах падтаквалі: "Так, так! Вельмі падабаецца!..")

Помню, як паступова, зь цягам месяцаў, гэтыя вялікія будынкі "выплывалі", як караблі, з акіяну начной цемры. І, як караблі, яны былі цяпер упрыгожаныя ланцужкамі агнёў — жоўтымі, зь нейкім старадаўнім адценьнем, і халоднымі белымі, зьмярцьвела-блакітнымі...

Будынак, у "труме" першага паверху якога месьціцца кінатэатр "Цэнтральны", нагадаў мне велічны сылуэт "Тытаніка". І я, у маленькай лодцы-людцы, гайдаюся ўнізе каля яго на зыбкіх хвалях свайго суб'ектыўнага ўспрыманьня. На хвалях памяці — нашага першаснага акіяну...

Нехта ў захапленьні параўнаў гэтыя падсьвечаныя будынкі з тэатральнымі дэкарацыямі. У мяне яны выклікаюць пэсымістычны настрой. Падсьвет лямпамі зьнізу ўверх зрабіў будынак падобным да чалавека, які спусьціўся ў сутарэньні са сьвечкаю ў руках: трывожнае, гнятлівае ўражаньне ад скажонага полымем твару.

І чаму гэта Менск, у самім імені якога хаваецца слова "зьменшыць", гэтак пасьлядоўна даводзіць сваім жыхарам, што яны ўсе — мізэрныя, малазначныя часьцінкі? І што ён — не на іх разьлічаны: шырачэзныя вуліцы, гіганцкія дэкаратыўныя васількі на плошчы Якуба Коласа, безьліч прыніжальных для людзей падземных пераходаў і, нарэшце, гэтая змрочная падсьветка...

(Цікавы факт: у першай кніжцы часопісу "Лучынка", што выйшла ў Менску ў 1914 г., зьмешчаны матэрыял невядомага "Б-а" пад назваю "Тытаніка" — пра катастрофу стагодзьдзя. На тым караблі плылі й беларусы!)

...А з падсьвечаных будынкаў мне ўсётакі падабаецца адзін — невялікі будынак Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту, ахутаны стрыманым, пяшчотным фіялетам. Як фіялка ўначы.

**Людка Сільнова**

# АБРАЗКІ абрэзкі

Злачынства — помста, помста — злачынства. Менавіта так рухаецца старажытны ківач гісторыі і жыцьця. Беларускі гістарычны ківач застыў на адзнацы "злачынства". Але помсьце ёсьць хрысьціянская альтэрнатыва — пакаяньне, і пакуль яно не адбудзецца, нашаму грамадзтву не скранууцца зь мёртвага пункту. Вось таму Курапаты — гэта ня проста лес і магілкі, а сакральнае, лёсавызначальнае месца сёньняшняй беларускай гісторыі.

Чытаньне штодзённых газэт — чорны хлеб для розуму, тэлевізія — бясконцая жуйкацягнучка, мастацкія тэксты — сьвяточныя булкі, паэзія ж — далікатэс для гурманаў. А "Наша Ніва" — слоены пірог, дзе можна пакаштаваць і кіслай палітычнай капусты, і праснакоў будзённага жыцьця, і паэтычных разынак, а часам нават пачатачыць зубы аб інтэлектуальныя сухары. Аднак, якімі б смачнымі ні былі тыя "пірагі", разгрузкі патрабуе ня толькі страўнік, але й галава: не забывайцеся хоць раз на тыдзень рабіць "інфармацыйна-посныя" дні.

Па зальдзелым ходніку на хворых, пакручаных артрозамі нагах ідзе бабулька. Кожны крок даецца ёй нялёгка: ступакі падкручваюцца, калені падгінаюцца. Страшна — каб не пасьлізнуцца, не забіцца... Ёсьць героі відомыя, што ходзяць на Джамалунгму ці скачуць ў вышыню на два з паловай мэтры, а ёсьць невядомыя. Для такой бабкі ўскарабкацца на сёмы паверх, калі раптам ліфт сапсуецца, — тое самае, што альпіністу ўзысьці на Эвэрэст...

Адзін у гэтым сэзоне паваліўся — у ціхім месцы, бязь сьведкаў пасьлізнуўся і мякка прызямліўся на бок. А бывала і горш, калі на людной вуліцы з усяго маху ляснешся патыліцай аб лёд: шапка ляціць у адзін бок, рэчы з расчыненага партфэлю ў другі, а сам ляжыш і думаеш — што ж гэта адбылося? І сорамна, і няёмка, асабліва калі нехта яшчэ кінецца дапамагаць... Жыцьцё — цікавы, непрадказальны рэжысэр, але ў асобных сцэнах лепш быць гледачом, чым галоўным героем.



Думка — голая ідэя — усяго толькі шкілет. Словы — мускулы, што вымушаюць яго рухацца, жыць, красавацца. Але калі словаў зашмат, яны ператвараюцца ў тлушч, у якім тонуць думкі і губляюцца ідэі. Сачыце за фігурай сваіх думак, не давайце ім атлусьцець.

**Васіль Аўраменка, Магілёў**

Віктар Шніп

# ХРАМЫ

**На вуліцы разводзьдзе. На падыржавелым за зіму возе мяне і сястру Валю бацькі вязуць у Дубравы ў царкву хрысьціць. Нашы будучыя хрышчоныя — бацькаў брат Славік і маміна сястра Аля — трымаюць нас на руках, як жывых лялек. Мне пайшоў ужо другі год, але я раву як рэзаны. Бацька злуецца: "Вот ты, Ніна, выдумала нейкую язду ў царкву. Прывезьлі б дахаты папа — і ўсё было б як трэба..." Усе маўчаць, а я раву. Недзе там, за гарою, царква...**

На Радаўніцу з бабуляй Ганнай адведалі ў Крывічах магілку майго дзеда Міхася. Я, як толькі можа пяцігадовы хлапчук, дапамог бабулі вырваць з грудка траву і пасыпаць яго жоўтым пясочкам. Падфарбавалі абгародку, паклалі каля крыжа некалькі велікодных яек. Дачакаліся бацюшку, які хадзіў па магілках і маліўся за памерлых. Калі сабраліся ісьці дахаты, наляцеў моцны вецер, наўкол пацямнела. Загрымеў першы вясновы гром, узьляцелі з дрэваў, як сухое чорнае лісьце, вароны. "Пабеглі хутчэй дамоў!.." — занепакоіўся я, але бабуля ўзяла мяне за руку і хуценька павяла ў царкву. У Храме было шмат людзей і сьветла...

З бацькам на возе едзем у Гарадок да жыда, здаваць агрэст. Па дарозе распытваю, дзе што і чаму ўсё так, а не іначай. Бацька ў добрым настроі і расказвае мне з ахвотай пра ўсё на сьвеце. Едзем каля могілак. Бацька спыняе каня і вядзе мяне на могілкі паказваць, дзе і хто пахаваны. У самім Гарадку спыняемся каля рэшткаў царквы, бацька мяне заводзіць у сьцены і кажа: "Паглядзі ў неба..." Я гляджу, а ён пытаецца: "Што бачыш?" — "Неба..." — адказваю я. — "А ў небе?" Я маўчу, а бацька кажа: "А там Бог..."

У школе я добра бегаў, і мяне павезьлі на спаборніцтвы ў Ракаў. Прабег нядрэнна. Да аўтобуса дахаты было яшчэ шмат часу, і нам дазволілі пабадзяцца па мястэчку. Наш фізрук некуды сышоў, старэйшыя хлопцы пайшлі піць чарніла, а я застаўся адзін. Куды пайсьці? І я пайшоў у царкву, каб, як мяне вучыла бабуля, паслухаць Божаньку. Зачынена. Далей за хатамі бачыўся высокі прыгожы касьцёл. Падышоў да яго. Дзьверы адчыненыя. Заходжу, а там змрочна і конь з возам, зь якога людзі згружаюць нейкія вялізныя мяшкі. Едучы дамоў, пра сваю вандроўку па Ракаве я расказаў фізруку. А той усьміхнуўся і сказаў: "У касьцёл у мяшках прывезьлі новых грэшнікаў, і цяпер усю ноч будуць зь іх малоць муку. Будзеш грашыць — і цябе зьмелюць..."

У сярэдзіне 80-х, калі людзі перасталі баяцца хадзіць у Храмы, мая сястра Валя папрасіла мяне быць хрышчоным бацькам ейнага сына. Я згадзіўся, і мы паехалі ў Ракаў у царкву. Людзей у Храме не было. І бацюшка, атрымаўшы, што яму на той дзень Бог паслаў, пацікавіўся: "Як будзем хрысьціць младзенца: па поўнай праграме ці па скарочанай?" Майму швагру якраз не выпадала расьцягваць сьвятую працэдуру, і ён згадзіўся на "кароткую праграму". Гадавалы Сярожа роў у мяне на руках, а я кусаў вусны, каб не засьмяяцца, успомніўшы недзе вычытанае: "Харашо гарланіць. Відаць, камсамольскім важаком будзе..."



Аднойчы ў інтэрнат Літінстытуту да мяне зайшоў Валеры Казакоў, расейскі паэт, які нарадзіўся ў Беларусі. Пагаварыўшы пра жыцьцё-быцьцё, ён прапанаваў: "Паехалі да мяне ў госьці. Я цябе хоць пакармлю нармальнай ежай..." Жыў Валера далёка, на ўскрайку Масквы. Перш чым ехаць да яго, мы вырашылі прайсьціся па вуліцах вячэрняга гораду. Ішлі доўга, і я думаў, што Валера мяне вядзе ў нейкі рэстаран. А прыйшлі ў царкву. Зямляк купіў сьвечкі, і мы іх запалілі за нашу Беларусь. Дома, пачаставаўшы, Валера даў мне пачытаць перад сном Біблію. На той час сьвятыя кніжкі былі рэдкасьцю, і я зачытаўся гадзіны да другой ночы. Хацеў пасьля заснуць, але ня змог — у галаве круціліся словы: *"И всё это суета сует и томление духа под солнцем..."* У пяць гадзінаў раніцы я апрануўся і, нічога не сказаўшы Валеру, паехаў да сябе ў інтэрнат...

У падмаскоўны Загорск, у Сергіеву лаўру, я езьдзіў на вялікія сьвяты. Апошнім разам паехаў зь Людмілай. Трапілі мы туды якраз празь некалькі дзён пасьля вялікага пажару — гарэлі кельлі манахаў. Залатыя купалы Храмаў, пачарнелыя ад дыму сьцены манаскага будынку, чорныя вялікія вароны на яшчэ чорных голых дрэвах, манахі ў чорным, як цені зь мінулага, і мая Людміла сярод усяго гэтага, як Рагнеда...

У які горад ці мястэчка ні прыеду, першае, што хочацца ўбачыць і куды схадзіць, — гэта Храм. Пасьля чарговага "Сьвята паэзіі ў Ракуцёўшчыне" госьці са сталіцы, у тым ліку і я, ідучы па дарозе да электрычкі, зайшлі ў царкву, каб паставіць сьвечкі па Максіме Багдановічу. Сьледам за намі заляцела сінічка і, пакуль мы былі ў Храме, лётала пад купалам...

Калі жыў у цешчы каля Кальварыйскіх могілак, часта хадзіў зь Людмілай да магілы Янкі Лучыны. Час ад часу заглядалі і ў касьцёл. Не маліліся, бо праваслаўныя, а проста стаялі і слухалі малітвы. Цяпер на Кальварыйскія могілкі ходзім і да Вячаслава Адамчыка зь Яўгенам Куліком...

У Дубравах на руінах Храму ў канцы 80-х, відаць, каб прыцягнуць увагу да разбуранай сьвятыні, нехта фарбай напісаў: "Тут хрысьцілі Янку Купалу!" Але і гэты сьвяты падман не ўратаваў сьценаў Храму...

Людміла Рублеўская

# Храм абарончага тыпу

**У беларускага Храму заўсёды намагаліся забраць імя, як і ў беларусаў. Будынкі пераходзілі ад адной канфэсіі да другой, са стану сховішча ўгнаеньняў — у стан Боскага дому... Традыцыйны беларускі Храм — "абарончага тыпу". Царква-крэпасьць — гэта пра нас. Асабліва калі за мурамі — сьвінарнік.**

Храмам ёсьць і чалавек, бо ў ім жыве Бог... Але ж у чалавеку жыве і зьвер. Храм і зьвярынец — спалучэньне, якое не абяцае спакойнага жыцьця.

У чалавеку генэтычна закладзеная "прага Бога". Наблізіцца да Яго, зразумець, што Ён ад цябе хоча, і выканаць гэта... Самае пэўнае — збудаваць Храм. Па дарозе на Івянец мне паказалі драўляную царкаўку, зробленую адным умельцам-вернікам. Падчас працы той зваліўся з рыштаваньняў, паламаўся... І ўсё адно, яшчэ ў гіпсе, будаваў далей.

У царкве на бэрлінскай Курфюрстэндам ля ўваходу — талерка зь вялізнымі чырвонымі яблыкамі. Хто ахвяруе на Храм пару марак, ва ўзнагароду можа ўзяць яблык. І, напэўна, спажываючы яго, адчуць перамогу над тым грэшным плодам ды наблізіцца да страчанага Эдэму.

Канец 80-х. Еду па Маскве на тралейбусе. Зьлева — клубы белага дыму, быццам адкрылася пекла. Месцічы тлумачаць: гэта басэйн на месцы ўзарванага Храму Хрыста Збаўцы.

Аднакурсьніца па Літінстытуце, таўсматая чарнявая масквічка, хваліцца, што плавае ў тым басэйне штотыдня... Вада, кажа, гнілаватая.

Мне шаснаццаць. Сьпякотны чэрвень. У нас практыка па малюнку. Мы разьмясьціліся на зялёным пагорку ля Менскага катэдральнага сабору і робім акварэльныя накіды. Вада ў слоіках хутка мутнее. Выкладчык раіць нам ісьці па ваду... у царкву. Самыя сьмелыя ідуць і хутка вяртаюцца з поўнымі слоікамі і гумарыстычнымі камэнтарамі наконт убачанага. Нарэшце і мы зь сяброўкай, узяўшыся за рукі, нясьмела заходзім у прахалоду. Набіраем у прытворы вады са звычайнага латуннага крану, але сыходзіць не сьпяшаемся — цікава. Прыхаджанаў мала — чалавек дзесяць разам са сьвятарамі. Цісьнемся да мармуровай калёны са сваімі слоікамі, у дэкальтаваных сарафанах. Крыжыкаў на нас няма. Чарнявая цётка з вусамі, якая басам сьпявае малітву, зіркае на нас усё пільней і замест малітвы пачынае апантана паўтараць: "Госпадзе, пазбаў ад спакусы!" Цётка пазірае на нас так страшна, яна хістаецца, голас яе грыміць усё гучней, і мы выбягаем з Храму, як гандляры ад Хрыстовага бізуна.

Малюнкі, выкананыя на сьвятой вадзе, асядаюць дзесьці ў лябаранцкай, каб пасьля паслужыць палітрамі для наступных навучэнцаў.

Храм павінен быць вышэйшы за іншыя будынкі. Ацалелыя ў савецкім Менску Храмы ўмуроўвалі ў бэтонныя шэрагі квадратных дамоў, сьсякалі крыжы і купалы, і побач абавязкова ўзводзілі вышэйшае, ідэалягічна правераное збудаваньне.

У Расеі калісьці існаваў закон "празораў" — каля Храму належала пакідаць незабудаваныя месцы, каб яго можна было бачыць здалёк і з усіх бакоў. А першыя хрысьціянскія Храмы былі ў катакомбах, глыбока пад зямлёй. Тамсама хавалі памерлых сьвятароў і прыхаджанаў. Але, можа быць, адтуль, ад цёмных сырых пячораў, было бліжэй да неба, чым ад гіганцкіх раззалочаных купалаў, збудаваных на сродкі высокапастаўленых зладзеяў...

Практыка па малюнку ў Вільні. Вечарамі мы блукалі па вузкіх брукаваных вулках, заходзілі ў Храмы... Праваслаўныя цэрквы былі збольшага занядбаныя, з пабітымі вокнамі, размаляваныя зьдзеклівымі надпісамі. У адным з такіх Храмаў я ўпершыню паставіла сьвечку. І ўпершыню перахрысьцілася, усхвалявана разумеючы, што стала на бок пакрыўджаных і зьняважаных.

У гэты час у віленскім касьцёле наша аднакурсьніца Сьветка, найлепшая сяброўка тэхнікумаўскіх мурынаў, "зьняла" маладога прыгожага літоўца. Прыйшла да нас у пакой пахваліцца... І нечакана высьветліла, што падчас цёплага разьвітаньня кавалер выцягнуў з задняй кішэні ейных нагавіцаў-штроксаў (мурынскага падарунку) сорак рублёў.

Сьляды Сьветкі губляюцца ў Партугаліі, куды яна, пасьля кар'еры валютнай прастытуткі, патрапіла, акруціўшы дзесьці ў Расеі супрацоўніка пасольства краіны піратаў і рыбакоў, дзе ёсьць масіўныя Храмы вэстготаў і Храмы "мануэліна" з маўрытанскімі каменнымі карункамі.

Да Храму трэба ісьці. І нават не заўсёды па зямлі. Храмы Новай Гвінэі, плеценыя з прутоў, будуюцца проста ў моры. Шлях да іх — па вадзе.

Зазвычай усе дарогі краіны сыходзіліся да яе галоўнага Храму — і ў Рымскай імпэрыі, і ў дзяржаве інкаў. Нашы дарогі сыходзяцца да якогась адміністрацыйнага будынку. Ён найчасьцей квадратны і шэры, як ахвярны камень.

З акна тралейбуса добра відаць на беразе Сьвіслачы, дзе ў яе ўпадае паланянка Няміга, белы камень на месцы старажытнага Храму. Дарожкі, засыпаныя бітай цэглай, пазначаюць контур сьценаў. Падмурак — глыбока ў зямлі... Гэта — наш Храм і сэрца гораду, але ніхто не зьвяртае на яго ўвагі. А ён стаіць, толькі нябачны — бо Храм зруйнаваць нельга. Можна зруйнаваць ягонае цела зь зямнога праху, а духоўная сутнасьць Храму — несьмяротная.

А побач, у падземным пераходзе мэтро, безьліч кветак і вянкоў ахвярам, што загінулі на Тройцу. Ці зайшлі іхныя душы ў нябачны нам Храм?

### 10 мяхоў беларускай гісторыі

# БАЦЬКА БУХАЛОВІЧ



Палымяны патрыёт Беларусі й нязломны змагар за ейнае шчасьце Стась Бухал-Бухаловіч нарадзіўся ў 1883 годзе ў маёнтку Мейшты на Браслаўшчыне, часова акупаванай фэдэральнымі войскамі Расейскай Імпэрыі. Амаль адразу па нараджэньні ён адчуў сябе беларускім генэралам і пачаў чакаць свайго часу.

Ішлі гады, Стасевы сябры з суседніх фальваркаў выбіваліся ў людзі — хто паступаў у маскоўскі ўнівэрсытэт імя Лулумбы па квотах для Віленскага краю, хто, пасьля вайсковай вучэльні, трапляў у марскую пяхоту на японскі фронт. Дзеля маскіроўкі Бухал-Бухаловіч таксама скончыў 4-гадовыя курсы аграноміі пры грамадзкім фондзе "Бяльмонты". Але з дыплёмам агранома яму нічога не сьвяціла, і Стась зафрахтаваўся бухгальтарам у будаўнічую фірму, што аднаўляла Каўкаскі хрыбет пасьля антытэрарыстычных апэрацыяў царскага войска. У вольны ад перастрэлкі з падатковай інспэкцыяй час Стась апантана чытаў успаміны Франца Савіча, а таксама вершы Лермантава ў перакладзе Багушэ-віча. Скончылася тым, што хлопец закахаўся ў прыгожую чачэнку, якая, на ягоную бяду, мела зь дзясятак братоў і зусім яшчэ не старога бацьку. Стась не пасьпеў нават слова сказаць сваёй пасіі: адзін неасьцярожны погляд — і дзікія горцы гналіся за ім аж да Дзісенскага павету, пакуль не прасадзілі апошнія грошы ў Мёрскім казіно. На Каўказ Бухал-Бухаловіч вырашыў не вяртацца — уладкаваўся аканомам у маёнтку графа Плятэра. Усе Стасевы спробы стаць на шлях прагрэсу й зладзіць на базе маёнтку першы экспэрымэнтальны калгас сканчаліся сялянскімі хваляваньнямі: тут яшчэ добра памяталі паншчыну. Тады хлопец пачаў змаганьне з карупцыяй. Ён вы-крываў мафіёзныя структуры, перасьледаваў местачковых габрэйскіх алігархаў, выступаў на кірмашы з прамовамі, зачытваючы ўсё новыя й новыя сьпісы галоўных зладзеяў. За гэта народ яго любіў і называў "бацькам".

Як кожны прафэсійны змагар з карупцыяй, Стась меў асабістую ахову. Ягоныя хлопцы наводзілі парадак ва ўсім павеце: разганялі несанкцыянаваныя вячоркі; арыштоўвалі памешчыкаў, што кіравалі фурманкамі ў нецьвярозым стане; правяралі пашпарты й кішэні ў асобаў небеларускай нацыянальнасьці. Па дакумэнтах гэтае незаконнае абы-чым узброенае фармаваньне праходзіла як дзісенская пажарная дружына.

Калі выбухнула першая сусьветная вайна, Бухал-Бухаловіч пайшоў на яе шараговым добраахвотнікам. Па дарозе ў ваенкамат ён уступіў у партыю (БСГ), а таксама ўзяў у палон групу эстонскіх турыстаў — падумаў, што гэта ўжо немцы...

Ня дзіва, што на фронце Стасю не далі агняпальнай зброі — узброілі сапёрнай рыдлёўкай ды запісалі ў кавалерыю. Вайна зацягнулася, перайшла ў пазыцыйную. Седзячы ў акопах разам з коньмі, жаўнеры захапіліся азартнымі гульнямі. Асаблівага посьпеху тут дасягнуў Стась. У часе чарговага братаньня з кайзэраўцамі ён выйграў у іх у даміно акоп, што выклікала адступленьне нямецкіх войскаў на значным участку фронту. Бухаловіч адразу атрымаў афіцэрскія пагоны і з радасьці так гульнуў, што ачомаўся ў глыбокім варожым тыле, паблізу Нясьвіжу, на чале дывэрсійнай кавалерыйскай групы. Каб трапіць да сваіх, давялося скарыстацца радзівілаўскім падземным ходам. Выйшлі, пасьля двухдзённага рэйду, аж пад Будславам.

З тае пары рэйды па нямецкіх тылах зрабіліся спэцыялізацыяй Бухаловіча. Звычайна ягоную групу разам з коньмі дэсантавалі ў тыл ворага, дзе ён здабываў інфармацыю, языкоў і харчы для Магілёўскай стаўкі. Кожную ноч ягоныя сувязныя выходзілі на сувязь з цэнтрам. З Магілёва прылятаў аэраплян, і партызанскі махальшчык запальваў паходні й махаў азбукай Морзэ ў паветры, перадаючы каштоўныя зьвесткі пра перамяшчэньні варожых войскаў, а таксама пра стан здароўя і настрой "бацькі" Бухаловіча.

Пасьля Кастрычніцкага путчу Стась паверыў быў бальшавікам, але пасьля некалькіх харчразьвёрстак, якія больш нагадвалі зачысткі, зразумеў, што з камуністамі савецкай улады не збудуеш, і перайшоў да белых. Разам з генэралам Юдзенічам яны рушылі на Петраград.

Чырвоныя некалькі разоў прызначалі ўзнагароду за галаву "бацькі" Бухаловіча. Стась зазвычай зьяўляўся па грошы асабіста, на чале сваёй дывізіі. З часам ён сабраў немалы капітал. Да Бухаловіча пацягнуліся людзі. Чырвоныя пераходзілі да яго палкамі.

Ваюючы на Пскоўшчыне, "бацька" вырашыў зрабіцца кіраўніком мясцовай адміністрацыі — з таемнай думкай далучыць край да Беларусі. На восень 1919 г. былі прызначаны выбары. Бухаловіч зарэгістраваўся адзіным кандыдатам і разаслаў па Пскоўшчыне агітацыйныя казацкія загоны. Нечакана, прыкрываючыся ідэямі дэмакратыі й правоў чалавека, вылучыў сваю кандыдатуру стары прафсаюзны манархіст Радзянскі. Каб пазьбегнуць расколу ў белым руху, генэрал Юдзеніч заклікаў кандыдатаў сабрацца на каардынацыйную нараду: белыя хацелі схапіць "бацьку" ды пазбавіць яго кандыдацтва. Але Бухаловіч адразу ўсё зразумеў і, прыехаўшы на нараду, арыштаваў Юдзеніча, пабіў бутэлькі, перакуліў стол ды ўцёк у лес. Белы рух пры-знаў "бацьку" нелегітымным гэнералам.

Расчараваўшыся ў чырвоных і ў белых, Бухал-Бухаловіч нарэшце зразумеў сутнасьць бруднай расейскай палітыкі. У ягонае сэрца вяртаюцца зацярушаныя пылам вайны сьвятыя беларускія сымбалі й ідэі. Бухаловіч пачынае змагацца за вольную незалежную Беларусь.

На грошы эміграцыйнага ўраду БНР выпускаюцца маркі з выявай Бухаловіча і рэклямай беларускага войска. У Эўропе спрабуюць пра-біць грант пад мабілізацыйную кампанію ў "бацькаву" дывізію. На станцыю "Менск-Таварны" прыходзіць эшалён з шынялямі, анучамі і споднім з вышытай на іх сымболікай "уступай".

Аднак польскі Фонд Пілсудзкага прафінансаваў толькі частку гранту. Калі ж Стась разам са сваім войскам прыехаў у Берасьце, выявілася, што фундатары могуць аплаціць толькі квіткі. "Бацьку" прапанавалі распачаць партызанку ў бальшавіцкіх тылах, а пасьля, па выніках дзейнасьці, будзе й фінансаваньне.

Але не пасьпеў Бухаловіч правесьці і пару сваіх знакамітых рэйдаў з арганізацыйнымі сэмінарамі па беларускіх гарадах, як урады Польшчы і Расеі падпісалі дамову ў Рызе. Фінансаваньне Фонду Пілсудзкага было спыненае. Апошні здолеў перадаць гатоўкаю мільён аргентынскіх пэса, на якія Бухаловіч зладзіў дэмакратычныя выбары прэзыдэнта Беларусі й аднагалосна перамог. Аднак Савецкая Расея і прэзыдэнт БССР Чарвякоўскі прызналі выбары несапраўднымі, антыканстытуцыйнымі й праведзенымі з парушэньнямі. Агітацыйныя рэйды Бухаловіча здолелі ахапіць толькі Мазыр, Калінкавічы і Рэчыцу. У Тураве адбылося заключэньне дамовы з аб'яднанай апазыцыяй, якая прызнала "бацьку" кіраўніком Беларусі й абвясьціла нелегітымнымі БНР Ластовіча і БССР Чарвякоўскага.

У той час у Слуцку на польскія грошы ствараецца рэсурсавы цэнтар, які адцягнуў частку сродкаў і валанцёраў ад арміі Бухаловіча.

Чырвоныя ж, спарадкаваўшы Ўрангеля, нападаюць на сталіцу Бухаловіча — Мазыр. Безграшоўе вымушае "бацьку" з рэшткамі арміі выехаць у Польшчу па групавой візе. Тамака ўсе яны трапляюць у лягер палітуцекачоў.

Атрымаўшы палітычны прытулак, "бацька" купіў хатку ў Белавескай пушчы, павесіў на сьцяну шаблю, зашпурнуў на гарышча свой буйнакалібэрны агнямёт Макарава й адышоў ад справаў. Але ненадоўга. У Гішпаніі пачалася мабілізацыйная кампанія генэрала Франка, і "бацька" паехаў туды назіральнікам ад АБСЭ. Там Бухаловіч закладае "Баскаў рух" (тубыльцы ня здолелі па-людзку вымавіць слова "бацька")...

Зьнік Бухал-Бухаловіч падчас акупацыі Варшавы нямецкімі войскамі. Шмат хто казаў, што ён загінуў. 2541 паляк сьцьвярджае, што сьмяротна паранены "бацька" памёр менавіта на ягоных руках. Аднак сакрэтныя дакумэнты сьведчаць, што Бухаловіч, паранены ў баёх, вярнуўся ў Беларусь ствараць партызанку. Расказы пра Вітушку — гэта расповеды пра Бухаловіча... Іншыя крыніцы кажуць, што гэта ён, пераапрануўшыся ў жаночую вопратку, падклаў бомбу пад гаўляйтэра Кубэ, а пасьля доўгія гады жыў у Менску з пашпартам на імя А.Мазанік, падпольна рыхтуючы глебу для нацыянальнага адраджэньня, у якое верыў да апошніх дзён.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## Паштовая скрынка



**Менчуку са скрыні 71.** Вашае платнае абвесткі зьмясьціць ня можам. Падайце яе ў спэцыялізаванае выданьне.

**Зьмітру П. з Кастрыцы.** Артыкул пра новую кніжку Ірванца вельмі павярхоўны. Вы пераконваеце чытача, што яна файная, але нават назваў п'есаў не пазначаеце, дый пра аўтара нічога ня пішаце. І самае, бадай, галоўнае пытаньне — ці можна гэтую кніжку набыць у Беларусі і ці мае яна да Беларусі дачыненьне? У артыкуле пра біятлён, як для рубрыкі "Спорт", замнога патэтыкі й нічым не абгрунтаваных сьцьверджаньняў.


## Прыватныя абвесткі

### праца

**Патрэбны мэнэджэр па продажы** кампутарнай тэхнікі. Умовы: веданьне жалеза, беларуская мова. Праца ў краме па вул. Чорнага. Т.: 288-45-88, 282-01-06, (8-0296) 23-24-35

**Дасьведчаная швачка** шукае прыробак у хаце. Швейнае абсталяваньне ёсьць. Т.: (216) 46-7-31, 46-3-06

**Мэнэджэр** (35 гадоў), 10 гадоў у гандлёвай фірме, в/а ў шоў-бізнэсе, 13 гадоў у палітыцы, аўтаправы, шукае працу. Т.: 227-80-14

### вітаньні

**9"Б" клясу** — зь Вялікаднем. Хрыстос уваскрэс. Ваш Дэсік

**Віншую Аляксандра** з 50-годзьдзем! Здароўя, шчасьця, творчых посьпехаў. Хай зьдзейсьняцца ўсе твае мары. Ядвіся

**Сьвятыя Аляксандар**, Сэрапіён, Юльян і Трахім радуюцца і вітаюць Іначку ў яе Дзень народзінаў

**Іна**! Віншую з Днём народзінаў. Божай ласкі і шчасьлівага лёсу Табе і Беларусі. Ганна

**Спадарыню Іну**, знаўцу ўсіх выбрыкаў бактэрыяў і вірусаў, ушаноўваем і славім у Дзень народзінаў. Эскуляп, Дойлід і Мудрэц

**Іначка**, мілая, як жа ты сьвет упрыгожыла
Ластаўка ты шызакрылая
Наша жыцьцё растрывожыла...
Сябры, якія побач

**Янку-абаранку** — зь Вясной і Днём народзінаў. Халера на бавоўну. ZIDZI

**Віншуем з народзінамі** нашага любімага прафэсара Рагулю. 25 сакавіка для нас двойчы сьвята. 402 група БДПУ

**Віншую ўсіх сяброў** з 25 Сакавіка (Алеся Высоцкага, Віталя Вінаградава+МФ+БНФ+МІЦ+СШ№2+Мядзел+А.Капуцкага+А.Саротнік+А.Міхалевіча)

**Віншую ППРБ** з прафэсійным сьвятам — 1 красавіка! Зычу здароўя, здароўя й яшчэ раз здароўя. Той, хто шчыра спачувае

### кантакты

**Сям'ю ствару** зь непітушчым чалавекам 60—80 г., без жыльлёвых і матэрыяльных праблемаў. Мне 64 г., удава, добрасумленная, ня поўная, працавала бібліятэкаркай, да сэксу няздольная. 210015, Віцебск-15, п/д 439322

**Любы**! Не забудзься, што 12.04 мы ідзём на канцэрт адзначаць угодкі нашага каханьня. Калі ласка, не спазьняйся, бо я чакаю. Твая А.

**Буду ўдзячна** таму, хто знайшоў мае пальчаткі, згубленыя на вечарыне памяці Міхася Ткачова. Т.: 246-43-15

**Нічка**, дзе ж мне ўзяць калькулятар? ZIDZI

**Жлабінчук** (32/177/70) з в/а, бяз шк/зв, пазнаёмлюся зь дзяўчынай (23—30 г.), безь дзяцей, для стварэньня сям'і. Т.: (02334) 37-3-97

**Я** — 28 год, прывабны, добры, клапатлівы, бяз шкодных звычак. Адрас: а/с 21, Віцебск-21, 210021. Аляксандру. Ты — простая, верная дзяўчына 18-30 год, сьціплая, бяз бурнага мінулага, зьнешнасьць, адукацыя, стан здароўя вялікай значнасьці ня маюць. Пісаць толькі для стварэньня сям'і

**Хлопец (18)** шукае сябра. Захапленьняў шмат. Акрамя правінцыялаў. Пажадана фота. 220073, а/с 71

### талака

**Грамадзкі камітэт "Кальварыя"**, моладзевае аб'яднаньне "Гісторыка" і незарэгістраванае аб'яднаньне "Эўрапейскі шлях" ладзяць 6 красавіка з 10.00 да 18.00 талаку на Менскай Кальварыі – унікальных могілках, зьвязаных з імёнамі славутых беларускіх родаў. Шчыра запрашаем далучыцца да нашай працы!

НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______

Імя і прозьвішча ______

Адрас, тэлефон ______


## сабачыя гісторыі



**Адзін сабака трапіў у больніцу. Грамадзян прыйшоў яго адведаць, прынёс вяроўку і кусок мыла: "Павесьцеся, баценька, а то я за сябе не ручаюся, гледзячы на вашы страданьні..."**

**Адзін сабака памёр. На пахаваньне прыйшло шмат народу. Толькі Грамадзян сядзеў у хаце і гнаў самагонку: "Мне не хацелася б зараз выступаць у ролі нейкага цудатворцы, які ў сябе за пазухай носіць рэцэпты выжываньня ці рэанімацыі вытворчасьці мяса. Аднак у мяне, як грамадзяна, які аддаў значную частку свайго сьвядомага жыцьця адраджэньню вёскі і ўкараненьню перадавых тэхналёгіяў, накапілася вопыту, якім я магу падзяліцца і што-небудзь параіць адносна вобшчага працьвітаньня..."**

**Адзін сабака ляжаў** на беразе рэчкі і загараў. Ніхто на яго не зьвяртаў увагі, і толькі Грамадзян хадзіў туды-сюды і пытаўся: "Вы мужчына ці жэншчына?"

**Віктар Шніп**


НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |



**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**


© **НАША НІВА**. Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 850 ад 20 чэрвеня 2001 г., выдадзенае Менскім гарадзкім выканаўчым камітэтам. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3776.

Нумар падпісаны ў друк 3.04.2002.

Замова № 2077.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а